Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 35 (4886) 2 верасня 2016 г.



# Светлы Дзень

СПЕЦЫЯЛЬНЫ ВЫПУСК



Фота Юрыя Немізянскага.

*Прыгожы Рагачоў, сёлетняя сталіца Дня беларускага пісьменства, гасцінна запрашае на свята ўсіх, хто шануе роднае слова.*

Дарога была доўгай. Некалькі дзён ішла ў Рагачоў экспедыцыя «Дарога да святыняў», асвятляючы, згодна з традыцыяй, шлях да свята пісьменства Боскім агнём. Ці ўсё ж гэта была дарога на тысячагоддзе ці стагоддзі?.. З пэўнымі прыпынкамі, дзе пакідалі сляды нашы папярэднікі, пра якіх цяпер гаворуаць «асветнікі». Так называюць тых, хто нёс святло ведаў пра існасць. Святымі прызнавалі людзі некаторых з іх: за тое, што дарылі радасць нават у цемры. Асвятлялі шлях сваімі справамі. Мудры наш народ у словах вельмі дакладны: святыні і асвета — праявы адной энергетычнай сутнасці. Моцная энергія святла перамагае адлегласці часоў (калі іх носьбіты жылі даўно) ці прастораў (далёка) праз іх думкі, заключаныя ў літары. Гэтыя маленькія значкі валодаюць магутнай сілай, у якой растворaны ўсе законы сусвету ад самага першага: энергія сапраўды не знікае. Яна пераходзіць не толькі з адной формы ў другую — яна можа перадавацца ад аднаго пакалення ўсім наступным і нават праз пакаленні не страціцца, а будзе шукаць шчыліну, праз якую аднойчы выбухне.

Дзень беларускага пісьменства — гэта вось такі выбух энергіі многіх пакаленняў, якія прайшлі і сышлі. Але не ў нябыт, таму што шмат стварaлі, і былі асобы, якія імкнуліся гэта зафіксаваць, адлюстраваць і захаваць. А цяпер мы іх узгадваем і разумеем, адкуль жа браць сілы, каб жыць і ствараць. Свята было задумана дзеля арыентацыі ў прасторы і часе, каб мы не забыліся, хто такія і хто за намі. Каб разумелі тое, што робіць нас грамадствам.

Пра гэта напярэдадні светлага Дня мы размаўляем з міністрам інфармацыі Рэспублікі Беларусь Ліліяй Ананіч.

Працяг тэмы на 2-й стар. ▶

Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.

# Светлы Дзень



Лілія Ананіч.

**— Геаграфія свята шырокая: кожны год новы горад, што, відаць, няпроста для арганізацыі свята. Лілія Станіславаўна, як на вашу думку, што дае такі падыход?**

— Дзень беларускага пісьменства — гэта дзяржаўнае свята, якое ўжо мае сваю гісторыю. З 1994 года яго прымалі розныя рэгіёны, гарады, і не ў малой ступені дзякуючы такому падыходу яно здолела стаць святам усёй краіны, аб'яднаць людзей усведамленнем прыналежнасці да культуры, што мае тысячагадовыя традыцыі пісьменнасці і кніжнасці, якія паўплывалі таксама і на развіццё іншых народаў. Жыхароў Беларусі ўжо не трэба пераконваць у гэтым, яны ўсвядомілі сутнасць свята, якое мы ладзім і дзеля таго, каб захоўвалася прага да ведаў, самаразвіцця людзей, інтэлектуальнага і духоўнага ўдасканалення. Таму гэта свята для тых, хто працуе са словам — пісьменнікаў, журналістаў, выдаўцоў. І гэта свята для тых, хто чытае тое, што пішацца і выдаецца цяпер. Свята злучае першых і другіх, дае магчымасць пачуць і зразумець адзін аднаго праз сустрэчы і шматлікія імпрэзы з удзелам аўтараў. Пагадзіцеся, гэта дарагога каштуе, калі можна пазнаёміцца з творцамі, якіх ведаеш толькі па кнігах. А наш час такі, што і кніга мяняецца дзякуючы новым тэхналогіям. Цяпер чытаць можна ў электронным варыянце, знаходзіць цікавыя творы ў сеціве. Але важна, каб людзі разумелі: тэхналогія можа быць рознай (як і першадрукар Скарына ў свой час уводзіў інавацыйныя тэхналогіі), але галоўнае — змест, думка, якую нясе чытво. І ўсё напісанае ў наш час, дзе б яго ні знаходзілі, адлюстроўвае рэальнае жыццё і ствараецца нашымі сучаснікамі дзеля таго, каб мы маглі асэнсоўваць свае крокі, больш выразна бачыць кірунак, куды ідзём.

Дзень беларускага пісьменства па традыцыі праводзіцца ў гістарычных і культурных цэнтрах, з якімі звязана жыццё вядомых дзеячаў краіны, выдатных пісьменнікаў, творцаў. Для нашых гарадоў гонар прымаць такое свята. Але і адказнасць: трэба засведчыць перад жыхарамі і гасцямі (у тым ліку шматлікімі замежнымі) высокі ўзровень сучаснага развіцця. Таму свята — гэта яшчэ і стымул, каб удасканаліць гістарычныя і культурныя аб'екты, інфраструктуру горада.

**— На свята звычайна прыязджаюць з падарункамі. Што падрыхтавалі для жыхароў Рагачова?**

— Адмысловы падарунак — Дом кнігі, які адкрыецца абноўленым менавіта ў Дзень беларускага пісьменства. Ён павінен стаць інтэлектуальным цэнтрам горада. Разам з бібліятэкай і чытальнай залай адкрыецца кніжная крама «Першацвет», стварэнне якой ініцыявала менавіта Міністэрства інфармацыі. А ўсяго да свята ў горадзе добраўпарадкавалі больш за 40 сацыякультурных аб'ектаў, што таксама шыкоўны падарунак.

Павінны парадаваць жыхароў горада і кніжныя падарункі. Да свята падрыхтаваныя тэматычныя выданні, прысвечаныя Рагачову: «На берагах Дняпра і Друці: народная духоўная культура Рагачоўскага раёна», кніга-альбом «Рагачоўшчына — зямля натхнення і дабра», зборнік твораў рагачоўскіх літаратараў «Добры дух зямлі Дняпроўскай». Свае любімыя кнігі падораць гораду і шматлікія госці, а каб гэтымі дарункамі маглі карыстацца абсалютна ўсе жыхары, захоўвацца яны будуць, вядома, у раённай бібліятэцы. Міністэрства інфармацыі — больш за 3 тысячы назваў, Саюз пісьменнікаў Беларусі — бібліятэчку твораў класікаў і сучасных пісьменнікаў, далучаюцца і выдавецтвы «Мастацкая літаратура», «Вышэйшая школа» ды інш.

А хіба не падарункі шматлікія імпрэзы, сустрэчы, вечарыны, канцэрты? Поўная праграма налічвае больш як 70 мерапрыемстваў, што адбудуцца на 16-ці сцэнічных пляцоўках, створаных у горадзе. У жыхароў Рагачова ёсць падставы для гонару: выстаўка «Па-сапраўднаму народны», прысвечаная творчасці пісьменніка і драматурга Андрэя Макаёнка (ён родам з гэтых мясцін). Сёлета багата нагод, каб узгадаць славутых беларускіх пісьменнікаў — Максіма Багдановіча, Змітрака Бядулю, Івана Мележа, Кандрата Крапіву, Івана Шамякіна… Яшчэ пра адну знакавую асобу для беларускай культуры — Уладзіміра Мулявіна — нагадае спектакль «Пясняр» Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Горкага (яго пакажуць у Рагачове). Прэзентацыю кнігі «Владимир Мулявин. "Сэрцам і думамі"», прысвечаную 75-годдзю з дня нараджэння музыканта, з удзелам аўтара Людмілы Крушынскай, а таксама Леаніда Барткевіча і Вадзіма Касенкі, ладзіць выдавецтва «Мастацкая літаратура». У Рагачоўскім гарадскім Доме культуры Музей гісторыі музычнай і тэатральнай культуры — філіял Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь — арганізуе выстаўку «Песня — каштоўны дар».



Дзень беларускага пісьменства ў Шчучыне (2015 г.).

Вечар славянскай культуры, падворкі і выстаўкі з магчымасцю набываць кнігі, нават літаратурныя квэсты — тое, што дапамагае падтрымліваць у жыхарах Беларусі прагу да ведаў. Улічваючы рэзананс, які маюць Мінскія міжнародныя кніжныя выстаўкі-кірмашы, вынікі працы нашых выдавецтваў, з гонарам магу прызнаць: у нас жывуць людзі, якія не згубілі цікавасці да чытання.

**— Сучасная кніга — люстэрка сучаснага жыцця. Беларуская кніга — люстэрка беларускай рэчаіснасці. Яна дае падставы для асэнсавання з'яў, што адбываюцца ў нашым грамадстве. Якія захады, на ваш погляд, даюць плён у плане папулярызацыі чытання і, у прыватнасці, кніг беларускіх пісьменнікаў?**

— Сёння наш галоўны клопат — выхоўваць дзяцей чытачамі. У сучасных малых шмат спакусаў, у тым ліку небяспека сысці ў віртуальную прастору, дзе зусім іншыя, адрозныя ад рэчаіснасці, мадэлі зносінаў, каштоўнасці. Таму з ініцыятывы нашага міністэрства праходзіць акцыя «Лета з добрай кнігай». Падчас летніх канікул пісьменнікі і выдаўцы выязджаюць на месцы, дзе адпачываюць дзеці, знаёмяць юных чытачоў з цікавымі кнігамі. Уражвае магчымасць убачыць пісьменніка ў рэальным жыцці, задаць пытанні. Вынік — жаданне потым пазнаёміцца з творамі. На папулярызацыю кніг айчынных аўтараў скіраваная акцыя «Сямейнае чытанне», таму што бацькі — лепшы прыклад. Менавіта ад іх дзіця пачынае разумець каштоўнае ў жыцці. Розныя адукацыйныя ўстановы і бібліятэкі — прыступкі, якія вядуць у свет ведаў далей і робяць вялікую працу па далучэнні да чытання. Пра гэта сведчыць і конкурс «Жывая класіка», калі школьнікі чытаюць мастацкія творы і выказваюць свае думкі.

Творчы патэнцыял нашай моладзі дае надзею на развіццё беларускай літаратуры. У іх павінна быць магчымасць выказаць думкі ўголас, каб іншыя іх аднагодкі пачулі і задумаліся, якое жыццё хочуць будаваць. Таму па ініцыятыве Міністэрства інфармацыі сёлета мы абвясцілі конкурс маладых літаратараў «Першацвет». Спадзяёмся, што ён актывізуе прыток талентаў у айчынную літаратуру, узбагаціць яе новымі творамі.

**— Але намінацыя «Дэбют» захоўваецца і ў рамках Нацыянальнай літаратурнай прэміі?**

— Так, абавязкова. Прэмія ў намінацыі «Лепшы дэбют» — гэта аванс на будучыню, заахвочванне маладога творцы. Нацыянальная літаратурная прэмія была заснаваная дзяржавай для таго, каб падкрэсліць: у Беларусі ёсць вартыя творы і добрыя пісьменнікі, цікавыя сучасным чытачам. Але самае галоўнае, чаму трэба чытаць беларускае: гэта пра нас. І ў адрозненне ад іншых узнагарод, што могуць атрымаць нашы майстры мастацкага слова, лёс гэтай прэміі вызначаецца ў залежнасці ад таго, што актуальна для нашай краіны. Нацыянальная літаратурная прэмія будзе ўручацца ў другі раз у Дзень беларускага пісьменства ў Рагачове. Сёлета колькасць яе саіскальнікаў узрасла: на конкурс было пададзена больш за 30 твораў, якія ўбачылі свет у 2015 годзе. У экспертнай камісіі было шмат працы. Лепшых у сямі намінацыях назавуць падчас адкрыцця свята. А далей нашы лаўрэаты возьмуць удзел у сустрэчах і чытаннях — ужо як зоркі. Ладзіцца ўсё менавіта для таго, каб падкрэсліць аўтарытэт пісьменніцкай і наогул інтэлектуальнай працы, якая дае глебу для развіцця іншых відаў мастацтваў.

**— Кніга — таксама мастацтва, пра што сведчаць адпаведныя конкурсы…**

— Так, кніга як мастацкі твор адзначаецца на конкурсах па ўсім свеце, і ў Беларусі мы штогод праводзім такі конкурс у рамках Мінскіх міжнародных кніжных выставак-кірмашоў. Прыемна, што нашы выдавецтвы прывозяць ганаровыя дыпломы (і нават Гран-пры) міжнародных конкурсаў. Але не менш гонар я адчуваю, калі ў сваёй краіне мы штогод маем магчымасць адзначаць лепшых сярод сапраўды выдатных: айчынныя выдавецтвы адказна працуюць над кнігамі, выбіраючы і тэмы, і творы, замаўляючы ілюстрацыі прафесійным мастакам, якія тонка адчуваюць слова. Яны робяць гэта не дзеля прызоў, а з клопатам пра чытача, які на паліцах крам мае багаты выбар рознай паліграфічнай прадукцыі. У наш час поспех кнігі ў чытача — гэта і змест, і яе вонкавы выгляд, і добрая паліграфія. Магу засведчыць: у нас кнігі чытаюць. У Беларусі не змяншаюцца колькасныя паказчыкі па найменнях кніг (штогод выдаецца каля 11 тысяч), ёсць пажаданне працаваць над павелічэннем тыражоў пры тым, што яны павінны быць эканамічна абгрунтаваныя, бо кнігу яшчэ неабходна прадаць. А каб прадаць сур'ёзнае выданне, якое патрабуе ўдумлівага чытання, трэба папрацаваць і маркетолагам. Таму што ў друкаванай кнігі цяпер ёсць сапернікі — тэхналагічныя і больш гнуткія ў тым, каб найпрасцей прыйсці да чытача. А з другога боку, гэта стымулюе: кнігавыдаўцам, творчым нашчадкам Скарыны даводзіцца ўдасканальвацца.

**— Налета мы будзем адзначаць 500-годдзе беларускага кнігадрукавання. Ці пачалі падрыхтоўку да яго нашы выдаўцы і тыя, хто працуе са словам?**

— Ужо сёлета стартуе адлік гэтай даты, і напярэдадні свята, яшчэ ў Мінску, падчас міжнароднага круглага стала «Сугучча: слова Скарыны ў сучасным свеце» пачнецца размова пра ролю нашага першадрукара ў распаўсюджванні ведаў і асветы. Разам з Міністэрствам інфармацыі яго ладзяць Саюз пісьменнікаў Беларусі і Выдавецкі дом «Звязда», выдавецтва «Мастацкая літаратура». Пісьменнікам заўсёды ёсць пра што пагаварыць, асабліва ў кантэксце справы Скарыны: і пра ўплыў слова на грамадства, і пра шляхі, якімі яно можа ісці да людзей, і пра каштоўнасці, якія яно захоўвае. Юбілей, да якога мы рыхтуемся, — гэта не толькі гісторыя беларускага кнігадрукавання — гэта частка сусветнай гісторыі кніжнай культуры. Таму 500-годдзе выдання Францыскам Скарынам кнігі «Псалтыр» будзе адзначацца па лініі ЮНЕСКА. А на прасторах Садружнасці Незалежных Дзяржаў пройдзе пры падтрымцы Міждзяржаўнага фонду гуманітарнага супрацоўніцтва дзяржаў — удзельніц СНД. У Беларусі мы фактычна пачалі адзначаць гэтую дату такімі выданнямі, як «Францыск Скарына на мовах свету», «Скарыніяна». Цікавыя праекты рэалізуе Нацыянальная бібліятэка Беларусі. Кнігі, прысвечаныя Скарыне і гісторыі кнігадрукавання, выйшлі ў выдавецтвах «Народная асвета», «Беларусь», «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі». Усё самае цікавае па магчымасці прадставім у Рагачове. Чым больш жыхароў нашай краіны будуць ведаць пра падрыхтоўку да святкавання адметнай даты, тым больш цікавым і сапраўды ўсенародным свята атрымаецца. Таму лагічна, што Дзень пісьменства ў 2017 годзе зноў прыме Полацк — горад, які стаў калыскай беларускай культуры. Наша задача — зрабіць так, каб кожны жыхар краіны насіў гэтую культуру ў сваім сэрцы, зразумеўшы, праз якія церні яна імкнулася да зор, сваімі высокімі памкненнямі натхніўшы нараджэнне краіны. Культура сучаснай Беларусі, у тым ліку традыцыя шанавання пісьменнасці, сведчыць пра тое, што наша краіна моцна стаіць на нагах.

Ларыса ЦІМОШЫК

**Мікола ЧАРНЯЎСКІ, беларускі пісьменнік:**

*— Свята пісьменства мае вялікае значэнне, асабліва для тых гарадоў і рэгіёнаў, якім пашчасціла прымаць яго. Важна, што людзі, якія жывуць у гэтых маленькіх мястэчках, могуць быць бліжэй да роднага слова, могуць адчуць яго глыбей. Неаднойчы я прыязджаў у гарады, дзе святкавалі Дзень пісьменства. І мне заўсёды было цікава, што змянілася. А сёння з радасцю збіраюся ў Рагачоў, бо лічу гэта месца сваёй другой радзімай. Калісьці на Рагачоўшчыне часта бываў пісьменнік Уладзімір Караткевіч, гэты факт таксама прыцягвае туды. Увогуле свята пісьменства аб'ядноўвае кнігай. У звычайным жыцці не заўсёды задумваешся пра непаўторную спадчыну, якая нам засталася. А на святкаванні Дня пісьменства з'яўляецца нагода і падумаць пра гэта, і ўбачыць сучасны стан і вынікі літаратурнага працэсу на ўласныя вочы.*



Мікалай Чаргінец.

# І творчасць паказаць, і моладзь прадставіць

Падрыхтоўка да свята ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі праходзіла не адзін тыдзень: абмяркоўваўся план, гучалі новыя прапановы… Дык што ў выніку прадставяць айчынныя літаратары на рагачоўскай зямлі? На пытанні карэспандэнта «ЛіМа» адказвае старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі **Мікалай ЧАРГІНЕЦ**.

**— Дзень беларускага пісьменства не назавеш падзеяй шараговай…**

— Безумоўна. Свята паказвае, што народ і ўрад нашай краіны ставяцца да літаратуры з вялікай увагай і клопатам. Сёлетні фэст будзе праводзіцца пры актыўным удзеле Гомельскага аблвыканкама і Рагачоўскага гарвыканкама. Для Саюза пісьменнікаў Беларусі гэта не толькі свята — своеасаблівая творчая справаздача аб тым, што зроблена цягам года.

Падчас фэсту сябры СПБ выступяць на цэнтральнай сцэне разам з артыстамі айчыннай эстрады, якія з намі супрацоўнічаюць. Прагучаць песні на вершы лаўрэата прэміі Саюзнай дзяржавы Івана Юркіна. Дзейнасць пісьменніцкай арганізацыі будзе адлюстравана і на розных інфармацыйных стэндах. Пройдзе шэраг тэматычных імпрэз па творчасці класікаў айчыннай літаратуры Андрэя Макаёнка і Уладзіміра Караткевіча. Львіную долю працы па падрыхтоўцы да свята ўзяло на сябе Гомельскае абласное аддзяленне СПБ на чале з Уладзімірам Гаўрыловічам, якое зладзіць цэлую серыю творчых сустрэч.

У нядзелю будзе пасаджана алея з нагоды 10-годдзя СПБ. Гэта зробяць сябры СПБ разам з прадстаўнікамі адміністрацыі Рагачова. У той жа дзень, пасля афіцыйнага адкрыцця свята, ужо ў другі раз пройдзе цырымонія ўзнагароджання лаўрэатаў Нацыянальнай літаратурнай прэміі. Падкрэслю, што ў параўнанні з літаратурнай прэміяй «Залаты Купідон», якая раней уручалася за лепшы твор года, статус Нацыянальнай літаратурнай прэміі значна вышэйшы. І, адпаведна, настолькі вышэйшая ацэнка працы кожнага з лаўрэатаў.

А заўтра ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі з удзелам нашых пісьменнікаў адбудзецца міжнародны круглы стол «Сугучча: слова Скарыны ў сучасным свеце». Гаворка пойдзе пра ролю літаратуры ва ўмацаванні міжнацыянальнай дружбы, у першую чаргу — стасункаў паміж народамі краін былой СНД.

**— Чым айчынныя пісьменнікі маюць намер уразіць гасцей свята?**

— На кніжнай выстаўцы ў Рагачове можна будзе пабачыць больш як дзвесце тамоў твораў нашых пісьменнікаў. Кнігі перададзім у дар бібліятэцы сёлетняй сталіцы Дня беларускага пісьменства. Прычым гэта будуць выданні не толькі сучасных літаратараў, у тым ліку лаўрэатаў сёлетняй Нацыянальнай літаратурнай прэміі, але і класікаў: Янкі Купалы, Якуба Коласа, Івана Шамякіна, Івана Чыгрынава… Свята пісьменства — гэта і адкрыццё новай палітры яркіх імёнаў, новых кніг, твораў. У Саюза пісьменнікаў Беларусі вялікая адказнасць: паказаць не толькі сябе і свой літаратурны набытак, але і прадставіць творчую моладзь.

**— Дзень беларускага пісьменства ладзіцца цягам двух дзесяцігоддзяў. Якія змены адбыліся ў арганізацыі святкавання за гэты час?**

— З кожным разам свята мадэрнізуецца, удасканальваецца, становіцца больш пазнаваўчым і цікавым для грамадства. Адкрываюцца новыя помнікі выбітным дзеячам айчыннай культуры, на картах гарадоў з'яўляюцца новыя назвы вуліц. Мацуюцца творчыя стасункі паміж пісьменнікамі розных краін, прычым геаграфія свята штогод пашыраецца. Усё гэта надае фэсту адметны каларыт.

**Яна ЯВІЧ**



Напалеон Орда «Палац Румянцавых і Пашкевічаў у Гомелі».

***Напалеон Орда, аб'ездзіўшы ўсю Беларусь, кожнае места пакідаў не толькі ў душы, але і захоўваў для нашчадкаў. У мастацкіх альбомах аўтара пейзажаў Гомельшчыны сустракаецца не так і многа ў параўнанні з іншымі рэгіёнамі. Тут у асноўным пейзажы самога Гомеля. Маленькіх мястэчак амаль што няма. Літаграфія Палаца Румянцавых і Паскевічаў — адна з самых вядомых работ мастака, прысвечаных Гомельшчыне. На шчасце, палац захаваўся да сучаснага часу і з'яўляецца кампазіцыйным цэнтрам Гомельскага палацава-паркавага ансамбля. Але ж на многіх работах аўтара замацаваны аб'екты архітэктуры, якія не захаваліся да сённяшніх дзён. Гэтым і каштоўная творчасць Напалеона Орды: мноства садова-паркавых аб'ектаў, якія калісьці размяшчаліся на Беларусі, былі разбураныя часам альбо ў выніку ваенных дзеянняў. І ўявіць іх сёння дазваляюць толькі мастацкія работы.***

## Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае:

**3 верасня** — *на творчую сустрэчу з празаікам Наталіяй Касцючэнка, што адбудзецца ў СШ № 23 (вул. П. Панчанкі, 56). Пачатак а 14-й гадзіне.*

**3 верасня** — *на літаратурнае свята, прысвечанае Дню горада Мінска, з удзелам групы пісьменнікаў. Мерапрыемствы пройдзе ў паэтычным дворыку (Верхні горад). Пачатак у 16:20.*

**6 верасня** — *на паэтычна-музычнае свята-прэзентацыю выстаўкі фотамастака Міхаіла Крыжаноўскага "З любоўю, удзячнасцю, верай", прысвечанай дзейнасці Мінскага гарадскога аддзялення СПБ. Імпрэза пройдзе ў дзіцячай бібліятэцы № 5 (вул. Русіянава, 48). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**7 верасня** — *у Школу паэзіі пры Мінскім гарадскім аддзяленні СПБ (вул. Фрунзэ, 5-309). Кіраўнік Міхась Пазнякоў. Пачатак а 15-й гадзіне.*

**8 верасня** — *у Дом літаратара (вул. Фрунзэ, 5; 2-і паверх) на прэзентацыю кніг 2016 года, што выйшлі ў кніжных серыях Мінскага гарадскога аддзялення СПБ («Бібліятэка МГА СПБ» і «Мінскія маладыя галасы»). Пачатак а 17-й гадзіне.*

## Віцебскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**7 верасня** — *на сустрэчу з паэтэсай Тамарай Красновай-Гусачэнка «Што ў душы, тое будзе і ў слове» ў Віцебскай цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя М. Горкага (пр. Фрунзэ, 30а). Пачатак а 13-й гадзіне.*

**13 верасня** — *на літаратурны вечар «Восень ціха згарае ў пажарах рабін…», які адбудзецца ў Наваполацку ў бібліятэцы імя Маякоўскага (вул. Калініна, 1). Удзел бяруць паэты Мікалай Балдоўскі, Пётр Буганаў, Галіна Загурская і іх сябры з народнага літаратурнага аб'яднання «Наддзвінне». Пачатак а 17-й гадзіне.*

## Гродзенскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**5 верасня** — *у літаратурную вандроўку «Край наш Нёманскі на таленты багаты» з удзелам ганаровага члена СПБ, паэта Браніслава Ермашкевіча ў філіял № 7 ЦБС г. Гродна па адрасе: г. Гродна, вул. Камарова, д. 5. Пачатак у 15.30.*

**6 верасня** — *на «Літаратурны ранішнік» з удзелам паэта Браніслава Ермашкевіча ў сярэднюю школу № 3 г. Гродна (вул. Фамічова, д. 16). Пачатак а 10-й гадзіне.*

**6 верасня** — *на свята кнігі «Вечны цуд — кніга», прысвечанае Дню беларускага пісьменства, з удзелам пісьменніц Людмілы Кебіч і Ганны Скаржынскай-Савіцкай у дзіцячы філіял Гродзенскай абласной навуковай бібліятэцы імя Я. Карскага (г. Гродна, вул. Савецкая, д. 25). Пачатак а 14-й гадзіне.*

**6 верасня** — *на «Коласаўскія чытанні» з удзелам члена СПБ, дзіцячай пісьменніцы Таццяны Сучковай у філіял № 6 ЦБС (г. Гродна, пр. Касманаўтаў, д. 4а). Пачатак а 12-й гадзіне.*



Уладзімір Гаўрыловіч.

# Са словам рагачоўскім

Сёлета гасцей свята беларускага пісьменства сустракаюць на Гомельшчыне — у Рагачове. Чым адметны літаратурны асяродак рэгіёна? Лёсы якіх вядомых літаратараў звязаныя з Рагачовам? Пра гэта і не толькі — наша гутарка са старшынёй Гомельскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, празаікам і публіцыстам **Уладзімірам ГАЎРЫЛОВІЧАМ**.

— На Рагачоўшчыне пачыналася і працягвалася літаратурнае жыццё дзясяткаў беларускіх літаратараў. У іх ліку найперш — народны пісьменнік Беларусі, драматург Андрэй Макаёнак, 95-годдзе з дня нараджэння якога мы зараз адзначаем шырока. Народны пісьменнік Беларусі Міхась Лынькоў, выбітны празаік і паэт Уладзімір Караткевіч. Цесна звязаны з Рагачоўшчынай і лёс паэта Міколы Янчанкі. Акрамя таго, гэта малая радзіма майго калегі — драматурга і празаіка Васіля Ткачова. Сёння на ніве мастацкага слова тут шчыруюць Міхась Сліва, Віктар Купрыянчук і Уладзімір Шпадарук. На мяжы Жлобіншчыны і Рагачоўшчыны жыве і працуе выдатны беларускі празаік Валянціна Кадзетава.

**— Літаратурнае жыццё Гомельшчыны вірлівае. Адны «Літаратурныя дажынкі» чаго вартыя! А што пісьменнікі рэгіёна прадставяць на сёлетнім свяце?**

— У Гомелі старт святу ўжо дадзены. Сёння распачаліся дзясятыя «Славянскія літаратурныя дажынкі»-2016. На цэнтральнай пляцоўцы фестывалю, у абласной універсальнай бібліятэцы імя У. І. Леніна, пісьменнікі Гомельшчыны, Масквы, Бранска, Краснадара, Таганрога, Курска, Сумаў і Чарнігава пазнаёмяць чытачоў са сваімі творчымі набыткамі, раскажуць пра новыя творы і дзейнасць пісьменніцкіх арганізацый. На свяце адбудзецца фінал абласнога конкурсу чытальнікаў «Захаваем свет разам!», прысвечанага 95-годдзю Андрэя Макаёнка. Разам з Гомельскай епархіяй падвядзём вынікі абласнога літаратурнага конкурсу «Праваслаўе — мая надзея», у якім, дарэчы, традыцыйна бяруць удзел аматары мастацкага слова з Рагачоўскага раёна. Прагучаць і аўтарскія песні на словы нашых паэтаў.

Сёлета выйшла з друку больш як два дзясяткі цікавых кніг гамяльчан. Новыя творы гомельскіх пісьменнікаў прадстаўлены ў айчынных і замежных літаратурна-мастацкіх часопісах. Прэм'ер і сюрпрызаў чакаецца нямала. Не абыдзецца і без падарункаў: бібліятэцы перададуць прэзентаваныя выданні з аўтарскімі аўтографамі. Гэта таксама добрая традыцыя. Цікавай будзе і міжнародная імпрэза ў гарадскім цэнтры культуры — свята славянскай культуры. Тут таксама чакаюцца цікавыя прэзентацыі кніг. Адна з іх выйшла дзякуючы сяброўству Гомельскага аддзялення СПБ з літаратарамі Таганрога, Растова і Краснадара — вялікі двухмоўны зборнік перакладаў «Берагі дружбы». Праект ажыццявілі пры нашым кураатарстве маладыя творцы з Гомеля і Мінска...

**— Што да сяброў Гомельскага абласнога аддзялення СПБ…**

— Падчас свята яны будуць сустракацца з чытачамі, прэзентаваць новыя кнігі. У цэнтры Рагачова размесціцца літаратурная пляцоўка, дзе пісьменнікі Гомельшчыны не толькі раскажуць пра сваю творчасць, але і гасцінна запросяць выступіць шматлікіх пісьменнікаў краіны і замежных гасцей.

Некалькі гомельскіх творцаў атрымаюць абласную літаратурную прэмію імя Кірылы Тураўскага і кнігі, выдадзеныя па ўмовах конкурсу рукапісаў на саісканне гэтай прэміі. Дарэчы, нядаўна званне лаўрэата прэміі атрымалі мясцовыя празаікі Міхась Сліва і Валянціна Кадзетава. Наша аддзяленне таксама не застанецца ўбаку. Мы заснавалі 10 літаратурных прэмій, якімі будуць адзначаны дваццаць пісьменнікаў, што за апошнія дзесяцігоддзе стварылі высокамастацкія творы, чый унёсак заўважны і ў літаратуры, і ў грамадска-культурным жыцці вобласці.

Годна і запамінальна для мастакоў слова ды чытачоў прайшоў мінулагодні міжнародны фестываль у Ельску і аграгарадку Зашыр'е Ельскага раёна. Пісьменнікі сустрэлі на Палессі шмат цікавых, неардынарных людзей — безумоўна, прататыпаў будучых герояў мастацкіх твораў!

Заўтра пісьменнікі Гомельшчыны разам з украінскімі ды расійскімі гасцямі паедуць у аграгарадок Журавічы. Тут мы ўшануем памяць Андрэя Макаёнка і сустрэнемся з чытачамі.

А яшчэ Гомельскае абласное аддзяленне СПБ выпусціла плакаты «Гомельшчына літаратурная», якія будуць выкарыстоўвацца бібліятэкамі вобласці, падарункавы набор з 56 буклетаў, прысвечаных творчасці пісьменнікаў-гамяльчан, а таксама наш традыцыйны літаратурны альманах, дзе прадстаўлены творы членаў СПБ і пачаткоўцаў. Напрыклад, гамяльчанка Юльяна Пятрэнка дэбютуе ў ім са сваім апавяданнем як малады празаік.

**— Што асабіста вы адчуваеце напярэдадні свята пісьменства?**

— Вельмі радуе, што фэст стаў акцыяй дзяржаўнай важнасці і значнай грамадска-культурнай падзеяй. Я перакананы, што святкаванне Дня беларускага пісьменства спрыяе таму, каб людзі далучаліся да роднага слова, да кнігі. Чакаю мноства прыемных сустрэч з калегамі, чытачамі.

Дарэчы, я еду на свята не з пустымі рукамі. Ёсць чым парадаваць чытача: у айчынным выдавецтве «Чатыры чвэрці» выйшла шыкоўная кніга-альбом «Тураўская рапсодыя» пра маю малую радзіму.

**Арына КРАЙКО**

❑ *Фанетычныя рысы беларускай мовы сустракаюцца ў пісьмовых помніках пачынаючы з XIII стагоддзя. Так, у Дагаворнай грамаце смаленскага князя Мсціслава Давыдавіча з Рыгаю і Гоцкім берагам (1229 год) адлюстравана чаргаванне гукаў* ***в*** *і* ***ў****.*

❑ *Агульная для беларусаў і ўкраінцаў старая літаратурная мова, перш за ўсё канцылярская мова Вялікага Княства Літоўскага, шмат узяла з пісьмовай традыцыі, якая існавала ў Галічы і на Валыні, блізкіх да Кракава, да культурных цэнтраў Цэнтральнай Еўропы. Калі ж цэнтрам княства стала Вільня, так званая арэальная база гэтай мовы мігрыравала на поўнач і была там, дзе Вільня, Слонім, Маладзечна, што дае падставы называць яе старабеларускай. Кожная літаратурная мова — дастаткова штучнае ўтварэнне: слонімцы, палачане, кіяўляне размаўлялі па-рознаму, але на пэўным этапе карысталіся адной пісьмовай мовай. Як кажуць мовазнаўцы, літаратурная мова можа быць парасонам для розных дыялектных ці этнічных супольнасцей.*

❑ *У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі захоўваецца перакладзены на расійскую мову Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 года, надрукаваны ў Санкт-Пецярбургу (1811). Статут перакладаўся на дзяржаўную мову Расійскага царства (Масковіі) яшчэ ў першай палове XVII стагоддзя і быў адной з крыніц «Саборнага ўлажэння 1649 года». Пераклад Статута на «славена-расійскую» (па вызначэнні Міхаіла Ламанасова) мову нашых усходніх суседзяў — адзін з фактаў, якія сведчаць пра адрозненне між старабеларускай і расійскай (альбо маскоўскай) мовамі.*

❑ *Дзякуючы старабеларускай мове, у сучаснай рускай замацавалася шмат слоў славянскага паходжання. У XVII стагоддзі стасункі паміж Рэччу Паспалітай і Маскоўскай дзяржавай былі асабліва інтэнсіўнымі ў гуманітарнай і духоўнай сферах, што абумовіла пранікненне адпаведнай лексікі ў мову Маскоўскай дзяржавы. Самым вядомым прадстаўніком «заходняй» культуры ў Маскве быў Сімяон Полацкі — паэт, настаўнік царскіх дзяцей, заснавальнік Славяна-грэка-лацінскай акадэміі (першай вышэйшай навучальнай установы ў Расіі).*

❑ *Добра вядомае беларусам правіла «пішы як гаворыш, чытай як напісана» ўведзена Вукам Караджычам пры рэфармаванні сербскай літаратурнай мовы. «Новыя літаратурныя мовы», якія фарміраваліся ў другой палове XIX — першай палове XX стагоддзя, імкнуліся быць бліжэй да жывой народнай мовы, каб утрымацца ў канкурэнцыі моў на пэўнай тэрыторыі і «цвёрда стаяць на нагах».*

*Фанетычны прынцып, які ляжыць у аснове новай беларускай літаратурнай мовы, — яе карэннае правапіснае адрозненне ад старабеларускай мовы, якая грунтавалася на этымалагічным ці марфалагічным прынцыпе.*

# Самая славянская?..

Беларусь існуе ў культурнай прасторы дзякуючы людзям, якія размаўляюць, чытаюць, пішуць па-беларуску і, вядома, вывучаюць беларускую мову! Выключны стаж і выдатныя поспехі ў гэтай справе мае доктар філалагічных навук прафесар Генадзь Цыхун — галоўны навуковы супрацоўнік Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, акадэмік Міжнароднай акадэміі Еўразіі, доктар *honoris causa* Сафійскага ўніверсітэта. Генадзь Апанасавіч распавядае пра тое, чым прывáблівае беларуская мова славістаў, і звяртаецца да сучаснай моўнай сітуацыі.

**— Спадар Генадзь, па якіх крытэрыях, у адпаведнасці са словамі класіка, беларускую мову можна лічыць «самай славянскай»?**

— Пэўны адказ могуць даць два напрамкі даследаванняў у лінгвістыцы — арэальная лінгвістыка і глотахраналогія. Гаворка ідзе аб тым, якое месца продкі розных славян займалі ў праславянскай моўнай прасторы. Арэальная лінгвістыка спрабуе вызначыць месца моўных продкаў кожнага народа ў гэтай прасторы — адносна адно да аднаго і да ўсёй супольнасці: хто быў бліжэй да цэнтра супольнасці, у таго было больш агульнага з астатнімі. У выніку даследаванняў высвятляецца, што беларуская, украінская і славацкая мовы былі бліжэй да цэнтра, які ўяўляецца больш прадстаўнічым у плане славянскасці. Глотахраналогія высвятляе блізкасць славянскіх моў паміж сабой і ў гістарычным плане. Чым бліжэйшая славянская мова да ўсіх астатніх, асабліва ў захаванні старой лексікі, тым больш «роднасная» яна ім, а значыць, і больш «славянская». Паводле глотаметрычнага даследавання, зробленага на марфалагічным матэрыяле, Надзея Котава і Міраслаў Янакіеў прыходзяць да высновы, што адпаведна блізкасці да іншых славянскіх моў беларуская і ўкраінская мовы знаходзяцца як бы на першым месцы.

**— Старэйшае пакаленне часта адзначае, што гарадская моладзь піша і размаўляе па-беларуску няправільна, «ненатуральна». Змены на лексічным, сінтаксічным узроўні сапраўды заўважныя, але ці ёсць тут віна моладзі?**

— Я некалькі гадоў жыў у многіх славянскіх краінах і ведаю, што мова моладзі заўсёды адрозніваецца ад мовы старэйшых людзей. Тут няма нічога дрэннага, бо мова жыве, развіваецца. Васіль Быкаў дзівіўся наіўнасці тых, хто вядзе спрэчкі пра перавагі тарашкевіцы над наркамаўкай пры наступе рускага аднамоўя... Гэтая дыскусія цяпер малаактуальная, мы маем больш важную задачу — захаванне мовы і яе развіццё як сродку камунікацыі ў розных асяроддзях.

Раней беларускую мову прадстаўляла вёска. Так часам і цяпер: вялікія вёскі, напрыклад, на Палессі, маюць свой мікраклімат, свая мова захоўваецца, і ўсё нармальна існуе. Мова захоўваецца і ў невялічкіх вёсках, прычым як вельмі архаічная. Але людзі адыходзяць... Затое цікавасць да мовы назіраецца ў асяроддзі гарадской моладзі.

Нармальна, калі тут з'яўляюцца словы, нязвыклыя для старэйшых. Напрыклад, лядоўняй раней называлі склеп з лёдам, дзе захоўвалі мяса і рыбу. Цяпер гэтае слова сярод беларускамоўнай моладзі выкарыстоўваецца ў значэнні «халадзільнік».



Фота Мікалая Кукшачова.

Генадзь Цыхун.

Апошняе лічыцца запазычаным з рускай мовы, хаця гэта нармальнае беларускае слова. Спроба адштурхнуцца ад мовы, якая пагражае, нараджае пурызм — з'яву, натуральную на пэўным этапе развіцця для ўсіх моў. Сваё слова часам выкідаюць, бо яно ідэнтычнае слову той мовы, якая пагражае.

Гаворачы па-беларуску, многія аўтаматычна пазбягаюць слова, ідэнтычнага рускаму, і выкарыстоўваюць польскае, часта таго не ведаючы. Польскае слова менш пагражае беларускай мове ў нашай сітуацыі, хаця ў пэўны перыяд было наадварот: людзі крытычна ставіліся да паланізацыі. Мова як жывы арганізм супраціўляецца асіміляцыі, паглынанню. Гэтаксама ў Македоніі імкнуцца максімальна адштурхнуцца ад слоў, падобных да слоў з балгарскай і сербскай моў. Выйсце, як пісаў Якуб Колас, — праверыць кішэні памяці і адшукаць сваё слова.

**— Ці можна захаваць лексічнае багацце і характэрную інтанацыю людзям, якія размаўляюць па-беларуску і жывуць у горадзе?**

— Згаджуся, што ў ненармальнай моўнай сітуацыі ў горадзе немагчыма непасрэдна засвоіць мову, таму праблема моладзі — абмежаваны лексічны фонд, трохі стэрылізаваная мова. Трэба ўлічваць і гістарычны фактар: беларускія гарады на працягу апошніх трох — чатырох стагоддзяў не былі беларускамоўнымі. У розны час тут жылі пераважна яўрэі, палякі, расійскае чыноўніцтва. Тым больш гарады не сталі беларускімі адразу пасля вайны. Напрыклад, калі на захадзе Беларусі выехала польская ці паланізаваная частка чыноўніцтва і інтэлігенцыі, прыехалі людзі з Расіі ці іншых рэгіёнаў СССР. У маёй беларускамоўнай школе ледзь не палова настаўнікаў была з Расіі.

Узнікла новае супрацьпастаўленне вясковага і гарадскога, што не магло сысці проста так. Людзі імкнуліся размаўляць па-руску, адысці ад беларускай мовы. Фелікс Акерман называе гэтую з'яву стратэгіяй дапасавання: каб выратавацца ад калгасаў вяскоўцы імігравалі ў гарады, дзе «адным з найважнейшых атрыбутаў прыналежнасці да віртуальнай гарадской супольнасці было неўжыванне на людзях простай мовы, бо сярод савецкіх кадраў і тых навапрыбыўшых, хто ўжо правёў у горадзе пэўны час, яна прымалася за прыкмету адсталай вясковасці». У Гродне пасля вайны я назіраў, як гэта адбывалася: калі ў значнай колькасці прыехала партыйнае кіраўніцтва і рускамоўнае чыноўніцтва, нашы людзі ў размове пачыналі падладжвацца пад іх. Так з'явілася трасянка. А многія дзеці колішніх вяскоўцаў сёння размаўляюць па-руску не горш, чым па-беларуску...

**— Разам з нямецкімі даследчыкамі вы займаецеся вывучэннем трасянкі — мяшанага руска-беларускага маўлення. Чаму немцаў зацікавіла гэтая тэма?**

— Валодаю некалькімі славянскімі мовамі і ведаю, што ў розных краінах у залежнасці ад сітуацыі бывае змешаная мова. Яшчэ ў часы Асманскай імперыі падарожнік па Балгарыі Віктар Грыгаравіч пісаў, што рэдка чуў чыстую балгарскую мову з вуснаў мужчын — хіба калі начаваў у нейкім доме, і гаспадары размаўлялі паміж сабой. Наогул усе імкнуліся гаварыць з выкарыстаннем турэцкіх слоў — тыповае мяшанае маўленне, якое залежыць ад сітуацыі. Гэтую з'яву італьянскі лінгвіст Матэа Барталі тлумачыць як імітацыю, падробку пад прэстыжную мову.

Трасянка ёсць не толькі ў Беларусі. Аднак у нас яна маркіравана ў сувязі з культурнай сітуацыяй, таму яе ўспрымаюць як выключэнне. З нагоды распаўсюджанасці яна зацікавіла і нямецкіх даследчыкаў. Мы некалі размаўлялі пра трасянку з нямецкім лінгвістам Гердам Генчалем падчас канферэнцыі. Ён запланаваў вывучэнне гэтай тэмы, фонд «Фольксваген» вылучыў грошы — так у Ольдэнбургу звярнуліся да новай навуковай праблемы.

Трасянка — не навуковы тэрмін, а вобразнае азначэнне. Карэннае пытанне для лінгвістаў: гэта мова ці маўленне? Тут у нас з нямецкімі даследчыкамі няма поўнай згоды. Я настойваю, што гэта маўленне — імправізацыя ў залежнасці ад многіх фактараў (напрыклад, ад моўнай сітуацыі, паходжання і ступені адукаванасці суразмоўцы). Няма ўпарадкаванасці, якая дазволіла б пабудаваць сістэму. Але нямецкія калегі настойваюць, што калі ўзяць шмат тэкстаў і прааналізаваць, то можна вылучыць стабільную (сістэмную) частку і сфармуляваць правілы; ёсць і менш стабільная частка — але гэта бывае ў розных мовах.

**— Сёлета спаўняецца 110 гадоў ад пачатку выдання газет «Наша доля» і «Наша ніва». Рэдактар гэтых выданняў Антон Луцкевіч быў аўтарам адной з першых граматык беларускай мовы. Чым цікавая гэтая работа?**

— Пра невялічкую граматыку Луцкевіча амаль нічога не ведалі, пакуль нямецкі мовазнаўца Карл Гутшміт (які, дарэчы, цудоўна размаўляў па-беларуску) не знайшоў у гамбургскай бібліятэцы размножаны рукапіс граматыкі Антона Луцкевіча. Аўстрыйскі славіст і беларусіст Герман Бідэр падрыхтаваў і ў найбліжэйшы час плануе выдаць тэкст граматыкі з каментарыямі. Мяркуецца, гэта быў курс лекцый, які Антон Луцкевіч чытаў у Вільні для настаўнікаў і распрацаваў у 1915 — 1916 гадах, яшчэ да Браніслава Тарашкевіча.

Граматыка саступае рабоце Тарашкевіча, многія рэчы там не дадуманыя, бо Луцкевіч хутчэй за ўсё не быў дастаткова падрыхтаваны, каб сфармуляваць арфаграфічныя правілы на належным навуковым узроўні, ды і не меў адпаведнай філалагічнай адукацыі. А Тарашкевіч вучыўся ў Піцеры у Аляксея Шахматава, Яўфіма Карскага, Івана Бадуэна дэ Куртэнэ. Яго граматыка была кадыфікацыйнай, дзе зацверджаныя правілы пісьмовай мовы, распрацаваныя на аснове шматлікіх матэрыялаў, якія друкаваліся ў «Нашай Ніве» і ў якіх паступова праявіліся асноўныя агульныя асаблівасці беларускай мовы.

Юбілейная дата з гісторыі беларускага друку мае вялікую значнасць, бо ў нашых умовах беларуская прэса побач са школай падтрымлівае функцыянаванне беларускай мовы. Па логіцы развіцця нашай краіны, калі Беларусь захавае незалежнасць, то з цягам часу будзе незалежнай і ў моўным плане...

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

**Таццяна ШАМЯКІНА, пісьменнік, доктар філалагічных навук, прафесар, загадчык кафедры тэорыі літаратуры БДУ:**

*— Свята Дня пісьменства — гэта нагода ўспомніць пра выключную важнасць слова — мастацкага, публіцыстычнага — у жыцці грамадства. Можна колькі заўгодна прыгожа гаварыць пра новыя інфармацыйныя тэхналогіі, але галоўным сродкам захавання і перадачы інфармацыі было і застаецца слова, у прыватнасці пісьмовае. І не мае значэння, чытаем мы тое ці іншае паведамленне на экране альбо паперы. Пісьменства — рэвалюцыя ў культуры, на аснове якой ажыццяўляліся ўсе іншыя прагрэсіўныя рэвалюцыі. Асаблівае значэнне мае пісьмовая перадача інфармацыі для сувязі пакаленняў. Пісьменства — агент сацыялізацыі.*

# Сакральны сэнс галаўнога ўбору

**Беларускі нацыянальны касцюм заўсёды адрозніваўся самабытнасцю, хоць і фарміраваўся разам з традыцыйным адзеннем іншых славянскіх народаў. Да пачатку XX стагоддзя ён захоўваў шматлікія архаічныя рысы. Пры гэтым у розных частках краіны адзначаліся непаўторныя адметнасці, звязаныя, як правіла, з характарам і месцам арнаментальнага аздаблення, са спосабамі выкарыстання асобных кампанентаў.**

«Агульны бела-чырвоны каларыт традыцыйнага ільнянога адзення — сарочак, фартухоў, галаўных убораў дапаўняўся маляўнічасцю шарсцяных спадніц-андаракоў з дэкорам у клетку, палоскі ці аднаколеравых. Лакальныя адрозненні больш за ўсё выяўляліся ў жаночых строях, асабліва ў касцюмах замужніх жанчын, якія завяршаліся старажытнымі галаўнымі ўборамі ручніковага тыпу — наметкамі», — раскрывае тайны нацыянальнага адзення Марыя Віннікава, старшы навуковы супрацоўнік аддзела старажытнабеларускай культуры ДНУ «Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры» Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

У Рагачоўскім раёне наметка мае вельмі арыгінальны выгляд, завіваецца, мабыць, самым незвычайным і складаным спосабам. Канцы яе ўтвараюць на верхавіне галавы крыж, што хутчэй за ўсё мае абярэгавы сэнс. Адзін канец абвівае галаву шырокім абручом, другі складваецца паласой, загортваецца некалькі разоў, перакідваецца наперад цераз макушку і трохі нявісае над лобам... Інструкцыя па завязванні ўбору, дарэчы, не для ўсіх. Завіванне наметкі «па-рагачоўску» — гэта цэлае мастацтва.

Звычайна рагачоўскія наметкі выраблялі з тонкага, але даволі шчыльнага палатна. Даўжыня іх складала ажно каля 300 см, шырыня — у межах 40 см. Вызначаліся тонкасцю і вялікімі памерамі. Канцы драпіраваліся па-рознаму, у залежнасці ад мясцовых традыцый.

«Раней даведацца, адкуль родам беларуская жанчына, які яе ўзрост і сямейны стан, можна было яшчэ здалёк — па сілуэце. Дзякуючы касцюму адкрываліся іншыя цікавыя моманты: кампазіцыйная пабудова строя, маштаб і размяшчэнне арнаменту, крой спадніцы», — дадае Марыя Віннікава.

Пра народны касцюм з Рагачоўскага раёна захаваліся, на жаль, толькі асобныя звесткі. Але Марыя Віннікава разам з такімі ж натхнёнымі даследчыкамі з навукова-вытворчага прадпрыемства «Скарбніца» здолела зрабіць яго навуковую рэканструкцыю, у многім дзякуючы калекцыі Рагачоўскага музея народнай славы. Усё пачалося з выпадковай знаходкі, якая стала каштоўнай крыніцай інфармацыі пра адзенне беларусаў пачатку XX стагоддзя. Гэта былі фатаграфіі 1903-1904 гадоў, зробленыя студэнтам Санкт-Пецярбургскага універсітэта, ураджэнцам Беларусі Вячаславам Косткам падчас этнаграфічных экспедыцый па (на той час) Магілёўскай губерні. Марыя Віннікава менавіта на падставе здымкаў спачатку прааналізавала асаблівасці галаўных убораў у



Фота Марыі Віннікавай.

Касцюм замужняй жанчыны з галаўным уборам «наметка», адноўлены ў «Скарбніцы» паводле навуковай рэканструкцыі Марыі Віннікавай.

жаночых строях Гомельскай часткі Падняпроўя, спосабы завівання наметак, а потым падняла з небыцця і поўны касцюм той мясцовасці.

«Важна, што Вячаслаў Костка адзначыў у сваіх запісах розніцу паміж спосабамі нашэння наметкі ў двух суседніх вёсках Рагачоўскага павета — Шапчыцы і Званец. Яны маюць агульныя рысы: абгортваліся кругом галавы ў выглядзе шапачкі, якая не ахоплівала падбародак і шыю, аднак поўнасцю закрывала валасы. Але ж канцы ўкладваліся на галаве па-рознаму», — расказвае Марыя Віннікава.

Шырокі адкідны каўнер на кашулі, упрыгожаны па краях вышыўкай і карункамі, — другая істотная асаблівасць рагачоўскага касцюма. Жанчыны апраналі клятчастую шарсцяную спадніцу (андарак). Абавязковым кампанентам быў белы фартух з арнаментаваным падолам, які не толькі ўпрыгожваў касцюм, але і дадаткова ахоўваў жаночае ўлонне як ад холаду, так, як казалі, і ад паганага вока.

Такі элемент, як пояс, захоўваўся прыкладна да сярэдзіны мінулага стагоддзя як абавязковы атрыбут мужчынскага касцюма, таму што сарочка насілася паверх штаноў і павінна была падпярazвацца. Рагачоўскія мужчыны, дарэчы, насілі сарочкі з вельмі шырокай вышыванай манішкай. У жаночым касцюме са з'яўленнем безрукаўкі (гарсэта) пояс стаў знікаць, таму што лінія таліі і так падкрэслівалася. Гарсэт рагачоўцаў быў з чатырохвугольным выразам спераду і сабранай у складкі баскай.

З артыкула Марыі Віннікавай у зборніку артыкулаў «Пытанні мастацтвазнаўства, этналогіі і фалькларыстыкі» можна падрабязней даведацца пра асаблівасці жаночых галаўных убораў ручніковага тыпу. Так, наметкі на ўсходзе Беларусі, куды адносіцца і Гомельская вобласць, перасталі насіць значна раней, чым на Палессі, дзе яны ўжываліся аж да 1930-х гадоў, а потым яшчэ доўга выкарыстоўвалі ў сямейнай абраднасці, на святах. Рагачоўскія жанчыны, асабліва маладыя, сталі пераходзіць да больш простых хустак у канцы XIX стагоддзя. Калі казаць пра змены ва ўсім касцюме, то ў моду ў пачатку XX стагоддзя ўваходзілі фабрычныя вырабы, замяняючы дамотканыя. Даследчыца адзначае, што маладыя жанчыны і дзяўчаты пэўны час яшчэ апраналі «хатнія» сарочкі, аздобленыя геаметрычным ці стылізаваным раслінным арнаментам, які вышывалі крыжыкам. А вось фартухі ўжо прайшлі мадэрнізацыю: рабіліся з крамных квяцістых тканін, з шырокімі брыжамі па нізе. Падчас экспедыцыі Вячаслава Косткі ў 1903 годзе ўжо толькі вельмі пажылыя жанчыны насілі поўны традыцыйны народны касцюм. Бераглі яго, каб быць у ім пахаванымі. Многія каштоўныя сведкі часу сышлі разам з уладальнікамі — вось чаму так мала інфармацыі. А яе рэшткі вельмі каштоўныя для нас, нашчадкаў.

Марыя Віннікава даўно займаецца вывучэннем традыцыйнага беларускага касцюма і аднаўленнем народных строяў, якія практычна зніклі з беларускай зямлі. У Музеі старажытнабеларускай культуры, што знаходзіцца ў Цэнтры даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, можна ўбачыць уборы сялян у такім выглядзе, як іх насілі гадоў сто назад. Гэтая экспазіцыя — вынік велізарнай шматгадовай працы даследчыкаў.



Узор народнага мастацтва Рагачоўшчыны.

***Яскравы, шматгранны і вельмі сімвалічны прыклад народнага мастацтва — арнамент, заўсёды віртуознае спалучэнне элементаў і колераў, сапраўдны твор як прыклад стаpанняў майстрых, што рабілі вышыўкі, якім няма ідэнтычных у свеце. Моцны знак аховы ад злых сіл, талісман, увасабленне духоўных сіл народа. Для кожнай вобласці Беларусі — свой. Па ўзорах на сарочках, спадніцах, галаўных уборах можна было зразумець, у якім куточку краіны жыве беларус. На старажытнай нацыянальнай вопратцы Рагачоўскага раёна бачны раслінны арнамент, чырвоны з украпленнямі чорнага колеру. Так, напрыклад, прыадкрыты бутон кветкі сімвалізуе мацярынскі пачатак, ураджай, дабрабыт і шчасце.***

Народны касцюм увасабляе багацце беларускіх традыцый нібыта яркі і пераканаўчы сведка густу, асаблівасцей мыслення і фантазіі, індывідуальнасці, характару. Менавіта касцюмы, якія насілі нашы продкі, акунаюць у атмасферу старажытнай культуры, мастацкага мінулага народа. Як гэта можа не зацікавіць?

**Марыя ВОЙЦІК**

# Пяць фактаў з гісторыі Рагачоўшчыны

Згодна з вынікамі археалагічных раскопак, Рагачоў быў заснаваны ў канцы XI — пачатку XII стагоддзя. Пра тое ж сведчаць і летапісныя крыніцы: упершыню горад згадваецца ў Іпацьеўскім летапісе ў 1142 годзе падчас міжусобных боек паміж сваякамі кіеўскага князя Усевалада. Каб пазбавіцца варожасці, кіеўскі ўладар перадае Рагачоў разам з Гарадцом, Брэстам, Драгічынам і Клецкам ва ўладанне малодшаму брату — князю Ігару.

У XII — XIII стагоддзях на правым беразе Дняпра паміж вёскамі Вішчын і Кісцяні Рагачоўскага раёна існаваў раннефеадальны вішчынскі замак.

Дадзеныя раскопак сведчаць пра тое, што гарадзішча замка было збудавана на месцы стаянак эпохі мезаліту і ранняга неаліту. Унутры замка выяўлены рэшткі не менш як дзесяці розных пабудоў. У некаторых з іх знойдзены фрагменты разбураных печаў. У паўночнай частцы пляцоўкі замка быў раскапаны свіран з абгарэлым збожжам, у паўднёва-заходняй частцы — ювелірныя майстэрні. У 1979 годзе знойдзены так званы вішчынскі скарб. Ён складаецца з дзвюх частак — рэчавай і грашовай. Рэчавая частка прадстаўлена рознымі срэбнымі жаночымі ўпрыгажэннямі: колтамі, падвескамі, бранзалетамі і іншымі прадметамі, а ў грашовай частцы скарбу знайшлі срэбныя грыўні.

Бяздзетны ўладар Рагачоўскай воласці Фёдар Іванавіч у 1509 годзе заключае дамову з Вялікім князем літоўскім Жыгімонтам, згодна з якой князь павінен абараняць воласць, а натуральна атрымае ўсю маёмасць пасля смерці гаспадароў. Калі Фёдар Іванавіч паміpае, не пакінуўшы пасля сябе нашчадкаў, Жыгімонт Стары робіць шчодры падарунак. Ён аб'яўляе, што Пінская княства і Рагачоўская воласць пераходзяць да яго жонкі — каралевы і Вялікай княгіні Боны. Яна ўладарыла на гэтай зямлі да свайго ад'езду ў Італію ў 1556 годзе. З'ехаўшы з Рагачоўшчыны, каралева пакінула значную спадчыну: па яе загадзе па праекце невядомага італьянскага архітэктара быў збудаваны знакаміты Рагачоўскі замак. З гэтага перыяду горад увайшоў у лік памежнай абароны ВКЛ па Дняпры.



Герб горада Рагачова.

Першага чэрвеня 1909 года ў горадзе адкрылася настаўніцкая семінарыя. Вучэбная ўстанова рыхтавала настаўнікаў пачатковых класаў. Пры гімназіі дзейнічалі курсы перападрыхтоўкі настаўнікаў пачатковых школ, нядзельная школа для дарослых, педагагічныя музеі.

У 1914 годзе ў лік навучальных устаноў Рагачова ўвайшло рэальнае вучылішча.

Першая вышэйшая навучальная ўстанова — Рагачоўскі настаўніцкі інстытут — з'явілася ў 1939 годзе на базе педагагічнага тэхнікума.

Інстытут рыхтаваў настаўнікаў рускай мовы і літаратуры, беларускай мовы і літаратуры, гісторыі. У 1944 годзе інстытут пераведзены ў Мазыр.

У 1936 годзе па ініцыятыве рагачоўскага райкама камсамола на базе мясцовага драматычнага гуртка быў створаны «Рагачоўскі калгасна-саўгасны тэатр».

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

# Літаратурны Рагачоў:

## «Міколка-паравоз», Выліваха на беразе Дняпра і паэзія месца

**Між іншых мясцін Беларусі Рагачоўшчына — адна з самых «пісьменніцкіх». Тут нарадзіліся выбітны драматург Андрэй Макаёнак, народны пісьменнік Міхась Лынькоў і яго брат паэт Рыгор Суніца. Тут пісаў Уладзімір Караткевіч. Унікальнае месца — Рагачоўскі педагагічны тэхнікум, у сценах якога пачыналіся як творцы многія выбітныя асобы. Калі ж згадваць усіх, хто тут жыў, працаваў, шукаў спакою на малой радзіме... Гэтага мы рабіць не будзем, але да найбольш яркіх асоб звернемся.**

### ДЗЕЦІ ЧЫГУНКІ

Можна ўпэўнена сказаць, што «Міколка-паравоз» выправіўся ў свой літаратурны рэйс з Рагачоўшчыны, а дакладней — з вёскі Старое Сяло, дзе прайшло дзяцінства Міхася Лынькова. Сюды з Лёзненшчыны перабралася сям'я Лыньковых: на радзіме не хапала зямлі, і бацькі пайшлі працаваць на чыгунку.



*Міхась Лынькоў.*

Міхась, лічы, вырас на ёй. Жыў у будцы чыгуначніка № 230 на мясцовым раз'ездзе, летам дапамагаў бацькам на падсобных работах. Прыгажосць мясцовых краявідаў пазней апіша ў паэзіі брат Рыгор (выступаў пад прозвішчам Суніца). Сам Міхась Лынькоў выкарыстае дзіцячыя ўражанні ў найбольш вядомай сваёй аповесці «Міколка-паравоз».

Дзеці вучыліся ў Старасельскай школе. Міхась быў выдатнікам і пасля заканчэння школы атрымаў узнагароду — кнігу «Вечары на хутары паблізу Дзіканькі».

У Рагачове будучы пісьменнік атрымліваў настаўніцкую адукацыю. Аднак грошай на жыццё не хапала, і Лынькоў па-ранейшаму падпрацоўваў на чыгунцы, а таксама даваў прыватныя ўрокі. Пасля працаваў у школе ў Ліпінічах (Буда-Кашалёўскі раён), служыў у войску, а ў 1922 годзе вярнуўся на радзіму: атрымаў накіраванне на працу ў Свержанскую сямігодку, што ў Рагачоўскім раёне. Выкладаў гісторыю, беларускую і рускую мовы, маляванне.

Увогуле 20-я гады сталі для Лынькова часам выпрабаванняў: падчас службы ў войску ён страціў бацьку, пазней на чыгунцы загінула маці. Так на руках цяпер ужо старэйшага Лынькова аказаліся два малодшыя браты і сястра.

Яшчэ ў час настаўнічання на Рагачоўшчыне Міхась Лынькоў супрацоўнічаў з бабруйскай раённай газетай «Камуніст». Сюды, у Бабруйск, яны ўсе і перабраліся. Тут Лынькоў стане адным з ініцыятараў арганізацыі філіяла «Маладняка». А ў 1930 годзе назаўсёды пераедзе ў Мінск.

### УСЕ ДАРОГІ — У ЖУРАВІЧЫ

Іван Шамякін, блізкі сябар Андрэя Макаёнка, пісаў пра рагачоўцаў: «Для іх Макаёнак — гэта не проста частка нашай літаратуры, а частка іх асабістага жыцця, частка біяграфій. У самым канкрэтным сэнсе слова. Калі да нас Макаёнак прыходзіць са слоў настаўнікаў, з кніжак, з галасоў артыстаў і дыктараў, то для іх — са сваёй зямлі. І некаторыя рысы герояў Макаёнка, асабліва «ціхага, рахманага Цярэшкі», яны знаходзяць у сваіх земляках. Цярэшка для іх — гэта свой чалавек».



*Андрэй Макаёнак.*

Нарадзіўся будучы драматург нумар адзін у вёсцы Борхаў Рагачоўскага раёна. Вучыўся ў мясцовай школе, потым — у Шапчыцах, а сярэднюю адукацыю атрымаў у Журавічах. З гэтым мястэчкам Андрэй Макаёнак не зможа расстацца яшчэ доўгі час.

Так, атрымаўшы сярэднюю адукацыю, Макаёнак паступае ў ваенную вучэльню, але хутка расчароўваецца ў сваім выбары. Тым больш што яшчэ ў Журавічах адкрыў у сабе акцёрскі талент. У выніку ён вяртаецца дадому.

У тых жа Журавічах працуе масавіком у Доме культуры, разам з тым спрабуе паступіць у інстытут кінематаграфіі. Прыходзіць позва ў войска. Андрэй Макаёнак знаходзіўся на Каўказе, калі пачалася Вялікая Айчынная вайна. Але яму «пашчасціла»: пасля цяжкога ранення і некалькіх аперацый быў дэмабілізаваны. А калі Гомельскую вобласць вызвалілі (1943 год), вярнуўся ў родныя Журавічы, у бацькоўскі дом.

...Сакратар райкама камсамола, ваенрук — заняткі мала звязаныя з тэатральным мастацтвам, затое — дома. І калі Макаёнка накіравалі на працу ў Гродна і Магілёў, ён усё роўна вярнуўся ў Журавічы. Праз нейкі час пасля вяртання адбудзецца знакавае знаёмства з Іванам Шамякіным, сябрам на ўсё жыццё.

Пасля навучання ў партшколе Андрэй Макаёнак атрымаў накіраванне ў часопіс «Вожык». З гэтага часу яму давялося развітацца з малой радзімай. Але і сёння ў мясцовай сярэдняй школе працуе музей Андрэя Макаёнка — рагачоўцы яго называюць пакоем падарункаў.

### НЯСПРАЎДЖАНЫ ЗАПАВЕТ КАРАТКЕВІЧА

Анатоль Верабей, даследчык творчасці Уладзіміра Караткевіча, адзначыў, што для таго Рагачоў быў як Болдзіна для Аляксандра Пушкіна ці як Акопы для Янкі Купалы. У Рагачове Караткевіч пачынаў паэму «Зямля дзядоў», дзе згадваюцца «руіны замка каралевы Боны і над Дняпром шырокім курганы», «Збароў, дзе некалі мая матуля вясковаю настаўніцай была», капліца «над бабчынай магілаю старой», дзядзька-рыбак, дом «пад разгатаю таполяй», дзе «расце на змену самы меншы брат» — усё рагачоўскія мясціны.

Так, сувязь Караткевіча з Рагачоўшчынай не толькі творчая. Адсюль паходзіць яго род. Як бачна па прыведзенай вышэй цытаце, у мясцовай школцы, у вёсцы Збароў, настаўнічала пэўны час маці Караткевіча Надзея Васільеўна. Нават больш: яна нарадзілася ў Рагачове. І тут пазнаёмілася з бацькам пісьменніка, Сямёнам Цімафеевічам. Тут пахаваная бабуля пісьменніка.

Сярэднявечны Рагачоў і яго каларытныя жыхары апісаны ў навеле Караткевіча «Ладдзя Роспачы». У апісаннях гэтых горад паўстае надзвычай прывабным, лічы, рай на зямлі:

«Ставілі і берaглі дзяды і прадзеды мёд і віно — і выпіць яго за адно жыццё было цяжкавата нават Вылівахy. У лясах была жывая закуска, касулі ды туры. На балотах свіязі, кражныя чагронкі, гразавікі, сярухі, шылахвосці. У рэках судакі, калекі, або балабы, самы, сіклы ды міроны, падусты, выразубы, язі ды галаўні, ляшчы ды бялёзны, страдалы, гусцёркі, свінні вадзяныя, сцярлядкі ды шчупакі. І з іншым неяк абыходзіліся. У той час Магілёў з Рагачовам нават у Маскву пастаўлялі гатовае адзенне. Краўцоў было — грэблю масці. Так што порты, чугі ды плашчы абыходзіліся танна».



*Уладзімір Караткевіч.*

Пра сучасную яму Рагачоўшчыну Караткевіч пісаў: «А вышэй ад горада лясы ідуць і вёскі на адхонах такія, што сэрца заходзіцца ад замілавання. Адны Кісцяні чаго варты!». Кісцянёўскі парк існуе і сёння. Дарэчы, дзея «Сівой легенды» збольшага адбываецца ў колішнім Кісцянёўскім замку.

У вёсцы Азярышча Рагачоўскага раёна Уладзімір Караткевіч часта вудзіў рыбу і паляваў. Адхон над Дняпром, з якога ў раку падаюць дрэвы, даў пачатак раману «Каласы пад сярпом тваім», славуты радок «Груша цвіла апошні год».

Словам, рагачоўскія мясціны ў пэўным сэнсе падарылі нам Караткевіча. Значэнне іх для творчасці Уладзіміра Сямёнавіча пераацаніць цяжка. Тым больш што пісьменнік прасіў, каб па смерці ягоны прах развеялі на тутэйшых Крыцкіх пагорках.

Стваралася ж рамантычная Беларусь Караткевіча ў Рагачове, у доме па вуліцы Чкалава, дзе жыў дзядзька Ігар Васільевіч Грынкевіч. У лісце да Янкі Брыля 21 жніўня 1959 года Караткевіч пісаў: «Амаль месяц быў у Рагачове. Вось і ўвесь адпачынак. Зрабіў другую кнігу вершаў («Вячэрнія ветразі»), напісаў некалькі новых вершаў і, здаецца, не зусім дрэнных. І яшчэ рыбачыў, рыбачыў, рыбачыў… Люблю Дняпро, як вершы, нават змялелы, абязрыбелы, з дубамі, якія паспяхова пускаюць на дравішкі. […] Я, напэўна, рыбаком стаў бы, каб не пісаў».

Караткевіч жыў тут падоўгу, і да яго час ад часу наведваліся сябры. Так, гасцяваў у Рагачове Рыгор Барадулін. У доме на Чкалава пісаліся вершы, асобныя раздзелы «Каласоў...», «Ладдзя Роспачы», «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», «Сівая легенда», «Віно дажджоў», «Чазенія», нарысы пра Латвію», «Казкі янтарнай краіны», аўтабіяграфія «Дарогаю, якую прайшоў», апавяданне «Дрэва вечнасці»…

Дом стаіць і цяпер. Свой рабочы пакой Караткевіч апісаў у дзявятым раздзеле рамана «Нельга забыць».

### ПАДАРОЖНІК З ДЗЕДЛАВА

Наступнага рагачоўскага героя згадваюць не так часта, але ён, безумоўна, цікавы. Уладзімір Кігн паходзіць з рускай дваранскай сям'і. Нарадзіўся ў Тамбове ў 1856 годзе. Калі яму споўнілася чатыры, сям'я перабралася ў Беларусь. Тут дваранін Людвіг Кігн набыў маёнтак Фёдараўка, а затым — рагачоўскае Дзедлава і Асмолавічы. У Дзедлаве Уладзімір правёў вельмі мала часу: ужо ў дзевяць гадоў бацькі адправілі яго вучыцца ў Маскву. Затым быў прэстыжны юрыдычны факультэт Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта, дзе Кігн пазнаёміўся з кветам нацыі: мастакі, паэты, навукоўцы. Сябраваў з Мендзялеевым, Шышкіным, Урубелем, Васняцовым, Рэпіным, Чэхавым. Цікава, што Кігн, як службовец МУС, стаў першым ваенным карэспандэнтам — падчас руска-японскай вайны. Паралельна ён друкаваў літаратурныя творы ў часопісе «Неделя» і іншых буйных выданнях.

Да чаго тут Рагачоўшчына? А справа ў тым, што друкаваўся Кігн пад псеўданімам, і псеўданім гэты — Дзедлаў.

Уладзімір Кігн-Дзедлаў шмат падарожнічаў і выдаў папулярную ў свой час кнігу «Приключения и впечатления в Италии и Египте. Заметки о Турции» (1888), зборнік нарысаў «Из далека» (1887).

### ВУЧЫЦЦА Ў РАГАЧОВЕ

Асаблівую ролю ў гісторыі горада адыграў мясцовы педагагічны тэхнікум. Міхась Скрыпка, яе выпускнік, у будучыні пісьменнік-сатырык, пісаў: «Хіба забудзеш Рагачоўскі тэхнікум, дзе прайшлі чатыры гады юнацтва, дзе пасябраваў ледзь не з усімі студэнтамі, асабліва з маладымі літаратарамі: Янкам Валасевічам, Янкам Бандарчыкам, Алесем Жаўруком. Алесь быў душой нашага літаратурнага аб'яднання, якое ўваходзіла ў Бабруйскую філію "Маладняка". Нашым літаратурным бацькам быў Міхась Лынькоў, з якім мы ўпершыню сустрэліся на акруговай сходцы маладнякоўцаў Бабруйшчыны ў 1926 годзе...».

Колішнюю настаўніцкую семінарыю скончыў Васіль Гарбацэвіч, будучы заслужаны настаўнік БССР, драматург, кіраўнік Магілёўскага філіяла «Маладняка», аўтар успамінаў пра сустрэчы з Максімам

**Кацярына ХАДАСЕВІЧ-ЛІСАВАЯ, дзіцячая пісьменніца:**

*— Дзень пісьменства — заўжды доўгачаканае мерапрыемства. Для пісьменнікаў гэта аналіз як сваёй творчасці, так і творчасці калег. Тым больш свята кожны год ахоплівае новыя рэгіёны і дае магчымасць іх жыхарам адчуць будзённае жыццё па-новаму. Мне як настаўніцы вельмі важна, каб свята пісьменства наведвалі і мае вучні. Бо для іх карысна ўбачыць пісьменнікаў асабіста, пачуць іх каментары, магчыма, паразмаўляць. Беларусы павінны ганарыцца тым, што свята пісьменства стала традыцыяй. І мы абавязаны яе ўшаноўваць.*

Багдановічам у Яраслаўлі («Шлях паэта», 1975 год).

Згаданы Скрыпкам Алесь Жаўрук пражыў 32 гады, загінуў пад Сталінградам, але паспеў сцвердзіцца як паэт (у адрозненне ад Міколы Сурначова, меў прыжыццёвыя зборнікі). Разам з паэтам Аляксеем Зарыцкім выдаваў у Рагачове сатырычную газету «Смех і слёзы».

Сам Міхась Скрыпка пасля педтэхнікума настаўнічаў на Рагачоўшчыне. Акрамя гумарэсак, мініяцюр, баек, пісаў аднаактовыя п'есы і камедыі для самадзейных тэатраў.

Фёдар Янкоўскі цяпер вядомы як выбітны мовазнавец, прафесар, доктар філалагічных навук і празаік. Ён удзельнічаў у дзвюх войнах, быў разведчыкам, настаўнікам і выкладчыкам. Без яго даследаванняў па фразеалогіі, стылістыцы, гісторыі мовы немагчыма ўявіць сённяшняе мовазнаўства. А пачыналася ўсё ў Рагачове. Менавіта ў апошні год навучання, 1936-ы, ён дэбютаваў у друку.

Вучыўся ў Рагачове празаік Аляксей Кулакоўскі, які атрымаў Дзяржаўную прэмію БССР за творы для дзяцей і ўдзельнічаў у рабоце XXVII сесіі Генеральнай Асамблеі ААН. Будучы апальны рэдактар часопіса «Маладосць» скончыў Рагачоўскую прафтэхшколу ў 1931 годзе (стаў бондарам). На гэтым сувязі з краем не заканчваюцца: Андрэй Макаёнак па матывах аповесці Кулакоўскага «Нявеста» напісаў сцэнарый фільма «Шчасце трэба берагчы».

З педагагічным Рагачовам звязаны таксама Уладзімір Немізанскі (выкладаў тут). У гэтым горадзе скончыўся жыццёвы шлях паэта і краязнаўцы, які паспеў стварыць літаратурны музей.

## Я НАРАДЗІЎСЯ ТУТ

Нават калі лёс распараджаецца так, што чалавек пакідае малую радзіму і сталее, сцвярджаецца ў іншым горадзе ці нават краіне, адмаўляць значэнне гэтай зыходнай кропкі нельга. Так ці інакш, сувязь застаецца — калі не ў творчасці, дык у сэрцы, няхай і гучыць напышліва.

Родам з Рагачоўскага павета (цяпер Кіраўскі раён) аўтар першага беларускага рамана «Золата» Ядвігін Ш. Ён нарадзіўся ў мястэчку Добасна, дзе яго бацька Іван служыў упраўляючым маёнтка. У 1870-х, калі Антон Лявіцкі быў зусім яшчэ малым, сям'я перабралася на Валожыншчыну: бацька перайшоў на службу да графа Тышкевіча, ляснічым. Пазней пераехалі ў Карпілаўку пад Радашковічамі, дзе адбылося знаёмства Ядвігіна Ш. і Янкі Купалы, якое моцна паўплывала на апошняга.

Вядомы яўрэйскі паэт, драматург і перакладчык Самуіл Галкін перажыў Кастрычніцкую рэвалюцыю ў Екацярынаслаўлі, праз некалькі гадоў перабраўся ў Маскву, а нарадзіўся ў Рагачове. Невядома, ці пазбегнуў бы ён шматлікіх выпрабаванняў, калі б застаўся на радзіме: паэт актыўна ўдзельнічаў у рабоце Яўрэйскага антыфашысцкага камітэта, у 1949 годзе быў арыштаваны, але, «дзякуючы» інфаркту, пазбег расстрэлу. А ў ГУЛАГ патрапіў. Яму пашчасціла дачакацца рэабілітацыі і вярнуцца — у Маскву.

За 20 дзён да Перамогі загінуў Мікола Сурначоў, яшчэ адзін рагачоўскі паэт (нарадзіўся ў вёсцы Слабада). У родных мясцінах ён працаваў аграномам, пасля перайшоў у рагачоўскую раёнку «Камунар». Тут жа змяшчаліся і яго першыя вершы. Як тысячы іншых юнакоў, не паспеўшы пажыць, узяў у рукі зброю. І пад Берлінам, 20 красавіка 1945 года, загінуў у рукапашным баі. Яму было 28. Пасмяротна выйшлі кнігі Міколы Сурначова «На сурмах баравых», «Барвовая зара», «Акопны спеў».


*Мікола Купрэеў.*

У любімых Караткевічам Кісцянях нарадзіўся слынны літаратуразнаўца і крытык Юльян Пшыркоў. Ён скончыў двухгадовыя педагагічныя курсы ў Рагачове, працаваў настаўнікам, у тым ліку ў Рагачоўскім раёне. А пасля вучыўся ў Ленінградзе, выкладаў у Магілёве, ваяваў пад Ленінградам і Кёнігсбергам. Што да навуковай дзейнасці, Юльян Пшыркоў згадваецца найперш у сувязі з «літаратурным адвакацтвам»: насуперак афіцыйнай крытыцы, рызыкуючы, адстойваў паэму Якуба Коласа «Новая зямля». За што Якуб Колас быў шчыра ўдзячны маладому даследчыку і, мабыць, здзіўлены такой смеласцю. Пазней Юльян Пшыркоў выдасць некалькі манаграфій па творчасці Якуба Коласа і многа іншых знакавых навуковых работ.

Параду ад Андрэя Макаёнка атрымаў у свой час ураджэнец вёскі Старая Алешня (вядома, Рагачоўскага раёна) празаік Мікалай Гроднеў. «Творчасць патрабуе яшчэ ведаў і культуры», — заключыў Макаёнак, сам яшчэ на той час невядомы, пачытаўшы пачаткоўніцкі верш земляка. Мікалай Гроднеў вучыўся ў Гомелі, працаваў школьным інспектарам і карэспандэнтам раёнкі, а пасля — у «ЛіМе», «Вожыку», часопісе «Беларусь». Як відавочца ён шмат пісаў пра жыццё вяскоўцаў у гады Вялікай Айчыннай: «Давялося зведаць, як у час голаду перастае наогул хацецца есці, як адразу пасля заходу сонца засцілаюцца чорным вэлюмам вочы — у народзе гэтую хваробу называюць "курынай слепатой"».

Мікола Купрэеў — неардынарны пісьменнік, загадкавая асоба. Ён нарадзіўся ў настаўніцкай сям'і ў вёсцы Ямнае на Рагачоўшчыне. У 1943 годзе нацысты арыштавалі бацьку, маці — забілі (хлопчыку было шэсць). Праз два гады пасля вайны Мікола з бацькам пераехаў на Брэстчыну. У свой час Мікола Купрэеў амаль атрымаў прэмію імя Янкі Купалы, аднак іранічнасць верша «Сустрэча з К. Крапівой у 1993 годзе» стала неадольнай перашкодай. Замест гэтага атрымаў прэмію Саюза пісьменнікаў імя Аркадзя Куляшова. І кватэру ў Пружанах, дзе і жыў да скону. А памёр у доме састарэлых. На надмагіллі Купрэева выбітыя словы з яго верша: «О, я многа хацеў вам сказаць…». Ён быў надзвычай шчыры (пасля публікацыі асобных аповесцей бацька перастаў яго пускаць у родную хату), і ў той жа час у паэзіі выкарыстоўваў казачныя, фальклорныя матывы, быў лірычны і тонкі паэт. Проза Купрэева атрымала станоўчыя водгукі Янкі Брыля і Барыса Бур'яна, аднак юны на той час Мікола вынішчыў рускамоўны рукапіс.

Яшчэ складанейшы лёс чакаў навукоўца Фёдара Куляшова (нарадзіўся ў вёсцы Вялікія Стралкі Рагачоўскага раёна). Ён рана асірацеў, быў пастухом і парабкам, выхоўваўся ў дзіцячых дамах. Другой сям'ёй стала для яго рэдакцыя рагачоўскага «Камунара». А потым — арышты: па некаторых звестках, спачатку ў 1935 годзе, потым у 1938-м. Радзіма засталася далёка: Куляшоў пяць гадоў правёў у Варкуце. Пасля давялося выкладаць у Чалябінску, Кустанаі, Мінску, потым зноў далеч — Сахалін, і зноў Мінск. Гэта не перашкодзіла яму стаць прафесарам і выдаць шэраг нарысаў па творчасці і жыцці Талстога, Чэхава, манаграфію пра земляка Лынькова, Мележа ды інш.

І зноў вяртаемся ў Журавічы, да Макаёнка, з якім у гэтай школе пасябраваў яшчэ адзін наш герой — Пётр Васілеўскі, празаік, драматург, сцэнарыст і рэжысёр. Творчае жыццё яго было звязана з кіно і тэатрам: пасля вайны паступіў у школу-студыю МХАТа, потым перайшоў на рэжысёрскі факультэт інстытута кінематаграфіі. Працаваў рэжысёрам на «Беларусьфільме». У друку выступіў напрыканцы вайны, у 1945-м. Пісаў аповесці, апавяданні пра вёску і праблемы моладзі. П'есы Пятра Васілеўскага паспяхова ішлі ў Купалаўскім тэатры.

## «ГОРАДЗЕ НАШ, АТУЛІ, САГРЭЙ…»

Гэты радок Насты Кудасавай прысвечаны не Рагачову. Аднак з такімі словамі звярнуцца да роднага горада могуць многія сучасныя аўтары. Ці, прынамсі, згадаць пэўны перыяд жыцця, з ім звязаны.


*Алена Васілевіч.*

Напрыклад, Анатоль Вярцінскі. Жывы класік нашай паэзіі пасля заканчэння журфака БДУ працаваў у шэрагу раённых газет, сярод якіх быў рагачоўскі «Камунар». Рагачоў быў апошнім горадам пражывання перад ад'ездам Вярцінскага ў Мінск. Тут, дарэчы, выйшла першая яго кніга — «Песня пра хлеб» (1962). Іншы паэт сталага пакалення, Васіль Клімянкоў, працаваў у Рагачоўскай школе дырэктарам. Цікава, што ён удзельнічаў у той самай нарадзе маладых літаратараў Беларусі, падчас якой адбылася сустрэча пачаткоўцаў з Якубам Коласам.


*Анатоль Каплан «Рагачоў. Вулачка».*

***«Каплан з Рагачова» — менавіта так пісаў пра сябе Анатоль Львовіч на тытулах некаторых сваіх альбомаў літаграфій. Ён нарадзіўся на беларускай зямлі і, нягледзячы на мастацкі поспех у розных краінах свету (работы мастака захоўваюцца ў музеях Ватыкана, Нью-Ёрка, Іерусаліма, Амстэрдама, Лондана, у Дрэздэнскай карціннай галерэі, у нацыянальнай галерэі Канады і іншых), Рагачоўшчыну памятаў і праслаўляў усё жыццё. Вулачкі радзімы абуджалі ў сэрцы Анатоля Каплана ўспаміны, дарагія і пяшчотныя. Родным пейзажам мастак прысвяціў серыю мастацкіх твораў, якая дэманструе, наколькі радзіма была аўтару блізкая.***

З Рагачоўшчыны родам празаік, публіцыст і аўтар дзіцячых кніг Васіль Ткачоў. Ён заявіў пра сябе яшчэ і як драматург: п'есы Ткачова ставіліся ў тэатрах Магілёва, Гомеля і Мінска (на сцэне Купалаўскага). Празаік Уладзімір Мехаў — з Рагачова: спалучае літаратурную работу з працай на радыё, выдаў зборнік дыялогаў «Сустрэчы ў радыёстудыі», кнігі аповесцей, апавяданняў, нарысаў; аўтар дакументальных фільмаў і радыёпастановак.

Пра горад, які стаў родным, вельмі цёпла пісала Алена Васілевіч у трылогіі «Пачакай, затрымайся», а таксама ў «Аўтабіяграфіі»: «…гэты цудоўны зялёны гарадок па калена ў белым пяску на беразе Дняпра застаўся самым мілым і дарагім сэрцу ўспамінам…». Родам з Даманшчыны Слуцкага раёна, яна на восьмым годзе жыцця засталася без бацькоў і выхоўвалася ў сваякоў. Пасля Слуцкага педвучылішча Алена Васілевіч паступіла ў Рагачоўскі настаўніцкі інстытут, у 1941-м. Пра паступленне яна згадвала: «Можа, гэта мне сніцца? Але не, я не сплю. І Рагачоўскі настаўніцкі інстытут сапраўды аб'яўляе набор на літаратурны факультэт. Прымае студэнтаў педвучылішчаў, якія скончылі два курсы. І на экзаменах не трэба здаваць ніякае матэматыкі, ніякае фізікі!..»

А вось уражанне ад сустрэчы з горадам: «Рагачова, якім ён застаўся ў маёй памяці, няма. Забудаваўся і сёння ўсё яшчэ будуецца зусім новы горад. І ў той жа час ён — ранейшы, мілы Рагачоў з яго даваеннымі ганачкамі на вуліцу. Мусіць, на гэтыя чужыя ганачкі і цяпер, як і некалі да вайны, прыходзяць вечарамі на спатканні рагачоўскія хлопцы і дзяўчаты...».

Для Алены Васілевіч, якая некалькі гадоў таму адзначыла 90-годдзе, Рагачоў застаўся горадам юнацтва, чысціні, кахання: «Бывай, Рагачоў. Бывай, маё юнацтва. Чаго ж ты, сэрца, плачаш?..»

Адзін з найпрыкметнейшых сёння празаікаў Валерый Гапееў нарадзіўся ў Восаве Рагачоўскага раёна. Ён вядомы найперш як аўтар для падлеткаў. «Цвёрда перакананы, што няма дзіцячых праблем — пісаў спадар Валерый. — Ёсць праблемы ў нашых дзяцей. І яны перажываюцца імі настолькі ж балюча, як і мы перажываем свае». Сёння Валерый Гапееў жыве ў Івацэвічах і працуе ў мясцовай газеце.


*Валерый Гапееў.*

З Рагачова прыехала «заваёўваць сталіцу» маладая паэтка, бард, рамесніца Ганна Чумакова. Жывуць і працуюць тут паэт Уладзімір Шпадарук, пісьменнік-гумарыст Міхась Сліва, пісьменнік і перакладчык Мікола Янчанка, які разам з тым апекаваўся мясцовай літаратурнай моладдзю: стварыў і кіраваў літаб'яднаннем «Натхненне».

Перавагу роднаму гораду аддала паэтэса Наста Кудасава, якая нядаўна выдала адну з найлепшых за апошнія гады кніг паэзіі «Мае невымаўля». Першыя яе вершы нараджаліся тут. І на пытанне, ці паўплываў Рагачоў на яе творчасць, Наста адказвае: «Так, паўплываў, відавочна. Найперш Дняпро, на беразе якога выгадавалася». Сярод улюбёных рагачоўскіх мясцін паэтэсы — ціхія завулачкі са старымі хатамі, вядома ж, бераг Дняпра, «дзе можна паблукаць, каб адчуць гэты дух, які лунае над горадам». Тут у яе ёсць «таемныя натхняльныя мясціны, якія, можа, вядомыя не кожнаму і якія, можа, зразумее не кожны».

**Андрэй ЖБАН.**
**Малюнкі Алесі ІСЫ**



Ганна ЧУМАКОВА

# Лісты са сталіцы на Радзіму…

## Дзяцінства

*Вакол — раскіданыя цацкі —
Маё незваротнае шчасце —
Маленства былое:
Малое
шчаня
і мядзведзь касалапы…
У дыван-самалёт
Ператвораецца канапа:
«Права руля, лева руля,
Курс на Маленства!»
Да матчынай песні,
Дзе сустракае
Такая,
Як я, —
У дзьмухаўцовым вяночку.
Штосьці шапоча,
Люляе
Ляльку — сваё немаўля
І кажа так проста,
Што стане дарослай,
Будзе хадзіць на работу
І потым
Употай
Абдымаць свае лялькі і цацкі,
На дыване-самалёце вяртацца
ў дзяцінства былое…
Такое
малое…*

***

*Лёгкі снег — мітуслівая зграя…
Я ж цікую, з якой ён ракі:
Можа, Свіслачы,
можа, з Дуная?
Ад мясцін, ад узгоркаў якіх?*

*Можа колькі ўжо дзён у дарозе,
Можа, з Сожа ўзняўся
ледзь-ледзь?
Ні па паху яго не адрозніць,
Ні па колеры не зразумець.
Снег звычайны,
такі, як і ўчора —
белым пылам сняжынкі
лятуць…
Мне ж здаецца,
Што ён з Рагачова,
Дзе ў Днепра заплятаецца
Друць.*

***

*Дарога да дому — чатыры
гадзіны,
А там ля парога чакае адзіная,
Што пільна так сочыць —
сумленнем — за намі.
Глядзець ёй у вочы складаней
з гадамі…*

*Бо у восені маёй —
вочы, поўныя тугі
і жалю…
Бо у восені маёй
залівае лістабой
дажджамі…*

*Да родных маршчынак
і цёплых каленяў
Лічу я прыпынкі,
Дажджынкі,
Імгненні…
Там пахі і гукі
былой весялосці,
І мілыя рукі
лунаюць ў валоссі…*

*Там у восені маёй —
вочы, поўныя тугі
і жалю…
Там у восені маёй
залівае лістабой
дажджамі…*

*Да дому дарога —
чатыры гадзіны,
А там ля парога чакае
Радзіма…*

***

*Цягнікі…
Цягнікі… —
Ў паралелях жыццё,
Ад сябе напрамкі
ў нерэальнасць уцёк.*

*Ліхтары-маякі.
Розных станцый агмень…
Цягнікі…
Цягнікі…
Дзень за ноч,
Ноч за дзень.*

*Перашэпты — шматкі
Дзіўных лёсаў чужых…
Цягнікі…
Цягнікі…
Стан заўжды на мяжы:*

*Мікс рэальнасці й сноў
Я складаю ў радкі…
Ад расстання ізноў —
Толькі некалькі слоў,
Да вяртання ізноў
Цягнікі…
Цягнікі…
Цягнікі…*

***

*Фіялетавы горад —
Горад світальны —
Мне гаворыць «I'm sorry» —
На развітанне
І праводзіць вачамі,
Што без сноў ашалелі…
— Выбачай, выбачай,
Я спяшаюся вельмі*

*Адшукаць свой вагон,
Знікнуць у калідоры,
Каб не чуць, наўздагон
Кажуць што пасля «sorry»…*

## Бабулінай хаце

*Мой шлях да старэнькага дома,
Дзе колісь натхненне жыло.
Юначых світанняў цяпло
І сталасці дзённую стому
Не дорыць ён больш нікому.*

*У бэзе звіняць вераб'і
Адчайна і ахмялела.
Мы шчасце хавалі няўмела
І вось зразумець не змаглі,
Чаму разгубілі, калі?*

*Спынюся ля весніц старых,
Праз шыбы гляджу у былое:
Не тое… Усё не тое… —
Дрыжыць гарызонтавы штрых
Пакутнай расстальнай
мяжою…*

**Зіновій ПРЫГОДЗІЧ,
пісьменнік, галоўны рэдактар часопіса «Гаспадыня»:**

*— Дзень пісьменства для краіны, безумоўна, важная, значная падзея, якая дае магчымасць не толькі пісьменнікам, але і звычайным людзям падвесці вынікі развіцця беларускай літаратуры ў сучасным свеце. Свята пісьменства — своеасаблівы агляд дасягненняў літаратуры, ды і ў цэлым агляд культуры. На працягу свята мы сутыкаемся не толькі з літаратурай, але і бачым, наколькі развітыя ў беларусаў розныя віды творчасці.*



Анатоль ЗЭКАЎ

## Згадваючы Міколу Сурначова*

*Стаю, любуюся на зоркі,
што асвятляюць Рагачоў,
і так балюча мне і горка
цябе тут згадваць, Сурначоў.
Каля Днянра стаяць павінен
сягоння быў бы й ты са мной.
А ты ляжыш дзесь пад
Берлінам,
прыняўшы свой апошні бой,*

*бы хлопец той, якога ў жыцці
скасіла куля на бягу.
Прасіў ён: «Маці не кажыце…»
Сказаць дагэтуль не магу.*

*І ты даруй мне ўжо, зямляча,
што я «На сурмах баравых»
гляджу на зоркі так —
няйначай,
тваю пабачыў сярод іх.*

*Яна не ўпала ў сорак пятым,
а свеціць і дасюль якраз,
як быццам ты сваім паглядам
ўзіраешся адтуль у нас.*

**Мікола Сурначоў (1917 — 1945) — беларускі паэт, ураджэнец вёскі Слабада Рагачоўскага раёна. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Загінуў у красавіку 1945 года пад Берлінам.*

## Успамін з маленства

*Наўрад ці тое ўжо забудзеш,
калі ў малечых гады
палілі вогнішчы ля Друці —
і да Днянра аж слаўся дым.*

*І засцілаў, нібыта коўдрай,
ён прыбярэжныя лугі,
і так усім было нам добра
жыць, не адведаўшы тугі*

*і не адведаўшы самоты,
што напаткае потым нас,
калі жыццёвыя турботы
на плечы ўзваліць грузам час.*

*Ды і ў турботах не забудзем
і будзем памятаць заўжды
мы нашы вогнішчы ля Друці
і той, што вочы еў нам, дым.*

## У Рагачове

*Жыве мой брат у Рагачове,
і я, прыехаўшы, прашу:
— Давай жа сядзем, брат,
у човен
і адвядзём з табой душу.
Свайго маленства час згадаем,
калі не мулялі гады.
Хоць чым далей мы адплываем,
тым больш сплывае і вады.*

*І ўжо вада, як успаміны,
аб бераг б'ецца ў асацэ.
Нас успаміны не пакінуць
і не патонуць у рацэ.
І мы плывём, і рыбу ловім,
і ў тое верым усур'ёз,
што прызямліўся ў Рагачове,
а не ў Гародні ўсё ж Хрыстос.*



Наста КУДАСАВА

## Цуд

**Ані Трутневай**

## I

*лавіць яго вуснаў дрыготкую
страказу,
балючаму целу налічваць
за ўчорам учора…
увесь Ты, Госпадзе, — праўда,
увесь Ты — цуд!
увесь Ты — сасновага раю
жывое мора…
а любы мой тчэ плаўнікамі
мой новы дзень,
люляе ў далонях гарачых
паўночны вецер.
увесь Ты, Госпадзе, — бег
па няўмольнай вадзе,
і болей нічога,
нічога няма на свеце…*

## II

*захавай гэты дзень,
можа быць, нам усё толькі
сніцца.
быццам вырай каметамі б'ецца
ў сукенках суніц,
быццам сосны зялёнымі
пальцамі вомшаюць ранне...
я не маю ні слова —
ні слова, ні выдыху…
Аня!
як жа многа, бязлітасна многа
нам дадзена шчасця:
вочы здзіўленых рыб,
смак дажджу на любімых
запясцях,
сэрцы ў шнарах дарог,
камяні ў ядлаўцовых
абдоймах —
безагляднае лета Гасподняе…
Аня, я помню…
і як вецер схіляўся ў малітве
над кожным збаночкам,
і як белыя ночы ўкрывалі нас
коўдрай малочнай,
і як роспач маю
ты люляла
на самай мяжы:
толькі плакаць і пець, толькі
плакаць і пець, толькі жыць…*

***

**Косцю Чарухіну**

*будзем карміць нашых феніксаў
проста з рук,
адагравацца у зіхценні гаючых
пёрак.
я абяцаю.
не бойся,
я больш не памру.
нават не ведаю, што б
я рабіла мёртвай.
тут жа такія цуды
па ўсёй зямлі:
клён абдымае за плечы,
цалуе вецер…
мох і чаромха, ядловец
і базілік —
бачыш, няма калі нават
і думаць аб смерці!
бачыш, як раніца просіцца:
«на, вазьмі!» –
шчасце, агромністы дзень мой,
жывы да адчаю…
будзе
і вечны міндаль,
і бясконцы язмін.
будзем карміць нашых феніксаў,
я абяцаю.*

## Дэбют

### Наталля ПЯТРУШЧАВА



**Мая малая радзіма — аграгарадок Гарадзец Рагачоўскага раёна Гомельскай вобласці. Тут прайшло шчаслівае дзяцінства. Вышэйшую адукацыю атрымала ў Гомельскім дзяржаўным універсітэце імя Ф. Скарыны на філалагічным факультэце. Пасля нейкі час настаўнічала ў роднай школе. Цяпер жыву ў Рагачове, працую ў рэдакцыі раённай газеты. Вольны ад працы і дамашніх клопатаў час люблю бавіць за цікавай кнігай ці рукадзеллем. Ноччу, калі дзеці (а іх у мяне чацвёра) спяць, — пішу вершы.**

**Аўтар**

## Няхай!

*Няхай імчацца тыдні,
Няхай гады лятуць!
Няхай асудзяць злыдні
І плёткі размятуць…*

*Няхай жыццё струменіць,
Мяняе плынь падзей…
Хай час мяне не зменіць
І не заб'е надзей!*

*Хай клопаты і радасць
Забавяць вольны час…
Якім жыццё складзецца,
Залежыць і ад нас!*

***

*Словы тыя, бы зерне сабраць
І пасеяць у думкі людзей,
Мову родную каб захаваць,
Каб жылося нам з ёй весялей!
Каб гучалі і лашчылі слых
Шлюб, каханне, матуля,
цукерка,
Водар, сонейка, неба блакіт,
Дзённік, сшытак, адзнака,
паперка…
Каб валошкі цвілі — васількі,
Дзьмухаўцы пух ўздымалі
ў паветра…
Беларусы каб вечна жылі
На зямлі і у вершах паэтаў!*

**Васіль ТКАЧОЎ**



# Чакайце. Еду…

*Апавяданне*



*Эдуард Курачкін «На вуліцы».*

***Рагачоў — горад, дзе нарадзіўся Эдуард Курачкін, вядомы маскоўскі авангардыст. Менавіта адсюль будучы мастак ва ўзросце двух з паловай гадоў патрапіў у партызанскі атрад, куды па заданні партыі быў размеркаваны яго бацька. З таго моманту родная зямля ўспрымалася мастаком як месца, дзе яшчэ маленькім хлопчыкам ён атрымаў вялікі жыццёвы досвед. У сямнаццаць гадоў лёс прывёў мастака ў Маскву (паступіў у Маскоўскае мастацка-прамысловае вучылішча імя М. Калініна). Тут і пачалася мастацкая дзейнасць Эдуарда Курачкіна, у якой ён дасягнуў поспеху і грамадскага прызнання. Але ж варта адзначыць, што гады дзяцінства на Рагачоўшчыне дапамаглі аўтару стаць моцным духам і характарам, упэўненым перад любымі перашкодамі.***

Лета гэтага года выдалася надта спякотнае. Калі яшчэ такое было, Атрохаў і не прыпомніць. «Ну, два, ад сілы тры дні пастаіць звычайна гарачыня ды паступова непрыкметна спадзе, а тут жа — не прадыхнуць! — разважаў ён, паглядаючы з акна сваёй утульнай гарадской кватэры на двор, запруджаны легкавікамі. — Каторы тыдзень смаліць. Невыносна!»

Больш за ўсё Атрохаў шкадаваў, што ляснуць яго грыбы, а збіраць іх ён вялікі аматар, нярэдка нават адпачынак планаваў пад грыбную пару і тады ўжо адводзіў душу спаўна. Жонка Валянціна не паспявала перабіраць грыбы і ці то жартам, ці то ўсур'ёз лаялася: «Мо хопіць табе ўжо брындаць па лесе? Куды іх столькі? Сам не ясі, дзеці таксама не вельмі каб паважалі — ну скажы?» Ён толькі разводзіў у такіх выпадках рукамі і зацята адмоўчваўся. А што тут скажаш, калі грыбы — гэта для Атрохава не проста ежа, а дзяцінства, сонечнае, гуллівае і бесклапотнае. І яго, чалавека, які ўжо нямала пажыў і пабачыў на гэтым свеце, цягнула туды, дзе некалі ўпершыню ўбачыў валошку ў полі, назіраў і здзіўляўся, як апускаецца долу жоўтае восеньскае лісце з дрэў, як насустрач табе выбягаюць у ляснoй цішы крамяныя прыгажуны баравічкі… Цяпер бы, калі скончылася Алімпіяда ў Бразіліі, а ён, Атрохаў, апантаны заўзятар спорту, самы раз і ў грыбы выбрацца. Толькі тых, забрыкай іх камар, усё яшчэ няма. Калі б яны з'явіліся, і за сем замкоў гэта не схаваеш: перад увaходам на сельмашаўскі базарчык імі б ужо гандлявалі найбольш спрытныя дзецюкі і жанчынкі з пакамечанымі, як правіла, тварамі і дрыжачымі рукамі. Для іх грыбы хоць нейкі заробак. Атрохаў не асуджаў такіх гараджан, не: у кожнага з іх свой лёс, відаць, няпростае, няўдалае жыццё, і хай яны як-небудзь выблытваюцца самі, але што служаць гэтыя людзі «грыбным барометрам» — бясспрэчна.

«Няма, няма грыбоў, — Атрохаў паранейшаму глядзеў у акно. — Цікава, а што робіцца ў нашым лесе, на Плоскім? Сто кіламетраў жа з гакам ад Гомеля на поўнач, там часцей ішлі дажджы. Мо і будуць? Толькі ў каго папытаеш? У лес жа не патэлефануеш. У маці хіба што? А раптам?..» Але, крыху павагаўшыся, усё ж адхіліў гэтую думку: яна не толькі сама ўжо некалькі апошніх гадоў не выбіраецца ў лес, дык і суседзі таксама. Каму там ісці за тымі грыбамі? На ўсю вёску дзве бабулькі ды адзін дзед акрамя яе. Але пазней не вытрымаў — пацікавіўся. Спачатку распытаў пра жыццё, а потым і пра грыбы заікнуўся. Пачуў тое, на што і спадзяваўся: «Ой, сынок, ці мне ведаць?!» Праз невялічкую паўзу маці, уздыхнуўшы, прызналася: «Гэта ж я табе, Іване, сама збіралася патэлефанаваць. Толькі так падумала, а тут і ты турбуеш. Во супадзенне дык супадзенне! Заўтра прыеду. Чакайце. Потым раскажу, па якой справе прыеду… Сустрэнеш мяне ці як?»

Добрая рэч, канечне, гэты мабільнік, нічога не скажаш. Атрохаў іншы раз думаў: «А як мы раней без такой штуковіны жылі?» І не мог даць розуму. Сустракаліся ж на дзіва акуратна, дакладна і ў вялікіх гарадах, і маленькіх, і пра клопаты старых сваіх заўсёды ведалі, і… Адным словам, выдатная рэч!

— Заўтра мама прыедзе! — сустрэў на парозе жонку Атрохаў (яна вярнулася з працы), і сказаў гэта радасна, узнёсла; ён і сапраўды кожны раз шчыра радаваўся, калі прыязджала з вёскі матуля.

У Валянціны, жонкі, ад пачутага выкругліліся вочы, і яна не адразу, а толькі калі распранулася, пацікавілася:

— Здарылася што?

— Ды не! Не падобна на тое. Голас бадзёры… Прыеду, кажа, пра ўсё раскажу. Чакайце… Ці мо ўсё ж спытаць? Пачакай, я зараз!..

— Не трэба, Ваня, — запярэчыла жонка. — Можа, проста засумавала і вырашыла праветрыцца? Паспрабуй пасядзі там адзін у хаце! А схадзі лепш у краму ды купі чаго. На свой густ. Ты ж ведаеш, што твая мама больш за ўсё любіць.

— Ага! Я, значыць, пабег. Дзе грошы?

Валянціна махнула рукой у бок куфэрка:

— Там, дзе заўсёды… Знойдзеш. А я пакуль кавы вып'ю ды будзем прыбіраць — мама ж прыедзе…

Па дарозе ў краму і з крамы, нават калі выбіраў прадукты, Атрохаў думаў увесь час пра маці. Уяўляў, як паедзе на вакзал яе сустракаць, а потым прывязе на маршрутцы (свайго легкавіка не мае і не трызніць ім, як некаторыя), пасадзіць маці на самае пачэснае месца за сталом, на які яго Валянціна засцеле самы лепшы абрус, і яны вып'юць па кроплі — менавіта так, па кроплі — самаробнага вінаграднага віна за сустрэчу і будуць гаманіць пра жыццё-быццё. Доўга і нетаропка, бы даўно бачыліся, хаця, канечне ж, сустракаюцца часта: то на Радаўніцу, то на дзень нараджэння маці, то проста так прыязджае сын да яе, каб падправіць які паркан ці прывезці з лесу і наскіпаць дроў на зіму. Тут ужо без яго, Атрохава, не абыходзіцца. Калі б у яго былі сыны, браў бы з сабой, а з дачок, іх у яго дзве, багата не возьмеш.

Маці Атрохава не проста маці, яна — Марыя Якаўлеўна, настаўніца-пенсіянерка, выкладала ўвесь час беларускую мову і літаратуру, паважаны ў вёсцы чалавек. Бацька, Антон Ягоравіч, рабіў радавым калгаснікам, колькі год таму яго не стала, і калі Атрохаў прыехаў на саракавіны і прапанаваў старой перабірацца да яго ў горад, то потым пашкадаваў, бо тая не на жарт пакрыўдзілася: «Ат! Жывуць жа вунь Аўгей ды Полька з Варкай, а я чым горшая? Не, дзеці мае, вы самі па сабе, а я сама. Пакуль яшчэ ногі ходзяць, рукі слухаюцца… Можа, калі ўжо зусім нявыкрутна стане, тады сама папрашуся…»

Пакуль маці не просіцца, і гэта радуе сына.

Заўтра яна прыедзе, і ў яго будзе шчаслівы дзень. Але ўсё ж карцела спытаць: чаму? навошта? Аднак потым прагнаў гэтыя думкі, цвяроза казаў сабе: «Чаго добрага, яшчэ пакрыўджу маму, што так у яе душу нахабна лезу? Не трэба назаляць, а то падумае, што не хочуць, каб ехала… Прыедзе — раскажа. Куды, на самай справе, спяшацца! — і далей разважаў: — Эх, мама, мама! Колькі з табой усяго звязана! Хапала і ўсмешак, і слёз. Ніколі не забуду, калі пахадзіў па маёй спіне трапкач. Было за што. Тады я паставіў яе і сапраўды ў вельмі няпростае становішча. Узімку, вяртаючыся праз агароды дахаты са школы, трапіў у такую снежкую каламуць, што свету белага не відаць. А я ж нёс сшыткі ўсяго класа пасля кантрольнай па мове. «Аднясі, сынок». Тады пакетаў розных і сумак, якіх сёння процьма, не было, а ў торбе ўсё месца займалі свае падручнікі, таму стос сшыткаў трымаў пад пахай. І трэба ж мне было спатыкнуцца, бразнуцца вобзем, ды так, што раскідаў тое, што нёс, і вецер з радасцю, здавалася, падхапіў сшыткі, пачаў шалёна іх гартаць і прыбіваць да паркану… Малы-малы, а што мне за гэта будзе, я ўжо тады адчуваў… Пахадзіў, пахадзіў трапкач. У той вечар я бачыў на твары мамы і слёзы. Ёй, мусіць, было шкада і сшыткаў, і мяне таксама…»

Вярнуўшыся з крамы, Атрохаў звярнуў увагу, што Валянціна і сапраўды не стала чакаць яго, а ўжо мыла падлогу на кухні. Пакуль кафля не падсохне, яму там няма чаго рабіць: прынесеныя пакункі пакуль паляжаць на крэсле ў прыхожай, а потым ён перакладзе іх у халадзільнік.

— Што купіў? — выпрасталася і паглядзела на яго жонка.

Атрохаў пералічыў, Валянціна моўчкі кіўнула і працягвала, апусціўшыся на кукішкі, церці рукамі кафлю. Яна рабіла гэта, схіліўшы галаву на бок, надзвычай старанна, што здзівіла мужа: раней жа швабрай злёгку пройдзе — і парадак, а тут, бач ты яе, як стараецца! Яно і зразумела: свякруха прыедзе. Для каго мама, а для яе так. Толькі розніцы вялікай у гэтым доме не бачыць: як для Атрохава цешча — мама, так і для Валянціны свякруха.

Падлога блішчыць.

— Я пайшоў пыласосіць, — сказаў Атрохаў і падаўся ў другі пакой па пыласос.

— Давай, а я вокны пратру, — кінула наўздагон Валянціна. — Як ведала — учора якраз купіла аэразоль…

Калі Валянціна цёрла шыбы газецінай, да слыху Атрохава данеслася танклявае і пранізлівае: піш-у, піш-у… Ну як тут не ўспомніць зноў маці, калі яна вучыла іх мыць шыбы ў вясковай хаце. Пяць акон, а іх, дзяцей, — трое. Як старэйшаму і больш дужаму, Атрохаву даставаліся два акны, а на апошняе, пятае, яго брат і сястрычка, памыўшы свае шыбы, налягалі разам. І тады таксама ў хаце было чуваць: піш-у, піш-у…

— Трэба, відаць, і гардзіны памяняць? Як думаеш, Ваня? — жонка, скрыжаваўшы рукі на грудзях, глядзела на мужа, калі той сабраўся ўжо аднесці пыласос на месца.

— Можна, чаму б і не?

— Я ж якраз і новыя купіла, як ведала… Мама не бачыла…

Ад новых гардзін у пакоі стала неяк асабліва святочна.

«Уяўляю, як мама абрадуецца!» — падумаў Атрохаў.

«Цікава, што скажа свякруха? А можа, і зусім не заўважыць. Гледзячы з чым яна прыедзе… Мо бяда якая, то ёй не да шыку», — разважала Валянціна.

Пакуль прыбраліся, стаміліся крыху. Каб жа яшчэ не пасля працоўнага дня! А то і Атрохаў прыйшоў са школы пасля шасці ўрокаў: ён, як і маці, філолаг, выкладае ў школе мову і літаратуру, толькі рускую, і Валянціна набегалася каля прылаўка — падай людзям тое, падай гэтае. Гэта так здаецца, што быць прадаўцом вельмі проста. Але ж колькі кілаграмаў перабярэ, патрымае-падасць яна за змену ўсялякай дробязі — адной ёй вядома. Калі ўсё тое, мабыць, пакласці на вагі, то атрымаецца ўга якая лічба! Страх падумаць…

Пэўны час сядзелі на канапе моўчкі, задумліва. Не хацелася гаварыць. Валянціна потым узнялася, пайшла на кухню гатаваць вячэру. Атрохаў жа затрымаўся: ён проста любаваўся тым, што зрабілі толькі што ён ды жонка, і радаваўся, як некалі ў дзяцінстве, калі, дзякуючы і яму, больш утульна, святочна рабілася ў іх вясковай хаце, а маці не прамінала пахваліць іх за старанне…

Парушыла цішу мелодыя мабільніка.

— Мама! — у Атрохава засвяціліся вочы.

Ён выбег з залы, схапіў мабільнік са стала ў прыхожай, прыклаў да вуха. Слухаў маці, ківаў галавой і толькі зрэдку ўстаўляў у размову свае слова. Праз колькі часу падышоў да Валянціны і паведаміў:

— Адбой. Мама не прыедзе… Кажа, даведалася, што Полька і Варка занядужалі, ці не грып, то не можа іх пакінуць адных. А што яна хацела ў горадзе — так і не прызналася. Але паабяцала праз тыдзень прыехаць і пра ўсё расказаць… Ну ці не Агата Крысці?

Атрохавы крышачку памаўчалі, потым пераглянуліся і… заўсміхаліся. І самі ж здагадаліся, чаму такая мяккая, пяшчотная ўсмешка адначасова нагарнулася цёплымі хвалькамі на іх твары. Усё вельмі проста. Мамы заўсёды побач. Нават калі жывуць за сотні кіламетраў…

# Нацыянальная літаратурная прэмія:

## за крок да абвяшчэння лаўрэатаў

**Хутка інтрыга раскрыецца: на днях стануць вядомыя пераможцы ў творчай барацьбе, аўтары лепшых твораў паэзіі, прозы, драматургіі, публіцыстыкі, крытыкі і літаратуразнаўства, аўтары твораў для дзяцей і юнацтва, а таксама — лепшы дэбютант 2015 года. З намінантамі-празаікамі мы ўжо знаёмыя: гэта Алесь Марціновіч і Яўген Хвалей, Віктар Шніп і Ліна Багданава, Канстанцін Нілаў і Анатоль Дзенісейка, а таксама Уладзімір Саласюк. Творы вельмі розныя — ад гістарычных партрэтаў да нон-фікшна. Паэтычнымі намінантамі сёлета сталі Мар'ян Дукса, Змітрок Марозаў і Фёдар Гурыновіч — усе прадстаўнікі так званай традыцыйнай паэзіі. Прадстаўлены чытачу і драматургічны твор — п'еса Ягора Конева «Злачынства і пакаранне на берагах Свіслачы». Сёння ж наша ўвага засяродзіцца на намінацыі не менш важнай, на творах не менш сур'ёзных — адрасаваных дзецям. Знаёмцеся, а разам з тым рабіце свае «лаўрэацкія» прагнозы: балазе, чакаць нядоўга.**

### Да перамогі!




**Аўтар.** Сярод беларускіх вайскоўцаў і супрацоўнікаў праваахоўных органаў нямала аматараў літаратуры. Сяргей Давідовіч не толькі палкоўнік у адстаўцы, але і мастак, паэт, аўтар некалькіх кніг для дзяцей.

**Творы.** «Залаты буліт» — яркая кніга ў форме шайбы — зацікавіць хакеем кожнага, прынамсі, на адзін матч. Сяргей Давідовіч апісвае гульню хлапчукоў з узрушанасцю спартыўнага каментатара: фінал рэспубліканскага турніру — гэта вір эмоцый і вялікая прага перамогі. Галоўныя рысы добрага хакеіста — моц духу, мужнасць, павага да саперніка. Гэтымі станоўчымі якасцямі надзелены Юрась Лятун, які і забівае залаты буліт, выконваючы знакаміты прыём Фірсава.

«Баявая нічыя» — яшчэ адна кніга на спартыўную тэму. «Дзедава жалейка», выдадзеная таксама ў 2015 годзе, — зборнік казак і апавяданняў, дзе шмат незвычайных здарэнняў з жыцця сучасных хлапчукоў. Побач з павучальнай ідэяй у кожным творы ёсць цуд, вельмі патрэбны маленькім чытачам. Некаторыя цуды здарыліся ў іншых казках: чароўная жалейка збірае вакол музыкі насельнікаў лесу, бычок сыходзіць, каб захаваць жыццё, а потым ратуе гаспадара. Нямала ў кнізе і аўтарскіх цудаў. Так, старэнькая фея просіць хлопчыка адшукаць у бібліятэцы адно чароўнае выданне і такім чынам прывучае яго цікавіцца кнігамі.

### З усмешкай

**Аўтар.** Творчы стаж Міколы Чарняўскага перавышае паўстагоддзя. Яго першая кніга для дзяцей пабачыла свет ажно ў 1963 годзе! З таго часу Мікалай Мікалаевіч напісаў больш за два дзясяткі кніг, а ў 2009 годзе атрымаў прэмію «Залаты Купідон».

**Твор.** Зборнік «Дзе схаваўся цень удзень» прапануе вершы, невялічкія паэмы, скорагаворкі і шарады. Побач з вершамі пра радасныя хвіліны дзяцінства тут шмат павучальных гісторый. Хлопчык дапамагае тату будаваць дом і атрымлівае выдатны працоўны загар, сябры гуляюць у футбол з дзяўчынкай і не спяшаюцца пакрыўдзіць яе голам. Ёсць у кнізе і смеху вартыя героі, памылкі якіх падкрэсліваюць мудрыя дзядулі і аднакласнікі.

Кніга «З думкай пра Беларусь» знаёміць вучняў сярэдняй школы з выбітнымі беларусамі, нагадвае пра значныя гістарычныя падзеі, прапануе загадкі з краязнаўчага музея. У першых раздзелах празаічныя тэксты чаргуюцца з вершамі, якія ствараюць узнёслы настрой, — а з якім яшчэ пачуццём чытаць пра цудоўную Радзіму?

### Цар Баравік ды Кот без ботаў

**Аўтар.** Генадзь Аўласенка больш за дваццаць гадоў працаваў настаўнікам хіміі і біялогіі. Сёння яго імя ведае кожны чытач «Бярозкі», «Вясёлкі», «Рукзачка». Генадзь Пятровіч піша вершы, п'есы, казкі, апавяданні. Адзін з яго самых вядомых герояў — нядрэнны, але гультаяваты і схільны да шкодных звычак Вася Лайдачкін, з якім здараюцца казачныя гісторыі.

**Твор.** «Прыгоды Васі Лайдачкіна» запрашаюць у краіну казак, царства грыбоў і краіну шкодных звычак, а таксама змяшчаюць вясёлыя гісторыі пра сяброў галоўнага героя. Цар Баравік і Кот без ботаў, Здаровы Лад і Цыгарэта Нікацінаўна, іншапланецяне і школьныя адзнакі — кніга з такімі персанажамі будзе цікавай і карыснай. Тым больш што Генадзь Аўласенка любіць жартаваць ды здзіўляцца.

Вершы-гумарынкі, загадкі, небыліцы сабраны ў кнізе «Верш, дзе ўсё наадварот», якая ўздыме настрой бацькам і дзецям і заахвоціць да сямейнага чытання на беларускай мове. Творы нашых сучасных паэтаў такія ж дасціпныя ды вясёлыя, як у класікаў дзіцячай літаратуры. Галоўнае — знайсці сваю кнігу і разгарнуць яе на шчаслівай старонцы!

### Ідэальны сын

**Аўтар.** Алесь Карлюкевіч — пісьменнік, ініцыятар шматлікіх культурных праектаў.

**Твор.** «Падарожжа паштовай маркі» — новая сустрэча з хлопчыкам Максімам — героем кніг «Крыніца паноў Ельскіх» і «Як Жаўна лясным жыхарам кватэры будавала». Максім разам з бацькам захапляецца філатэліяй і, дзякуючы паштовым маркам, знаёміцца са спадчынным прынцам Эфіопіі, а потым здзяйсняе падарожжа ў далёкую афрыканскую краіну. Дапамагае калекцыянеру маленькі чарадзей Паштавік.

Максім — цудоўны хлопчык, мець такога сына мараць усе бацькі. Паслухмяны, вытрыманы, спакойны, а галоўнае — вельмі дасведчаны. Кожнае дзівоснае здарэнне каштуе для героя тры адказы на складаныя пытанні — таму аповесць атрымалася надзвычай пазнавальнай. Дзякуючы кнізе, можна даведацца пра незвычайныя помнікі, пра сенсацыйную перамогу ўругвайскіх футбалістаў на Алімпіядзе 1924 года, пра час, калі кактусы каштавалі на вагу золата. А яднае Беларусь і Эфіопію зграбная прыгожая птушка. Здагадайцеся, якая?

Аўтар затрымліваецца на многіх сур'ёзных рэчах: службовы этыкет, знешняя палітыка... Як вучыць хлопчыка старэйшы сябар-філатэліст, непаразуменні — не нагода для спрэчкі, а магчымасць умацаваць добрыя адносіны праз выяўленне павагі і добразычлівасці да апанента. Максім на дзіва выдатны дыпламат — далей справа за маленькім чытачом.

**Юлія ШПАКОВА**

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ,**
**пісьменнік, лаўрэат Нацыянальнай літаратурнай прэміі:**

*— Дзень беларускага пісьменства вырашае адразу некалькі задач. Па-першае, нагадвае беларусам, што ў іх ёсць цікавая літаратура, вартая ўвагі. Па-другое, прасоўвае айчыннае прыгожае пісьменства ў рэгіёны. А таксама, што ні для каго не сакрэт, дапамагае добраўпарадкаваць гарады, якім пашчасціла стаць сталіцай свята пісьменства.*

### Капітан і яго прыгоды

**Аўтар.** Дзяцінства Уладзіміра Кулічэнкі прайшло ў раз'ездах: бацька-вайсковец вазіў за сабой сям'ю з Мінска ў Маскву, потым на Байканур. Творчая біяграфія Кулічэнкі пачалася ў колішнім Ленінградзе (эсэ, замалёўкі, нарысы). Сёння піша (па-руску) навуковую фантастыку і прозу для дзяцей.

**Твор.** Падарожжы дзіцячых гадоў, напэўна, паўплывалі на стварэнне «Незвычайнага плавання капітана Трумбаля». Тут і экзатычныя мясціны, і ўсякія дзівосы, і ўласна падарожжа. Кніга адрасуецца падлеткам, але яскравая, іранічна-бадзёрая мова робіць яе цікавай для ўсякіх чытачоў, улюбёных у вытрыманы стыль і жарты. Уладзімір Кулічэнка зрабіў галоўнымі героямі асоб каларытных: гэта вынаходлівы і нязменна спакойны капітан Трумбальд, дзівакаваты прафесар Флавіа, адметны лёгкай ленаватасцю і слоўнай эквілібрыстыкай штурман Шнуркоў. Яны нагадваюць герояў Жуля Верна: бравых капітанаў, Паганэля, Паспарту. Але пры гэтым не з'яўляюцца копіямі — несумненныя арыгіналы! Як і багатая на параўнанні, сталая мова аповесці. Да ўсяго, кніга насычаная спецыяльнымі тэрмінамі, якія лаканічна расшыфроўваюцца.

### Недзіцячыя пытанні

**Аўтар.** Сяргей Клімковіч пачынаў з аповесцей дакументальна-дэтэктыўнага кірунку. Скончыў Літаратурны інстытут імя Горкага, вёў на беларускім радыё літаратурна-музычную праграму «Музыка і пачуцці». Сёння працуе ў жанрах гарадскі раман, дэтэктыў, меладрама і проза для дзяцей.

**Твор.** «Таямніца кватэры № 8», першы твор Клімковіча для дзяцей, — тэтралогія, якая ўключае ў сябе кнігі «Шар Адказаў і Навальнічная Дама», «Бурштынавы Пярсцёнак і Першакніжнік», «Залатая Манета і Кароль Люмітаў» і «Ключ Ад Усяго і Чараўніца Геката». Са складанымі і рызыкоўнымі задачамі спраўляюцца дзеці: тры героі шукаюць ключ, які не толькі адчыняе любыя дзверы, але і раскрывае таямніцы чалавечай душы. Ёсць і антыгероі, што ставарае сюжэтнае напружанне, выклікае ў чытача суперажыванне. Аўтар зазначае, што ілюстрацыі ў кнігах «мульцяшныя», і шрыфт вялікі, але гэта мала гаворыць пра змест: насамрэч, пытанні паўстаюць вельмі сур'ёзныя.

### Просім да стала!




**Аўтар.** Вольга Савасцюк 30 гадоў прысвяціла журналісцкай працы. Але яшчэ раней пачала пісаць вершы. Пазней з'явіліся і творы для дзяцей, якія склалі на сёння чатыры кнігі. Апошняя з іх, «Юлін рэстаран», намініруецца на Нацыянальную літаратурную прэмію.

**Твор.** Кнігу склалі папулярныя ў дзіцячай літаратуры жанры — вершы, загадкі і казкі. Якраз вершаваная казка і дала назву кнізе. Яе галоўная гераіня Юля вырасла ў горадзе, на лета яе адправілі ў вёску да бабулі. Дзяўчынка, пазбаўленая звыклага асяроддзя, сумавала нядоўга: на бабуліным падворку, для яго чатырохногіх і крылатых жыхароў, Юля адкрыла рэстаран. Адточаны рытм і арыгінальны сюжэт робяць казку лёгкай для чытання, запамінальнай. Адметна, што Вольга Савасцюк, як і яе маленькая гераіня, ставіцца да задумы сур'ёзна, паважаючы дзіцячыя гульні. Для аўтара дзіця — самастойная асоба, творца. Акрамя таго, спадарыня Вольга зрабіла ўдалы ход — змясціла ў кнізе загадкі пра салодкія прысмакі. Тэмы вершаў таксама блізкія кожнаму дзіцяці: школа, назіранні за прыродай, летнія забаўкі, знаёмства з жывёльным светам.

### Тарас на Парнасе

**Аўтар.** Вянкі санетаў — першае, што прыходзіць у галаву, калі згадваеш Соф'ю Шах. Яна выдала з дзясятак зборнікаў твораў гэтага жанру, а таксама — вянкі вянкоў санетаў. Цяпер — і для дзяцей, кніга «Мару стаць я мастаком».

**Твор.** Анатацыя справядліва адзначае, што гэта першы ў беларускай літаратуры (і не толькі) вянок вянкоў санетаў, адрасаваны дзіцячай аўдыторыі. Ці не складаная для сучасных няўседаў форма? Па-першае, чытаецца вянок вянкоў як звычайны вершаваны аповед. У цэнтры яго — хлопчык Тарас, які марыць стаць мастаком і робіць першыя крокі да сваёй мары. Часам аўтар падладжваецца пад форму, карыстаецца інверсіяй, дзеяслоўнымі рыфмамі, але калі чытач сапраўды зацікаўлены тэмай, гэта яго не застрашыць. Па-другое, кніга разлічаная перадусім на дзяцей, якія займаюцца выяўленчай творчасцю. Пра гэта сведчыць не толькі тэма, але і падрабязныя апісанні станаў хлопчыка, яго паразы і перамогі, перажыванні. У вянку шмат фактычнага матэрыялу: разгляд карцін Г. Вашчанкі, Л. Шчамялёва, В. Шаранговіча і іншых мастакоў Беларусі. Асобна адзначым выдатныя ілюстрацыі Дар'і Чупрыс.

### У свеце макароны

**Аўтар.** Таццяна Сучкова стала піша для дзіцячай аўдыторыі, перыядычна друкуецца ў часопісе «Вясёлка». Работа аўтаркі адзначана прэміяй імя А. Дубко Гродзенскага аблвыканкама. Вядомая яна і як паэтка.

**Твор.** «Дзівосныя прыгоды макароніны Моці і іншыя неверагодныя здарэнні» — кніга, адрасаваная навучэнцам 1 — 4 класаў. Казачныя героі спадарыні Таццяны незвычайныя (што бачна па назве кнігі), але сустракаецца і звыклы для дзяцей жывёльны свет: малпачка Лёля, шчаняты Бакс і Тычка. Дзея адбываецца то ў макаронным горадзе Спагецці Мучной краіны, то ў таямнічай Віхрундыі, то ў Інструментарыі. Заўважная практычная скіраванасць гэтых казак: напрыклад, жыхары Мучной краіны дзеляцца рэцэптамі прыгатавання кексаў ды соусаў; Інструментарый наглядна паказвае, як зрабіць шпакоўню. Ёсць нават «Кулінарны слоўнічак». У пэўным сэнсе гэта энцыклапедыя «Зрабі сам», але ў забаўляльнай, жартаўлівай форме, ды яшчэ і з сюжэтнымі інтрыгамі. Пазбегнуць павучальнасці аўтару дапамагае яе непасрэднасць, мілая — у добрым сэнсе — інфантыльнасць. Аповед вядзецца не з пазіцыі «зверху ўніз», а нароўні з чытачом, а побытавыя сітуацыі апісваюцца гарэзліва і нестандартна.

**Наста ГРЫШЧУК**

# Высакародная мэта Скарыны




*Георгій Паплаўскі*
*«Доктар Францыск Скарына з Полацка», 2009 г.*

***Народны мастак Беларусі Георгій Паплаўскі, які сёлета адсвяткаваў 85-гадовы юбілей, адзін з найстарэйшых прадстаўнікоў сучаснай мастацкай школы. Аўтар актыўна працуе ў графіцы, жывапісе, піша акварэльныя работы. Ён ніколі не спыняўся, не адмаўляўся ад творчасці. Гэта стала і стымулам, і сэнсам жыцця. У сяброўскім коле мастака называюць падарожнікам. За жыццё Георгій Георгіевіч пабываў амаль ва ўсіх краінах свету, вывучаў культуру і традыцыі розных народаў. Але ж не забыў пра Беларусь, дзе ён рэалізаваўся як творца, наадварот, досвед зносін з людзьмі іншых нацыянальнасцей падштурхнуў яго да думак, што свая зямля і гісторыя — самая галоўная каштоўнасць чалавека.***

Узборніку, прысвечаным творчасці Францыска Скарыны, аўтарытэтных асоб беларускай культуры канца 1980-х гадоў «Падарожная кніжка Скарыны» (Мн., 1990) больш за 100 аўтараў. Аднак самую важную, першасную (!) каштоўнасць яго творчасці для нас, яго нашчадкаў — духоўна-маральную накіраванасць і аснову, закладзеную ў хрысціянскіх канонах, — адзначылі толькі два аўтары, перакананыя вернікі, знаўцы Святога Пісання і творчасці славутага беларуса.

Юрый Лабынцаў: «Важна не столькі тое, што Скарына першы на зямлі нашай Радзімы выкарыстаў друкарскі станок, колькі тое, з якой мэтаю ён гэта зрабіў…» (с. 288).

Валянціна Дышыневіч раскрыла галоўную мэту Скарыны і разам з тым праблему скарыназнаўства, якая засталася праблемай і ў XXI стагоддзі: «Выкарыстанне Скарынам старажытных крыніц (Біблії. — **Аўт.**) — складанае і амаль не вырашанае пытанне скарыназнаўства» (с. 280). Сапраўды, як жа яно магло быць распрацавана ў калісьці атэістычнай дзяржаве датычна рэлігійнага апалагета Скарыны? «Скарыну, як і іншых дзеячаў Адраджэння, прыцягвала свабода духу, ідэалы любові, міру, згоды, справядлівасці. Іх ён настойліва падкрэслівае ў сваіх творах, да іх палка заклікае праз стагоддзі і нас, каб любоўю захавалі жыццё на зямлі і сваю духоўную існасць сапраўднага чалавека», — адзначыла Дышыневіч (с. 281).

Але варта паслухаць самога Скарыну, паслухаць уласна аўтара, бо ў яго духоўна-асветніцкай публіцыстыцы, звернутай да сучаснікаў і нашчадкаў, якраз выкладзена тое найважнейшае, на што мы павінны звярнуць увагу, што павінны прыняць і засвоіць для карыстання ў жыцці. Гэта значыць зазнаць першасную мэту, дзеля якой Скарына звярнуўся да Біблії:

«У гэтай кнізе — пачатак і канец усёй існуючай мудрасці, што зыходзіць ад Бога Усётрымальніка. У гэтай кнізе — усе законы і правы, якімі павінны карыстацца людзі ў зямным жыцці. У гэтай кнізе — усе лякарствы душэўныя і цялесныя, разам знойдзеце. Тут навучанне дабранраўных паводзін: як любіць Бога і бліжняга, як самога сябе! (Мф. 22:37, 39). Тут — павучанні ўсім людзям, якія праз веру, зычлівасць і згоду дабро памнажаюць… Мы, хрысціяне, спасцігнуўшы звычайныя навукі, што ўвесь час пашыраюцца, маем патрэбу ў навуцы векавечнай — выратаванні душы! Таму і чытаем для настаўлення святое Евангелле і імкнемся ў справах трымацца прыкладу жыцця Збаўцы нашага Ісуса Хрыста. Каб з Яго дапамогай знайсці шляхі ў Царства Нябеснае, падрыхтаванае для абраннікаў Божых».

*З Прадмовы да ўсёй Біблії*

***

«…гэтая кніга (Эклезіяст. — **Аўт.**) вельмі патрэбная, бо ў ёй аб царкоўнай навуцы… Найбольш аб мудрасці, аб страху Гасподнім, аб Слове Божым, аб справядлівасці, аб веры, аб любові, аб надзеі, аб чысціні, аб міласэрнасці, аб моцы духоўнай, аб мірнасці, аб пачцівасці, аб шчодрасці, аб ціхмянасці, аб любові да людзей, аб навуцы Закона Божага, аб паслушэнстве бацькам сваім, аб праведнасці сваёй, аб тварэнні дабра, а не зла, аб шанаванні святых падзвіжнікаў веры, аб праведнасці цароў, аб высакародстве прарокаў Божых і аб іншых многіх добрых звычаях і норавах, якія ў ёй, чытаючы, знойдзеш...»

«Што было напісана раней на розных мовах, міласэрны Бог нам паслаў для нашага навучання, каб мы, Яго славячы, Яго любячы, Яму служылі, у Яго веравалі, да таго ж, каб былі дасканалыя ў норавах і добрыя справы чынілі» (Рым.15:4); «бо без веры не можам любіць Бога, як і вера без добрых дзеяў мёртвая» (Іяк. 2:20).

*З Другой прадмовы да Кнігі Ісуса Сірахава*

***

«Усё Пісанне боганатхнёнае, карыснае для навучання і выяўлення прыхаванага, для выпраўлення і спасціжэння ісціны. "Хай дасканалы будзе чалавек Божы і на ўсякую добрую справу гатовы", — піша святы апостал Павел (2Цім. 3:16-17). Дзеля гэтага Святыя Пісанні прызначаны: для нашага навучання і выпраўлення духоўнага і цялеснага… Там ёсць справядлівасць, там ёсць чысціня душэўная і цялесная; ёсць там навучанне ўсякай праўдзе. Там — мудрасць і розум дасканалы; там — міласць і дружалюбнасць без ліслівасці і ўсе іншыя добрыя норавы, нібы крыніцы, адтуль выходзяць».

*З Прадмовы да Псалтыра*

***

«Чалавечая істота двума законамі кіруецца: тым, што ад Госпада Бога, г.зн. прыроджаным, і напісаным.

Прыроджаны закон найбольш выконваецца: тое чыніць усім іншым, што самому люба прымаць ад іншых, і таго не чыніць іншым, чаго сам не хочаш мець ад іншых. На гэтым, як на падмурку, усе пісаныя законы заснаваныя, як Збаўца наш Ісус Хрыстос кажа: "Усё, што вы хочаце, каб чынілі вам людзі, тое і вы чыніце ім; у гэтым закон і прарокі" (Мф. 7:12). Такім чынам, перш за ўсе пісаныя законы і правы прыроджаны закон ад Госпада Бога дадзены і ўвесь у адзіным вызначэнні заключаецца: "Палюбі бліжняга свайго, як самога сябе" (Мф. 22:39)».

*Сказанне да Кнігі Другога закона Маісеева*

***

«Кожнае дрэва, што не родзіць добрага плода, высякаюць і кідаюць у агонь» (Мф. 7:19); «Бо як цела без духу мёртвае, так і вера без дзеяў мёртвая» (Іяк. 2:26).

*Прадмова да Кнігі прарока Данііла*

***

«..не маючы гневу, зламоўнасці, не крыўдзячы бліжняга свайго… захавайма гэта, як да бацькоў сваіх, як да старэйшых, як да маладзейшых, так і да нямоглых, так і да іnaверцаў, так і да ўсякага чалавека».

*Прадмова да Кнігі Дзеянні святых апосталаў*

***

«І сказаў ім Ісус: "*Я — хлеб жыцця*; хто да Мяне прыходзіць — не зазнае голаду, а хто веруе ў Мяне — не зазнае смагі ніколі" (Ін. 6:35)».

*Прадмова да Кнігі Зыход*

**Не можа быць дасканалага грамадства, дасканалай дзяржавы без дасканалага чалавека.** Калі прымаем гэтую аксіёму, дык праблема перакладу скарынаўскіх твораў (на зразумелую для нашых сучаснікаў мову. — **Рэд.**) набывае, без перабольшання, дзяржаўнае значэнне! Бо Скарынам, як гуманістам і патрыётам, якраз і была пастаўлена найвысакароднейшая мэта — праз агульначалавечыя хрысціянскія каштоўнасці, закладзеныя ў Біблії, — выхаванне дасканалай асобы.

**Леанід КАЧАНКА**

**Працяг тэмы — у наступных нумарах.**

**Станіслаў Валодзька**

## Планета Скарыны

*Глядзіць Айчына добрымі вачамі,*
*Спрадвечна ў бок той горнецца душой,*
*Дзе сын яе славуты палачанін*
*Прытулачак апошні свой знайшоў.*

*Чаго ён за мяжой шукаў так доўга?*
*Ці хлеб чужой зямлі смачнейшым стаў?*
*Францыск Скарына з Божай дапамогай*
*Там скарбы свайму люду здабываў.*

*Падмуркам моцным кнігі яго сталі,*
*Апірышчам часінаю любой,*
*Каб з імі чалавек быў дасканалы,*
*Каб светам валадарыла любоў.*

*Набраныя у іх Францыска словы*
*Зняверыцца, згубіцца не даюць,*
*Яны, іскрынкі-зоркі роднай мовы,*
*Нам асвятляюць шлях і саграюць.*

*Як абярэг і новым пакаленням*
*Скарыны герб — ля сонца маладзік.*
*Яго планета ў сонечнай сістэме*
*Не, не малая — велічна глядзік.*

*Таму і ўдалячынь вякоў дарога*
*Нас кліча сёння, — сцелецца радном.*
*І чуецца парой: станком друкарскім*
*Раскаціста грукоча ў небе гром…*

*З удзячнасцю прыняўшы дар Скарыны,*
*Упартага стараццеля свайго,*
*Да скону ім так любая Радзіма*
*Вялікую мае ласку да яго.*

# На добрую справу



Пра тое, наколькі цяпер мы разумеем значэнне дзейнасці Францыска Скарыны, пойдзе гаворка падчас Міжнароднага «круглага стала» «Сугучча: Слова Скарыны ў сучасным свеце». Разам з беларускімі пісьменнікамі ў ім прымаюць удзел творцы з Расіі, Славакіі, Літвы, Сербіі, Украіны, Таджыкістана, Казахстана і іншых краін. Уплыў дзейнасці нашага першадрукара быў вельмі шырокі: яго справа пайшла далей на Усход, а друкаваная кніга да нашага часу з'яўляецца асноўнай формай размовы літаратараў з чытачамі. Адзін з удзельнікаў міжнароднага «круглага стала», з якім мы гаворым пра працяг справы першадрукара ў наш час, — Станіслаў Валодзька (Латвія), паэт, член Саюза пісьменнікаў Беларусі.

**— Хто з беларускіх пісьменнікаў вам блізкі? Якія ўспаміны звязваюць вас з беларускай літаратурай?**

— З цеплынёй прыгадваю семінары маладых пісьменнікаў у Каралішчавічах, добразычлівы разгляд нашых недасканалых твораў вядомымі пісьменнікамі, дзе мы сустракаліся з Быкавым, Танкам, Гілевічам, Барадуліным, Асіпенкам. Цёплыя ўспаміны засталіся ад візіту ў Акадэмію навук да земляка Адама Мальдзіса, з блаславення якога з'явілася першая публікацыя маіх вершаў у «ЛіМе». Потым удалося пераадолець рэдакцыйныя парогі часопісаў «Маладосць» і «Беларусь», дзе друку маіх вершаў спрыялі рэдактары аддзелаў паэзіі Мікола Аўрамчык і Аляксей Русецкі. Падарункам лёсу было і тое, што Вера Вярба напісала вельмі добрую рэцэнзію на выданне майго першага зборніка «На хвалях хвалявання» ў выдавецтве «Мастацкая літаратура». Праўда, ён выйшаў не асобнай кніжкай, а ў калектыўным зборніку «Сцяжына». Таксама вельмі ўзрушыў мяне крытычны артыкул Данута Бічэль пра гэты зборнік пад назвай «У вялікі свет», надрукаваны ў «ЛіМе».

**— Можа, ёсць пісьменнікі, якія асабліва ўразілі ці нават паўплывалі на вас?**

— У першую чаргу гэта класікі беларускай літаратуры Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Максім Танк. Пацвярджэнне таго — мае вершы, прысвечаныя ім. Вельмі ўразіла знаёмства з паэзіяй Рыгора Семашкевіча. З хваляваннем перачытваю творы Алеся Пісьмянкова.

**— Як лічыце, папулярызацыя беларускай літаратуры магчымая за мяжой? У прыватнасці, у Латвіі?**

— Дзякуючы таму, што ў Латвіі ёсць беларускія суполкі, тут ладзяцца літаратурныя вечарыны, прысвечаныя юбілейным датам беларускіх пісьменнікаў. У гэтым годзе ў беларускім таварыстве «Уздым» у Даўгаўпілсе праходзілі імпрэзы, прысвечаныя Івану Мележу і Рыгору Барадуліну, прэзентаваліся кнігі, якія выйшлі ў выдавецтве «Беларускі кнігазбор»: «Выбраныя творы Вольгі і Сяргея Сахаравых» і «Выбраныя творы Пятра Сакола і Валянціны Казлоўскай». Гэта беларускія пісьменнікі і грамадскія дзеячы Латвіі. Пры суполках ствараюцца невялічкія бібліятэчкі з беларускімі кнігамі, якія карыстаюцца попытам. На Дні паэзіі імя Яна Райніса ў Даўгаўпілс прыязджаюць паэты з Беларусі.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# Чакаем удумлівага

## Што прэзентуюць у Дзень пісьменства беларускія

**Мы даведаліся пра самыя цікавыя выданні, арыгінальныя сюрпрызы і прэзентанцыі, якія чакаюць аматараў беларускай кнігі на Дні пісьменства.**

### ЛІТАРАТУРНАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ АД «МАСТАЦКАЙ ЛІТАРАТУРЫ»

«Да Дня беларускага пісьменства выдавецтва рыхтуецца цэлы год, — адзначае галоўны рэдактар Віктар Анатольевіч Шніп. — Толькі адно свята скончыцца, а мы ўжо думаем аб тым, што прадставіць на наступным».



*Віктар Шніп.*

Самае галоўнае, што ёсць у «Мастацкай літаратуры» да Дня беларускага пісьменства, — гэта серыя «Беларусь літаратурная», у якой выходзяць кнігі, якія адлюстроўваюць літаратуру раёна, дзе праходзіць свята. У выдавецтве такіх кніг выйшла ўжо больш за 20, і гэта своеасаблівыя энцыклапедыі літаратуры раёнаў — ад фальклору да сённяшніх маладых паэтаў. Рагачоўшчына літаратурная прадстаўлена ў кнізе «Добры дух зямлі Дняпроўскай».

У кнізе сабраны творы аўтараў, вядомых не толькі ў Беларусі, але і далёка за яе межамі. Напрыклад, А. Макаёнка, М. Лынькова. Доўгі час жыў і працаваў у тым краі Уладзімір Караткевіч, творы якога, напісаныя там, сталі класікай. Таксама ў кнізе «Добры дух зямлі Дняпроўскай» можна пачытаць творы В. Ластоўскага, А. Кіркора, Ф. Куляшова, М. Купрэева, В. Ткачова і яшчэ каля чатырох дзясяткаў літаратараў.

«Мастацкая літаратура» заўсёды з любоўю ставіцца да дзяцей, для якіх выдае шмат кніг у серыях «Нашым дзеткам», «Журавінка», «Казкі XXI стагоддзя», «Аўтарская казка» і іншых. Віктар Анатольевіч адзначае, што на Дні беларускага пісьменства выдавецтва правядзе акцыю, дзе «Мастацкая літаратура» перадасць бібліятэчкі кніжак, якія выходзілі ў выдавецтве, у 33 школы Рагачоўшчыны: «Дзеці павінны чытаць кнігі, як ніхто, але, на жаль, не ўсе могуць набыць іх, таму мы і вырашылі дапамагчы».

Што тычыцца дарослых, то «Мастацкая літаратура» прапануе чытачам дванаццаць кніг серыі «ЗКБЛ», фаліянты з серыі «ЖЗЛБ», «Наш сучаснік» і «Нашы героі», новыя тамы збору твораў І. Навуменкі і У. Караткевіча, кнігі новых серый «Бібліятэка выбраных твораў» і «ПазаКласнае чытанне», а таксама кнігі нашых сучаснікаў — М. Чаргінца, Г. Марчука, У. Саламахі, А. Марціновіча, В. Паліканінай, І. Саверчанкі і многіх іншых. А вось хваліцца выдавецтва будзе кнігай, якая атрымала гран-пры конкурсу «Мастацтва кнігі», «Владимир Мулявин. "Сэрцам і думамі"» — своеасаблівы фаліянт, дзе змешчана каля 1000 здымкаў, адлюстравана цалкам жыццё і творчасць нашага песняра.

Віктар Анатольевіч Шніп кажа, што падобныя святы, звязаныя з беларускай кнігай, спрыяюць і выдавецтвам, і чытачам: «Людзі працуюць і не заўсёды могуць трапіць у кнігарню, збіраючца і не даходзяць туды. А на свяце кніга сама прыходзіць да чытачоў. І тут чытачы маюць магчымасць, набываючы кнігу, задаць пытанне выдаўцам і аўтарам, выказаць сваё меркаванне. Ды і для людзей набытая кніга — памяць пра свята кнігі на ўсё жыццё».

### ФАЛІЯНТЫ АД «БЕЛАРУСКАЙ ЭНЦЫКЛАПЕДЫІ ІМЯ ПЕТРУСЯ БРОЎКІ»

Даведацца, як сур'ёзна вывучыць гісторыю Беларусі, якія музычныя інструменты існавалі ў краіне за ўсю яе гісторыю, хто з беларусаў быў губернатарам Гавайскіх астравоў, можна з кніг, якія выйшлі ў выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя».

Ніна Вітальеўна Бачыла, загадчык аддзела рэалізацыі і рэкламы, распавядае, што сёлета на Дні пісьменства выдавецтва прадставіць увесь асартымент. Акрамя гэтага, «БелЭн» прадставіць на свяце і свае лепшыя, свежыя выданні кшталту кніг «Беларуская музычныя інструменты», «Мастацтва суверэннай Беларусі» і пятага тома Энцыклапедыі для школьнікаў і студэнтаў: «Мы плануем праводзіць прэзентацыі, але ў асноўным дзіцячай літаратуры. У нас выходзіць цікавая серыя, якая ўжо выдаецца 5 гадоў, — «Маленькі прафесар». Дзеці гэтыя кнігі вельмі любяць, таму абавязкова прадставім іх на Дні пісьменства».



*Ніна Бачыла.*

Асабліва цікавая серыя «Гісторыя для школьнікаў». Зацікавіць яна і дарослых, бо наўрад ці многія з нас ведаюць, што некаторыя беларусы пакінулі значны след у гісторыі і культуры не толькі Беларусі, але і за мяжой. Напрыклад, Мікалай Судзілоўскі быў губернатарам Гавайскіх астравоў.

Акрамя гісторыі, з кніг «БелЭн» можна даведацца і пра геаграфію Беларусі (энцыклапедычная серыя «Гарады і вёскі Беларусі», дзе ёсць адмысловая кніга і пра Гомельшчыну, на якой сёлета праходзіць Дзень беларускага пісьменства; выданне моцнае, манументальнае і цікавае), і пра беларускую кухню (выдавецтва ўжо звязалася з рагачоўскімі прадпрыемствамі, якія з задавальненнем набылі энцыклапедыі «Гатуем з дзецьмі»).

Ніна Вітальеўна распавядае, што выдавецтва рыхтуе сюрпрызы — навінкі: «Мне падаецца, невыпадкова Дзень пісьменства праводзіцца ў першую нядзелю верасня — гэта яшчэ і пачатак навучальнага года. Зараз асноўныя чытачы — дзеці, таму мы прадставім энцыклапедыю «Гісторыя Беларусі». Гэтае выданне нам дапамагалі распрацоўваць выкладчыкі ўніверсітэтаў і супрацоўнікі Акадэміі навук. Гэта сур'ёзная кніга для сур'ёзнага вывучэння гісторыі нашай краіны».

Не пакінула выдавецтва без увагі і Год культуры. У «Беларускай Энцыклапедыі» выйшла шасцітомнае выданне «Культура Беларусі», дзе змешчана ўсё, што супрацоўнікі змаглі знайсці пра беларускую культуру. Гэта і калектывы, і бібліятэкі, і музеі, і асобы.

Для выдавецтваў Дзень беларускага пісьменства надзвычай важны. Ніна Вітальеўна кажа, што для яе гэта наогул прафесійнае свята: «Гэта сустрэчы з калегамі, з пакупнікамі. У гэты дзень у вачах чытачоў бачыцца сапраўдная цікавасць да кнігі. Для выдавецтва зваротная сувязь — звычайна тэлефон, а непасрэдная камунікацыі не адбываецца. Таму гэта выдатны шанс убачыць свайго патэнцыяльнага чытача ў твар, заўважыць дзяцей, якія просяць бацькоў набыць ім кнігі. Дзень пісьменства — нагода для таго, каб набыць кнігу, а ў эпоху інтэрнэту гэта асабліва важна. Трэба паказваць, што папяровыя выданні нікуды не падзенуцца. Было шмат інфармацыйных носьбітаў — пласцінкі, касеты, дыскі. Усё гэта з часам сыходзіць, а кніга застаецца. Дзень пісьменства — яшчэ і штуршок перагледзець свае адносіны да кнігі».

### «БЕЛАРУСЬ» ПРА БЕЛАРУСЬ

Галоўны падарунак ад выдавецтва да Дня пісьменства — кніга «На берагах Дняпра і Друці: народная духоўная культура Рагачоўскага раёна». На яе прэзентацыі планецца выступленне выканаўцы народных песень Надзеі Швед, аўтара і выдаўцоў. Кніга не толькі карысная, каштоўная, але і цікавая. Усё, што беларусам Рагачоўшчыны ўдалося захаваць, змешчана ў выданні.

Анжэла Аляксандраўна Садоўская, вядучы спецыяліст аддзела маркетынгу, распавядае, што не менш важнай для выдавецтва з'яўляецца і кніга «Захаваная памяць страчанай зямлі» — калекцыя помнікаў этнаграфіі і народнага мастацтва са зборау Музея старажытнабеларускай культуры НАН Беларусі. Усе экспанаты былі знойдзеныя на тэрыторыях Гомельшчыны і Магілёўшчыны, якія пацярпелі ад аварыі на ЧАЭС.

Цікавае выданне, якое яшчэ і выглядае незвычайна, «Беларусь» падрыхтавала спецыяльна да Дня пісьменства. «Смаката на кожны дзень. Пакаштуйце беларускае!» — сувенірнае выданне, якое выглядае як талерка і распавядае пра родныя стравы беларусаў, — нагода бліжэй пазнаёміцца з беларускай кухняй.

Не можа абысціся Дзень пісьменства і без кнігі, якая ўжо вядомая па ўсёй Беларусі, — пра яе вельмі шмат пісалі і гаварылі. «Ад Мінска да Вільні. Гісторыя Беларусі ў журналісцкіх нататках» — гісторыя Беларусі ад журналіста Віктара Корбута.




*Анжэла Садоўская.*

Выдавецтва працягвае выпускаць серыю «Славутыя мастакі з Беларусі», якая выдаецца з 2012 года. Сёлета прэзентуецца неверагоднай прыгажосці альбом «Ю. М. Пэн», дзе можна пазнаёміцца з работамі настаўніка Марка Шагала. Акрамя таго, у серыі ўжо ёсць кнігі пра такіх творцаў, як Драздовіч, Жукоўскі, Рушчыц. Усяго сумесна з Нацыянальным мастацкім музеем выдадзена каля 30 кніг.

Для дзяцей «Беларусь» рыхтуе прэзентацыю кнігі «Прыгоды Кроціка і яго сяброў» з касцюміраванай вікторынай пра герояў дзіцячых казак і майстар-класам з мастаком кнігі.

Анжэла Аляксандраўна Садоўская кажа, што Дзень беларускага пісьменства для выдавецтва — магчымасць пазнаёміць чытача з кнігай. Тут збіраюцца тыя, хто кнігу любіць: «Гэта яшчэ і ўзмацненне іміджу, магчымасць заявіць пра сябе, паглядзець на калег. Мы прыслухоўваемся і да меркаванняў нашых чытачоў, каб не толькі атрымаць водгук, але і нешта змяніць у сваёй працы ў лепшы бок».

### УШАНАВАЦЬ РОДНУЮ ЗЯМЛЮ ПРАПАНУЕ «ЧАТЫРЫ ЧВЭРЦІ»

Дырэктар, галоўны рэдактар выдавецтва Ліліяна Анцух адзначае, што для выдавецтва «Чатыры чвэрці» выбраць кнігі, якія паедуць на Дзень пісьменства ў Рагачоў, — задача складаная. Кожны месяц выпускаецца шмат выданняў, і кожнае з іх — знакавае і дарагое для супрацоўнікаў, бо ствараласяя, як заўсёды, з любоўю і адказнасцю.

Але ёсць кніга, якая будзе ў Рагачове сапраўдным падарункам для беларускага чытача. Гэта альбом «Тураўская рапсодыя», які асабліва каштоўны для самой Ліліяны Фёдараўны: «Кніга — наш арыгінальны праект, яна нараджалася непасрэдна ў выдавецтве ад першай літары. У ёй шмат цікавых ходаў: мы выкарыстоўвалі не толькі свае веды, але і творчасць вядомых паэтаў, празаікаў, працавалі з навукоўцамі, быў спецыяльны фотакарэспандэнт, які рабіў неабходныя здымкі. Тут і гісторыя, і сучаснасць, і святасць старажытнай зямлі. Менавіта з Тураўшчыны, вобразна кажучы, мы з вамі пайшлі, наша гісторыя пачыналася там».

**Уладзімір НАВУМОВІЧ, пісьменнік, кандыдат філалагічных навук:**

*— Свята пісьменства для мяне асабіста — добрая магчымасць сустрэцца з людзьмі, якія пішуць, ствараюць літаратуру. Тым больш што праз кнігу чалавек выглядае глыбей. Для краіны свята — цудоўная знаходка, якая дазваляе ўбачыць вынікі апошніх гадоў, прасачыць развіццё пісьменнікаў у сістэме сучаснай літаратуры, пазнаёміцца пісьменнікам з кнігамі адно аднаго. Святкаванне Дня пісьменства дае магчымасць чалавеку шырока адчуць дарагое слова, якое калісьці прыйшло да нас разам з хрысціянскай верай, дае магчымасць пранесці яго ў будучыню, каб яно там адгукнулася. На мой погляд, сістэма, па якой мы сёння ўшаноўваем роднае слова, стала каштоўнасцю, што ў правільным кірунку фарміруе светапогляд беларусаў.*

# чытача

## выдавецтвы?

Кніга — помнік Тураўшчыне, як яе ўжо назвалі ў выдавецтве — выйшла ў рамках серыі «Культурная спадчына Беларусі». І тут не сумняюцца — пра выданне абавязкова будуць гаварыць у нашай краіне. Яно сапраўды вартае Дня пісьменства: тут і беларуская традыцыі, і аўтэнтычнасць абрадаў, захаваных жыхарамі краю да нашых дзён.

Кніга эсэ пра творчасць Льва Бакста таксама будзе прадстаўлена ў Рагачове. І гэта зразумела, бо яна разам з выставай твораў нашага знакамітага земляка не так даўно «адгрымела» ў Беларусі, а зараз творы майстра паказваюць у Прыбалтыцы. Тэму мастацтва «Чатыры чвэрці» ўвасабляе і ў афармленні кніг. У Дзень пісьменства чытачы змогуць убачыць новыя выданні з серыі «Несур'ёзна пра сур'ёзнае», для афармлення якіх традыцыйна выкарыстаны работы вядомага мастака Валянціна Губарава.

Беларуская проза і паэзія — яшчэ адзін абавязковы складнік стэнда выдавецтва. Напрыклад, кніга Алеся Савіцкага «Зямля не раскажа», раман пра вайну ў лёсе жанчыны, пра няскоранасць чалавека і магчымасць жанчыны перанесці ўсё, што нават не кожны мужчына можа вытрываць. Ліліяна Фёдараўна адзначае, што гэта твор яшчэ і пра цвёрдасць духу беларускай жанчыны.

Паэзія прадстаўлена кнігай Генадзя Пашкова «Парад планет»: «Мы ўпершыню сабралі лепшыя творы паэта з самых даўніх часоў, ды яшчэ і падабралі пераклады іх на рускую мову. А сярод перакладчыкаў — вядомыя беларускія і рускія паэты: Палеес, Аўруцін, Шабовіч і інш. Такім чынам, мы славім не толькі паэта, але і перакладчыкаў. Уся кніга прадумана да дробязей, зроблена са шчырай павагай да творцаў».



Ліліяна Анцух.

Даведацца пра беларускі танец дапаможа кніга Юліі Чурко «Беларускі харэаграфічны фальклор. Традыцыі і сучаснасць». Выданне ўжо сёння называюць энцыклапедыяй беларускага танца, бо такой манументальнай работы па традыцыйнай харэаграфіі даўно не было.

У серыі «Асоба і час» выдавецтва распавядае пра лёсы і творчасць вядомых беларусаў. Новыя кнігі прысвечаны Янку Сіпакову («Жыві як хочацца...») і Міхасю Дрынеўскаму («Песня даўжынёю ў жыццё»). Тое, чым выдавецтва жыве, выліваецца ў новыя грунтоўныя праекты.

Асаблівай для выдавецтва «Чатыры чвэрці» з'яўляецца кніга «Мінск: малавядомыя старонкі», прысвечаная 950-годдзю горада. Гэта выданне пра тое, якой можна ўбачыць нашу сталіцу, калі параўноўваць яе са сталіцамі свету. Аўтар Іван Турлай шукае падабенствы ў архітэктуры і гісторыі і робіць цікавыя высновы.

Разам з Саюзам пісьменнікаў Беларусі прэзентуем новыя кнігі з серыі «Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі», асабліва тыя, што вылучаны на атрыманне Нацыянальнай літаратурнай прэміі.

«Канечне, усё вывезці на свята немагчыма, але мы ў Днях пісьменства бяром удзел увесь час свайго існавання і заўсёды прэзентуем найлепшае. Гэта сапраўднае свята для нашага выдавецтва», — падсумоўвае Ліліяна Анцух.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

---

***Імя народнага мастака Беларусі Гаўрыіла Вашчанкі, безумоўна, важкае і знакавае ў айчынным мастацкім працэсе. Гэта быў чалавек, закаханы ў родны край і адданы яму на доўгія гады. Кожная другая работа аўтара прысвечаная краявідам і адметнасцям Гомельшчыны. Аўтар, нібы летапісец, паказвае родны край з розных бакоў і ў розныя гады. Ён запрашае гледача апынуцца ў месцах, дзе радавалася яго душа. За тое, што праслаўляў Гомельскую зямлю, у 2013 годзе мастак атрымаў сапраўдны падарунак — стаў ганаровым грамадзянінам любімага горада. Нягледзячы на магчымасць з'ехаць у іншую краіну, Гаўрыіл Вашчанка нават не задумваўся пра гэта. Ён лічыў Гомельшчыну домам, дзе ёсць самае лепшае — сонечнае неба, глыбокія, чыстыя рэкі і дрымучыя лясы, водар якіх, адчуўшы аднойчы, немагчыма забыць ніколі.***



Гаўрыіл Вашчанка «Па-над Прыпяццю», 1988 г.

# Натхненне радзімай

**Галоўны «экспанат», з якім Выдавецкі дом «Звязда» адпраўляецца ў адзін з самых старажытных гарадоў Беларусі на свята прыгожага слова, абсалютна новая кніга — «Рагачоўшчына. Зямля натхнення і дабра».**

Гэта фотаальбом, энцыклапедыя, гістарычная замалёўка і сучасны даведнік пад адной вокладкай, памерам каля 200 старонак. Фактычна кніга складаецца з дзвюх частак, дзе мінулае, ад пачатку заснавання горада, плаўна пераціякае ў цяперашні дзень, сучаснасць з яе імклівасцю, зменлівасцю, дынамікай.

Складальнікі лічаць, што ўспрымаць выданне трэба суцэльна — менавіта таму яны і не разбівалі яго на часткі і главы. Кніга падрыхтавана адмыслова да Дня пісьменства. У ёй лаканічна і даступна ахоплена амаль усё, што звязана з месцам правядзення свята, — ад геаграфічных асаблівасцей да панарамы дасягненняў вядомых людзей горада, уключаючы пісьменнікаў, лекараў, навукоўцаў. Галоўны акцэнт — фатаграфіі. Адабраныя старанна, а значыць — высокамастацкія. У ліку аўтараў Анатоль Кляшчук і Надзея Бужан. Альбом заклікаў увасобіць сувязь пакаленняў, адлюстроўваючы мінулыя асаблівасці і цяперашнія ўмовы развіцця Рагачоўскага краю. Чакаецца, што выданне стане цікавым не толькі для жыхароў рэгіёна, але і для ўсіх беларусаў, а таксама гасцей свята. Прынамсі, яно максімальна насычана інфармацыяй — як тэкставай, так і візуальнай. У альбоме Рагачоўшчыну абмалёўваюць (нібыта не словамі, а натхнёнай рукой мастака) як светлы, утульны, гасцінны край з непаўторнай зелянінай лугоў і лясоў, таленавітымі, мужнымі і моцнымі духам жыхарамі, сярод якіх шмат шчырых рамантыкаў, адданых сваёй справе і творчасці, як месца, вакол якога сабрана нямала захапляльных легенд, дзе падтрымліваюць і паважаюць народныя традыцыі

Але гэта, зразумела, не ўсё. У гэтым годзе Выдавецкі дом «Звязда» прадставіць на Дні беларускага пісьменства каля ста выданняў — самых актуальных, новых альбо тых, якія заваявалі найбольшую ўвагу чытачоў. Дыяпазон жанраў, як няцяжка здагадацца, вельмі шырокі — ад паэтычных зборнікаў, маляўнічых фотаальбомаў, дзіцячых казак да сур'ёзных філасофскіх раманаў-развагаў. Усе кнігі не пералічыш, але некаторыя з іх можна вылучыць.

Напрыклад, знакаміты прыгодніцкі фантасмагарычны раман ад Людмілы Рублеўскай, прысвечаны авантурам Пранціша Вырвіча, збеглага вучня Менскага езуіцкага калегіума. Тут вам і жалезная чарапаха ад Леанарда да Вінчы, і дзіда Святога Маўрыкія. Усё, як кажуць, у лепшых традыцыях «Трох мушкецёраў» Аляксандра Дзюма.

Альманах «Сугучча», прысвечаны сяброўскім літаратурным сувязям Беларусі і Расіі, якім ганарыцца выдавецтва, таксама паедзе ў Рагачоў. На свяце будзе шмат гасцей з іншых краін, таму на гэтым замежная панарама твораў, перакладзеных і выдадзеных на Беларусі, не заканчваецца. «Ці далёка да Афрыкі?» украінскага празаіка Міхайлы Слабашпіцкага, «Не хачу губляць Надзею», «Зайздрасць» і «Лісты да сына» Немата Келімбетава, казахскага вучонага, пісьменніка і асветніка, — толькі некаторыя з іх.

На стэндзе выдавецтва знойдуць свае месца зборнікі з міжнароднай серыі «Сугучча сэрцаў», складзенай Алесем Бадаком. Гэта — лепшыя творы пісьменнікаў Расіі («Зорная крыніца»), Украіны («Залатая струна»), Малдовы («Край мой запаветны»), Арменіі («Люблю цябе, Айчына») і Казахстана («Не ведаючы межаў»).




Адны з самых душэўных, прасякнутых філасофіяй чалавечага існавання і нечаканасці лёсаў, — аповесць Валерыя Казакова «Горад, які заўсёды са мной», прысвечаная яго малой радзіме, Магілёўшчыне, і зборнік «І няма шляху чужога», складзены Аляксеем Чаротам, своеасаблівы зрэз лепшых твораў, якія публікаваліся ў часопісе «Нёман».

У спісе самых знакавых кніг-альбомаў, неацэнных сведкаў мінулых часоў жыцця Беларусі, — «Мінск. Падарожжа ў часе» Уладзіміра Ліхадзедава з рарытэтнымі здымкамі, што распавядаюць пра аблічча горада ў розныя часы яго існавання, «Зачараваны Беларуссю» Уладзіміра Цыдзіка з фатаграфіямі краявідаў роднай краіны. Вялікую Айчынную вайну пакажа чытачам журналіст-герой Васіль Аркашоў, таксама ў асобным выданні.

Сярод кніг-бестселераў з беларускім акцэнтам — «Паміж Княствам і Каронай» Анатоля Бутэвіча, «Праклён Мітрапаліта Феафіла» Уладзіміра Мажылоўскага, «Сустрэчы без абцасаў» Надзеі Дрыла, «Дараванне» Алены Брава, «Паслухайце што!» Таццяны Сулімавай.

Маленькія і юныя чытачы змогуць пазнаёміцца з незвычайнымі, павучальнымі казкамі, напісанымі вобразнай беларускай мовай: пра мудрых жыхароў лесу («Дуб і крумкач» Алены Стэльмах, «Хто ў лесе самы смелы?» Таццяны Мушынскай, «Шчодрая вавёрка» Янкі Галубовіча), унікальных фантастычных істот («Падарожжа Шубуршуна» Алеся Карлюкевіча); вытанчаных і смелых прынцэс і загадкавыя караблі («Асцярожна, злыя гобліны!» Наталлі Марчук) і нават пра чароўны свет сноў («Прылятаюць ноччу сны» Віктара Кудлачова).

Будуць прадстаўленыя і зборнікі. Напрыклад, творы для дзяцей ад сучасных беларускіх пісьменнікаў, кнігі «Куды блінок закаціўся» і «Як мядзведзь пчаляром стаў» з серыі «Казачны куфэрак». Твораў шмат, на любы густ — Генадзя Аўласенкі, Георгія Марчука, Вольгі Савасцюк, Алеся Бадака, Раісы Баравіковай, Віктара Гардзея, Анатоля Зэкава, Уладзіміра Мазго і інш.

Не пройдуць міма чытачоў і таямніцы замкаў Беларусі — Мірскага, Нясвіжскага і Крэўскага — ад Анатоля Бутэвіча. Ёсць выданні, прысвечаныя мастацтву, — альбом «Уладзімір Слабодчыкаў. Скульптура», «Валеры Даўгала. Мінск у вобразах і фарбах» пра жыццё і творчасць вядомага беларускага мастака-манументаліста, «Краса: эстэтыка беларускай архітэктуры» аб разнастайнасці, эстэтыцы і сімвалізме беларускага дойлідства з самых старажытных часоў да пачатку XXI стагоддзя.

Ну і, вядома ж, адной з самых сімвалічных стане кніга-даследаванне (ці адкрыццё?) «Францыск Скарына на мовах народаў свету», дзе ўпершыню прадстаўлены шматлікія пераклады прадмовы вялікага гуманіста і першадрукара да кнігі «Юдзіф».

Прадставіць свае кнігі для кожнага выдавецтва — гэта магчымасць не толькі заявіць пра сабе, але і дастукацца да чытачоў у плане адукацыйным, духоўным: распавесці ім пра багацце сваёй радзімы, яе спадчыну, сілу і непаўторнасць.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Еднасць сэрцаў і думак

**Беларускае пісьменніцкае супольніцтва аб'ядноўвае літаратурныя сілы краін Садружнасці вакол інтэрнэт-партала «Сугучча: літаратура і публіцыстыка краін СНД» («Созвучие: литература и публицистика стран СНГ»). Адрас у сеціве: *sozvuchie.by.***

Здавалася б, магчымасці ў сённяшні час для літаратурна-мастацкіх публікацый неабмежаваныя. Але гэта толькі на першы погляд. Магчымасці неабмежаваныя для тых, хто імкнецца адно толькі выкладаць безаблічныя словы, якія часам і на мастацкія гукі не цягнуць. Пры ўсёй шырыні інтэрнэт-прасторы не хапае кансалідаваных пляцовак для абмеркавання поглядаў на існаванне, развіццё пэўных мастацкіх прастораў.

«Сугучча...» паставіла перад сабою задачу паяднання клопатаў у прадастаўленні магчымасцей для стварэння агульнай карціны развіцця нацыянальных літаратур краін Садружнасці. Дрэва інтэрнэт-пляцоўкі пабудавана такім чынам, што ў кожнай літаратуры ёсць сваё месца. Мадэратары сайта збіраюць інфармацыю пра тое, што адбываецца ў мастацкай прасторы Азербайджана, Арменіі, Беларусі, Казахстана, Кыргызстана, Малдовы, Расійскай Федэрацыі, Таджыкістана, Туркменістана, Узбекістана, Украіны, і выкладаюць творы паэзіі, прозы, драматургіі, публіцыстыкі, літаратурнай крытыкі аўтараў з гэтых краін.

Ужо амаль два гады працуе гэты праект. У першую чаргу ён сілкуецца тымі матэрыяламі, якія назапашаны ў Выдавецкім доме «Звязда» і з'яўляюцца вынікам працы літаратурна-мастацкіх часопісаў «Полымя», «Маладосць», «Нёман», «Вожык», газет «Літаратура і мастацтва» і «Звязда», газеты «Союз Евразия». Другі складнік — мастацкая, публіцыстычная інфармацыя, якую дасылаюць пісьменнікі і літаратуразнаўцы з розных краін. Дарэчы, усім ім імпануе, што «Сугучча...» не абмяжоўвае карэспандэнтаў у мове арыгіналаў. Напрыклад, у дадатак да старонкі «Литературный Казахстан» ёсць інтэрнэт-старонкі, прысвечаныя казахскім пісьменнікам — Абаю, Мухтару Аўэзаву, Немату Келімбетаву. І матэрыялы змяшчаюцца на трох мовах — беларускай, рускай, казахскай. Што адметна, карэспандэнтамі гэтых старонак з'яўляюцца каля дваццаці пісьменнікаў і вучоных Казахстана: Святлана Ананьева, Любоў Шашкова, Кайрат Бакбергенаў, Валерый Міхайлаў, Рыма Арцем'ева, Айнур Машукава, Нурлан Аразалін, Амантай Ахетаў, Алімжан Хамраеў, Міхаіл Буланаў і інш.



Фота Кастуся Дробава.

*Падчас сустрэчы замежных пісьменнікаў у Мінскай абласной бібліятэцы імя А. С. Пушкіна (2015 г.).*

Добрыя сувязі склаліся ў інтэрнэт-партала з Азербайджанам. Сталым кансультантам і актыўным аўтарам «Сугучча... » выступае празаік і перакладчык Камран Назірлі. Доктар філалогіі Ірада Мусаева напісала цэлы шэраг артыкулаў для сайта «Сугучча...». У тым ліку і пра азербайджанскае прачытанне творчасці лаўрэата Нобелеўскай прэміі Святланы Алексіевіч. Дарэчы, цікавым падаецца і такі праект партала, як «К@нтэкст». У адкрытым доступе выстаўляецца той ці іншы мастацкі тэкст. Першай для прачытання мы прапанавалі аповесць Алены Брава «Дараванне». Між іншым выклалі твор на трох мовах — беларускай, рускай, нямецкай. І папрасілі адгукнуцца на інтэрнэт-публікацыю даследчыкаў, пісьменнікаў з розных краін свету. Сваімі ўражаннямі пра аповесць беларускага аўтара падзяліліся Цімафей Ліякумовіч (ЗША), Камран Назірлі, Ірада Мусаева (Азербайджан), Алімжан Хамраеў (Казахстан), Валерый Казакоў (Расія), Юлія Алейчанка, Адам Шостак (Беларусь) і інш. Такія абмеркаванні, на мой погляд, адыгрываюць важную ролю для саміх аўтараў, прыцягваюць увагу да тых ці іншых твораў. Ва ўмовах, калі здараецца, што вартая кніга не выклікае крытычных водгукаў у друкаваных СМІ, такі варыянт абмеркавання, які прапаноўвае «К@нтэкст», падаецца проста ўнікальнай магчымасцю. Засталося толькі зрабіць гэта традыцыяй, наладзіць пэўную атмасферу. А гэта ўжо залежыць і ад мадэратараў сайта, і ад наведвальнікаў. Як з Беларусі, так і з розных краін свету.

Канечне, работа такога фармату павінна праходзіць у цеснай сувязі з іншымі рэсурсамі. Добра было б нейкім чынам уключыць у работу «Сугучча...» расійскія літаратурна-мастацкія часопісы. Яны традыцыйна карысталіся аўтарытэтам у шырокага чытача. Зараз усе, як правіла, выходзяць невялікі накладамі. Размяшчэнне ў «Сугуччы...» магло б стаць для іх добрай рэкламай. Іншая справа, што, відаць, не так проста наладзіць стасункі паміж уладальнікамі друкаваных і электронных літаратурна-мастацкіх рэсурсаў.

Несумненна, сёння «Сугучча…» — шырокая дарога для разгляду супольнай мастацкай пазіцыі розных нацыянальных літаратур, пазіцыі, скіраванай на развіццё міралюбства і добрасуседства, паразумення і ўзаемапавагі паміж літаратурамі, культурамі, народамі і краінамі.

**Сяргей ШЫЧКО**

**Анатоль БУТЭВІЧ, пісьменнік:**

*— Мне, як аднаму з першых арганізатараў Дня пісьменства, прыемна, што свята прыгожага слова і сёння жыве ў краіне. Яно пашыраецца і аб'ядноўвае неабыякавых да айчыннай культуры. Гуляючы па краіне, яно збірае ў адну скарбонку гарады, мястэчкі і народ, які захапляецца агульнай ідэяй — зберагчы слова. Пашырае межы свята і штогадовая экспедыцыя «Дарога да святыняў», якая праходзіць па самых розных месцах і дазваляе даведацца шмат цікавага пра, здаецца, знаёмае. У межах святкавання Дня пісьменства пісьменнікі збіраюцца разам. Гэта дазваляе аб'яднаць прыгожым словам розных людзей.*

# Творчыя стасункі: тэндэнцыі і пошукі

**Камран Назірлі, азербайджанскі пісьменнік і перакладчык, доктар філасофіі, член Саюза пісьменнікаў і Саюза журналістаў Азербайджана, актыўна падтрымлівае праект Выдавецкага дома «Звязда» «Сугучча: літаратура і публіцыстыка краін СНД» («Созвучие: литература и публицистика стран СНГ»). Пра літаратурныя сувязі Беларусі і Азербайджана спадар Камран распавядае чытачам «ЛіМа»:**

— Слова «сугучча» ў Азербайджане стала надзвычай папулярным. Мы, азербайджанцы, вельмі паважаем Беларусь і яе народ. А ў пісьменніцкім асяроддзі часам кажуць, што партал «Сугучча...» — адзін з сімвалаў Беларусі. І нездарма: стваральнікі партала прафесійна выконваюць свой абавязак і задачы.

Апошнім часам у нашай краіне ўзрасла цікавасць да літаратуры Беларусі, асабліва да сучаснай, бо азербайджанскія пісьменнікі часта публікуюць перакладныя творы беларускіх аўтараў: Мікалая Чаргінца, Алеся Бадака, Алеся Карлюкевіча, Таццяны Сівец… Радуе, што літаратары нашай краіны таксама сталі публікавацца ў Беларусі. Нядаўна на беларускай мове выйшлі зборнікі Чынгіза Алі аглу, маладой паэтэсы Лейлы Аліевай, альманах з творамі азербайджанскіх аўтараў, асобныя апавяданні і вершы такіх празаікаў і паэтаў, як Анар, Камал Абдулы, Афаг Масуд, Вагіф Баятлы Одэр ды інш. Чытаю на партале «Сугучча...» і творы маладых аўтараў, пісьменнікаў новага пакалення. Уражвае дынамізм, пошукі, новыя тэндэнцыі, арыгінальныя формы і змест. Падабаецца іх стаўленне да сацыяльных рэалій, аналітычны падыход да вечных каштоўнасцей. Іншым разам нашы маладыя празаікі, як, напрыклад, Фахры Угурлу і Нармін Камал, увасабляюць у творах адметную філасофію, а часам і вострыя канфлікты, якія адбываюцца ў сучасным грамадстве.

Азербайджанскія творцы актыўна ўдзельнічалі і ў конкурсе «Родны дом», ініцыяваны Выдавецкім домам «Звязда». Да праекта актыўна далучыліся пісьменнікі Кяміль Афсараглу, Нарыман Абдулрахманлы, Наўруз Наджафаглу, Камаля Абіева, Фарыд Гусейн, Мірмехці Агааглу ды іншыя. Мяркую, іх творы вельмі ўражваюць чытачоў партала.

Пачуўшы, што беларуская пісьменніца Святлана Алексіевіч атрымала Нобелеўскую прэмію, пачаў перакладаць яе раман «У вайны не жаночы твар». Мой пераклад атрымаў шмат добрых водгукаў.

Зараз перакладаю раман Мікалая Чаргінца «Сыны», які плануецца выдаць у Баку ў наступным годзе. А Камаля Абіева пераклала аповесць Анатоля Матвіенкі «Жудасная таямніца КДБ». Кніга павінна выйсці ў Азербайджане сёлета. У перспектыве — выданне ў перакладзе на азербайджанскую аповесці Алены Брава «Дараванне».

# Беларускі каларыт сусветнай літаратуры

**Развагамі наконт міжнародных літаратурных зносін, а таксама стану перакладчыцкай дзейнасці ў Беларусі падзялілася перакладчык і журналіст Юлія Алейчанка:**

— Трэба адзначыць даволі вялікую цікавасць замежных пісьменнікаў, культурных дзеячаў да беларускага літаратурнага працэсу. На міжнародных «круглых сталах», прымеркаваных да Дня беларускага пісьменства, і шматлікіх мерапрыемствах Выдавецкага дома «Звязда» ў межах праекта «Белліт і ўвесь свет» выступаюць добрыя сябры і жаданыя госці Беларусі: Святлана Ананьева (Казахстан), Аляксандр Казінцаў (Расія), Ато Хамдам (Таджыкістан), Чынгіз Алі аглу (Азербайджан), Слабадан Вуканавіч (Чарнагорыя) ды іншыя. Цешыць і з'яўлянне ў беларускай культурнай прасторы імёнаў маладых ініцыятыўных літаратараў краін-суседзяў: Леся Мудрак, Сяргей Савін (Украіна), Андрэй Цімафееў, Алена Тулушава (Расія). Пераклады твораў беларускіх пісьменнікаў усё часцей з'яўляюцца на старонках замежнай перыёдыкі ў Пакістане, Таджыкістане ды іншых краінах. Ладзяцца і ўдалыя кніжныя праекты. Напрыклад, серыя «Светлыя знакі. Паэты Кітая», якая адкрывае для беларускага чытача кітайскую паэзію ад старажытнасці (Лі Бо, Ду Фу), сярэднявечча (Лі Цінчжаа) да пачатку (Ай Цін) і канца XX ст. (Ван Гачжэнь).

Палымяны патрыёт роднага краю і разам з тым актыўны інтэрнацыяналіст Максім Багдановіч пісаў: «Намагаючыся зрабіць нашу паэзію не толькі мовай, але і духам, і складам твораў шчыра беларускай, мы зрабілі б цяжкую памылку, калі б кінулі тую вывучку, што нам давала светавая (найчасцей еўрапейская) паэзія». І гэтая мудрая думка надзвычай актуальная і цяпер. Каб у эпоху сусветнай глабалізацыі не проста бяздумна спажываць гатовы прадукт культуры замежных краін, а абнаўляць айчынную літаратуру новымі стылёвымі плынямі, тэмамі, вобразамі, рабіць нацыянальную мову больш гнуткай і здольнай да эксперыментаў. Вядома, творца-перакладчык глядзіць на свет праз прызму культуры радзімы арыгінала, калі гэта сумленны перакладчык з добрым веданнем не толькі мовы-крыніцы, але і культуралагічных, ментальных асаблівасцей краіны. Але нельга адмаўляць і факт прыўнясення, часам нават падсвядомага, беларускага каларыту ў перакладны твор. Такім чынам мы робім лепшыя творы сусветнай літаратуры ў многім нашымі, роднымі.

Беларусы актыўна набываюць для дзяцей цікавыя перакладныя творы: «Ці далёка да Афрыкі», «Нарвежскі кот не падвядзе» Міхайлы Слабашпіцкага (у перакладзе Алеся Карлюкевіча), «Вясёлы капітан» Душана Джурышыча (у перакладзе Генадзя Аўласенкі) і інш. Даследчыкі кітайскай паэзіі ўхваляюць пераклады, зробленыя Васілём Дранько-Майсюком, Таццянай Сівец, Навумам Гальпяровічам, Алесем Бадаком, Аленай Раманоўскай. Цікавую дыскусію выклікала публікацыя ў «Полымі» перакладу ўрыўкаў «Яўгенія Анегіна» на беларускую мову з хатняга архіва Валянціны Аколавай. А адна ўдзячная чытачка часопіса прызналася ў лісце: «Так цікава бачыць у "Полымі" апошніх гадоў "экзатычныя" пераклады! Цяпер ведаю, якое надвор'е ў Эквадоры і як сустракаюць гасцей у Туркменістане». Вельмі прыемна чытаць такія водгукі людзей, якія разам з любоўю да радзімы захоўваюць у душы і вялікую цікавасць да дзівосаў вялікага свету!

# ПРАГРАМА ДНЯ БЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕНСТВА

## 2 верасня

| | |
|---|---|
| **г. Гомель, Гомельская абласная ўніверсальная бібліятэка імя У. І. Леніна** *(пл. Перамогі, 2а)* | |
| 11.00–12.00 | Адкрыццё пастаянна дзеючай выстаўкі **«Па-сапраўднаму народны»**, прысвечанай жыццёваму і творчаму шляху народнага пісьменніка Беларусі А. Я. Макаёнка (з удзелам беларускіх, расійскіх і ўкраінскіх пісьменнікаў). |
| 12.00–13.30 | Урачыстае адкрыццё X Міжнароднага фестывалю-свята **«Славянскія літаратурныя дажынкі-2016»**. |
| 13.30–14.00 | Узнагароджанне пераможцаў абласнога літаратурнага конкурсу **«Праваслаўе — мая надзея»**. |

## 3 верасня

| | |
|---|---|
| **г. Мінск, Нацыянальная бібліятэка Беларусі** *(пр-т Незалежнасці, 116)* | |
| 10.00–12.00 | Міжнародны круглы стол **«Сугучча: Слова Скарыны ў сучасным свеце»** з удзелам беларускіх і замежных пісьменнікаў. |
| **г. Рагачоў, Фестываль кнігі і прэсы. Адкрытая пляцоўка СДЮШАР № 2** *(вул. Леніна)* | |
| 12.00–19.00 | **Павільёны:** **«Сучасная беларуская кніга»;** **«Прэса Беларусі» (экспазіцыя перыядычных выданняў установы «Рэдакцыя газеты “Советская Белоруссия”», РВУ «Выдавецкі дом “Звязда”»);** **«Добрую кнігу — дзецям” (дзіцячая пляцоўка);** **«Слова пісьменніка»;** **«Друкарня XVI стагоддзя».** Праекты: кнігі пісьменнікаў-юбіляраў І. Шамякіна, К. Крапівы, І. Мележа, М. Багдановіча, Цёткі; кнігі — пераможцы Нацыянальнага і Міжнароднага конкурсаў «Мастацтва кнігі»; выстаўка папярова-белавой прадукцыі айчынных вытворцаў; культурна-асветніцкія заняткі для дзяцей «Пазітыў ад Скарыны». **Святочны гандаль кнігай.** |
| **Павільён «Слова пісьменніка» на Фестывалі кнігі і прэсы** *(вул. Леніна)* | |
| 15.30–17.30 | Конкурс юных чытальнікаў Гомельскай вобласці «Жывая класіка». |
| **ДУК «Рагачоўскі гарадскі дом культуры»** *(вул. Луначарскага, 12)* | |
| 12.00–18.00 | Навукова-практычная канферэнцыя **«Рагачоўскія чытанні»**. |
| 12.00–19.00 | Работа выстаўкі **«Песня — каштоўны дар»** — да 75-годдзя У. Мулявіна. |
| 12.00–19.00 | Творчая пляцоўка аматарскіх аб'яднанняў **«Святло захапленняў»**. |
| **ДУК «Рагачоўская цэнтральная раённая бібліятэка» (Дом кнігі)** *(вул. Леніна, 64)* | |
| 11.00–12.00 | **Тэлемост** з г. Кацельнікі (Расія, Маскоўская вобласць), г. Наваград-Валынскі (Украіна, Житомірская вобласць). |
| 12.00–19.00 | Выстаўка-прэзентацыя **«Да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання»**, прысвечаная знакаваму юбілею айчыннай кніжнай культуры. |
| 12.00–19.00 | Работа выстаўкі **«Ад палескіх імхоў…»** — да 95-годдзя І. Мележа. |
| 12.00–19.00 | Работа выстаўкі **«Я пякучка-крапіва»** да 120-годдзя К. Крапівы. |
| **ДУА «Дзіцячая школа мастацтваў г. Рагачова»** *(вул. Леніна, 66)* | |
| 10.00–11.00 | Урачыстая цырымонія надання **ДУА «Дзіцячая школа мастацтваў г. Рагачова» імя А. Каплана**. |
| 11.00–12.00 | **III Міжнародныя Капланаўскія чытанні**. |
| 12.00–19.00 | Работа выстаўкі мастакоў па выніках пленэру **«Рагачоўскія плёсы»** (па матывах твораў класікаў-землякоў беларускай літаратуры). |
| 12.00–19.00 | Работа выстаўкі **«Завуся я толькі Янка Купала»**. |
| 12.00–19.00 | Работа выстаўкі **«Геній зямлі беларускай»** — да 125-годдзя М. Багдановіча. |
| 12.00–19.00 | Работа выстаўкі **«Якуб Колас. Жыццё і творчасць»**. |
| **Кінатэатр «Прамень»** *(вул. Кастрычніцкая, 31)* | |
| 13.00–22.00 | Арганізацыя тэматычных кінавідэапаказаў **«Літаратурная спадчына Беларусі»**. |
| **Выставачная зала** *(вул. Леніна, 50)* | |
| 10.00–18.00 | **Выстаўка сапраўдных работ Анатоля Каплана.** |
| 10.00–13.00 | Прэзентацыя праектных ініцыятыў. |
| **ДУК «Рагачоўскі музей Народнай Славы»** *(вул. Леніна, 58)* | |
| 10.00–18.00 | Работа музейных экспазіцый з фондаў музея Народнай Славы. |
| **Аграгарадок Журавічы (Дом культуры)** *(аг. Журавічы, вул. Макаёнка)* | |
| 11.00–11.30 | **Мітынг памяці** і ўскладанне кветак да помніка народнаму пісьменніку Беларусі А. Я. Макаёнку з нагоды 95-годдзя. |
| 11.30–12.00 | Экскурсія па музеі народнага пісьменніка Беларусі А. Я. Макаёнка. |
| 12.00–14.00 | Міжнароднае літаратурнае свята **«На зямлі Макаёнка»**, прысвечанае 95-годдзю народнага пісьменніка Беларусі А. Я. Макаёнка ў рамках X фестывалю «Славянскія літаратурныя дажынкі-2016» з удзелам беларускіх, расійскіх і ўкраінскіх пісьменнікаў. **Прэзентацыя кніг** «Паслядоўнікі Макаёнка. Айчына ў сэрцы і думках», «Атожылкі славянскага камля» і серыі кніг «Гомельскі літаратар». |
| **Стадыён** *(вул. Леніна, 51)* | |
| 10.00–16.00 | Правядзенне спартыўных мерапрыемстваў. |
| **Галоўная сцэнічная пляцоўка (Цэнтральная плошча)** *(вул. Інтэрнацыянальная, 7)* | |
| 20.00–23.00 | Канцэрт творчых калектываў вобласці «Прысвячаю табе, Беларусь». |



***П**рыкладам мастацтва дойлідства быў Рагачоўскі замак, пабудаваны ў пачатку XVI стагоддзя па распараджэнні каралевы Боны Сфорцы. Але збудаванне не захавалася: часткова замак быў разбураны ў 1780 годзе, а больш позняе збудаванне — падчас Вялікай Айчыннай вайны. Здымак захаваў вобраз будынка пачатку XX стагоддзя. Тое месца, дзе ён стаяў, і цяпер называюць замкавай гарой.*

## 4 верасня

| | |
|---|---|
| **Храм Святога Благавернага князя Аляксандра Неўскага** *(вул. Саннікава, 11)* | |
| 08.00–11.00 | **Пасадка Саду Малітвы. Хрэсны ход да храма Святога Благавернага князя Аляксандра Неўскага. Божая літургія.** |
| **Алея Афганцаў** *(Алея каля Дома кнігі)* | |
| 10.00–11.30 | **Пасадка алеі, прысвечанай 10-годдзю Саюза пісьменнікаў Беларусі.** |
| **Галоўная сцэнічная пляцоўка (Цэнтральная плошча)** *(вул. Інтэрнацыянальная, 7)* | |
| 12.00–13.30 | УРАЧЫСТАЕ АДКРЫЦЦЁ ДНЯ БЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕНСТВА. **АФІЦЫЙНАЯ ЦЫРЫМОНІЯ АДКРЫЦЦЯ СВЯТА.** **МАСТАЦКА-ТЭАТРАЛІЗАВАНАЯ ДЗЕЯ «БЕЛАРУСЬ — СПРАДВЕЧНАЯ ПЕСНЯ».** |
| **Галоўная сцэнічная пляцоўка (Цэнтральная плошча)** *(вул. Інтэрнацыянальная, 7)* | |
| 13.30–14.00 | **УРУЧЭННЕ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ ПРЭМІІ** |
| **ДУК «Рагачоўская цэнтральная раённая бібліятэка» (Дом кнігі)** *(вул. Леніна,64)* | |
| 14.00–14.30 | **Урачыстае адкрыццё Дома кнігі і кнігарні «Першацвет».** |
| **Фестываль кнігі і прэсы (адкрытая пляцоўка СДЮШАР № 2)** *(вул. Леніна)* | |
| 10.00–19.00 | **Павільёны:** **«Сучасная беларуская кніга»;** **«Прэса Беларусі» (экспазіцыя перыядычных выданняў установы «Рэдакцыя газеты “Советская Белоруссия”», РВУ «Выдавецкі дом “Звязда”»);** **«Добрую кнігу — дзецям» (дзіцячая пляцоўка);** **«Слова пісьменніка»;** **«Друкарня XVI стагоддзя».** Праекты: кнігі пісьменнікаў-юбіляраў І. Шамякіна, К. Крапівы, І. Мележа, М. Багдановіча, Цёткі; кнігі — пераможцы Нацыянальнага і Міжнароднага конкурсаў «Мастацтва кнігі»; выстаўка папярова-белавой прадукцыі айчынных вытворцаў; культурна-асветніцкія заняткі для дзяцей «Пазітыў ад Скарыны». **Святочны гандаль кнігай.** |
| **Павільён «Слова пісьменніка» на Фестывалі кнігі і прэсы** *(вул. Леніна)* | |
| 10.00–12.00 | **Паэтычныя прывітанні пісьменнікаў Гомельшчыны, Бранска, Краснадара, Курска і Таганрога.** |
| 14.00–16.00 | **Творчыя выступленні** кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў Беларусі, пісьменнікаў СНД, членаў пісьменніцкіх арганізацый абласцей ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі». |
| 16.00–19.00 | Уручэнне прэміі Гомельскага абласнога выканаўчага камітэта **«Літаратурная прэмія імя Кірылы Тураўскага»**. Узнагароджанне пераможцаў Рэспубліканскага конкурсу «Залатое пяро Белай Русі»-2016. Выступленні пісьменнікаў Гомельшчыны. |
| **Алея герояў** *(вул. Леніна)* | |
| 10.00–19.00 | **Выстаўка рэгіянальных СМІ Гомельшчыны і прадукцыі паліграфічных прадпрыемстваў вобласці.** |
| **ДУК «Рагачоўская цэнтральная раённая бібліятэка» (Дом кнігі)** *(вул. Леніна,64)* | |
| 10.00–19.00 | Выстаўка-прэзентацыя **«Да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання»**, прысвечаная знакаваму юбілею айчыннай кніжнай культуры. |
| 10.00–19.00 | Выстаўка краязнаўчай літаратуры **«Жывая памяць Рагачоўшчыны»**. |
| 10.00–19.00 | Выстаўка літургічных царкоўна-службовых кніг і павучальнай літаратуры **«Скарбы царкоўных бібліятэк»**. |
| 10.00–19.00 | Выстаўка факсімільных выданняў **Музея рэдкай кнігі** Гомельскай абласной бібліятэкі. |
| 10.00–19.00 | Работа выстаўкі **«Я пякучка-крапіва»** — да 120-годдзя К. Крапівы. |
| 10.00–19.00 | Работа выстаўкі **«Ад палескіх імхоў...»** — да 95-годдзя І. Мележа. |
| 10.00–19.00 | **Выстаўка кніг ручной работы** па выніках абласнога конкурсу на лепшую кнігу. |
| **Дзіцячая пляцоўка** *(вул. Леніна, парк Піянераў)* | |
| 10.00–19.00 | Работа дзіцячых атракцыёнаў. |
| 10.00–19.00 | Выступленні дзіцячых творчых калектываў вобласці. |
| 10.00–19.00 | Работа выставак дзіцячай творчасці. |
| **Пляцоўка перад ДУК «Рагачоўскі гарадскі дом культуры»** *(вул Луначарскага, 12)* | |
| 10.00–19.00 | **Работа пляцоўкі «Скарбніца светлых з'яў пісьменства»:** кніжныя выстаўкі «Беларусь літаратурная», «Гомельшчына літаратурная»; экспазіцыя «Музей народных пісьменнікаў Беларусі»; фотапраект «Кніжныя людзі»; «Літаратурны салон пані Яноўскай»; выстаўка кніг ручнога вырабу, кніжная майстэрня; праекты раённых бібліятэчных сістэм. |
| 10.00–19.00 | Выстаўка вырабаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва майстроў вобласці **«Горад майстроў»**. |
| **ДУК «Рагачоўскі гарадскі дом культуры»** *(вул. Луначарскага, 12)* | |
| 10.00–19.00 | Выстаўка паштовай прадукцыі. |
| 10.00–19.00 | Работа выстаўкі **«Песня — каштоўны дар»** — да 75-годдзя У. Мулявіна. |
| 15.00–15.10 | Гашэнне маркі. |
| 18.00 | Спектакль ДУ «Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М. Горкага» **«Пясняр»**. |
| **ДУА «Дзіцячая школа мастацтваў г. Рагачова»** *(вул. Леніна, 66)* | |
| 10.00–19.00 | Работа выстаўкі **«Завуся я толькі Янка Купала»**. |
| 10.00–19.00 | Работа выстаўкі **«Геній зямлі беларускай»** — да 125-годдзя М. Багдановіча. |
| 10.00–19.00 | Работа выстаўкі **«Якуб Колас. Жыццё і творчасць»**. |
| **Стадыён** *(вул. Леніна, 51)* | |
| 10.00–19.00 | Выстаўка-прэзентацыя турыстычнага патэнцыялу Рэспублікі Беларусь і турыстычных паслуг **«Гомельшчына турыстычная»**. |
| **Кінатэатр «Прамень»** *(вул. Кастрычніцкая, 31)* | |
| 14.30 | Прэм'ера фільма Нацыянальнай кінастудыі «Беларусьфільм». |
| **Пляцоўка каля будынка ўпраўлення па працы, занятасці і сацыяльнай абароне насельніцтва Рагачоўскага райвыканкама** *(вул. Леніна, 43а)* | |
| 10.00–19.00 | Выстаўка творчых работ людзей з абмежаванымі магчымасцямі **«Роўныя сярод роўных»**. |
| **Галоўная сцэнічная пляцоўка (Цэнтральная плошча)** *(вул. Інтэрнацыянальная, 7)* | |
| 20.00–22.00 | УРАЧЫСТАЕ ЗАКРЫЦЦЁ ДНЯ БЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕНСТВА. **Цырымонія перадачы эстафеты свята. Канцэрт «Прысвячэнне Песняру». Феерверк** |

# Наступны прыпынак — Полацк!

**XXIV Дзень беларускага пісьменства вернецца ў старажытны горад, з якога ў 1994 годзе і пачалася традыцыя ўшанавання друкаванага слова на дзяржаўным узроўні. Дзе, як ні ў знакамітым Полацку, мы пабачым сапраўднае адзінства чалавечага жыцця з навукай і пісьменнасцю?**

Горад на беразе Палаты застаўся ў гісторыі як вядомы культурны цэнтр старажытнага грамадства. Тут нарадзілася і памерла нешчаслівая князёўна, у якой былі тры імені (Рагнеда — Гарыслава — Анастасія), кіраваў князь-кніжнік Ізяслаў, што пакінуў пасля сябе знакамітую пячатку з кірылічным надпісам, а легендарны Усяслаў Чарадзей назіраў за будаўніцтвам полацкага духоўнага апірышча — Сафійскага сабора. Дарэчы, сабор гэты не толькі паставіў княства ў адзін шэраг з Кіевам і Ноўгарадам, але і садзейнічаў распаўсюджванню пісьменства на беларускіх землях: неабходнасць перапісвання рэлігійных кніг і бібліятэка, заснаваная ў мураваных сценах Сафіі, спрыялі павелічэнню колькасці адукаванага насельніцтва. Помнікамі пісьменства поўніцца ўся гісторыя горада. Гэта і полацкія летапісы, і крыж, зроблены Лазарам Богшам, упрыгожаны каштоўнымі камянямі і не менш каштоўнымі надпісамі, і спадчына знакамітых ва ўсім свеце палачан. Святая Ефрасіння, якая выбрала служэнне свайму народу праз хрысціянства і асвету замест княскага пасагу, Сімяон Полацкі, чыёй мудрасці хапіла і на суайчыннікаў, і на выхаванца з царскай сям'і Пятра І, што запомніўся «акном у Еўропу», выбітны культурны дзеяч Францыск Скарына, першадрукар усіх усходніх славян…

Першай друкаванай Бібліі, выдадзенай Францыскам Скарынам у Празе, у 2017 годзе спаўняецца 500 гадоў. Яе, як і іншых арыгінальных дакументаў гуманіста-асветніка, на яго малой радзіме, на жаль, няма. Але ў галоўнай музейнай установе Полацка, Нацыянальным Полацкім гісторыка-культурным музеі-запаведніку, ёсць чым зацікавіць гасцей будучага Дня пісьменства. Музей-запаведнік складаецца з адзінаццаці асобных філіялаў. Разам яны ахопліваюць усе бакі культурнага жыцця горада, ад яго ўтварэння да сучаснасці. Адзін з філіялаў установы, змешчаны ў жылым памяшканні былога Свята-Богаяўленскага манастыра, мае непасрэднае дачыненне да кніжнага свята:

— Сёлета Музей беларускага кнігадрукавання прадставіць сваю экспазіцыю на Дні беларускага пісьменства ў Рагачове, — паведамляе Алена Шумовіч, загадчык Музея беларускага кнігадрукавання. — Падрыхтоўка да наступнага свята ў верасні 2017 запланавана на бягучы год. Матэрыялы, што зараз выстаўляюцца ў залах, заслугоўваюць асаблівай увагі, бо наш музей — адзіны ў Беларусі, дзе дэманструюць гісторыю кнігі ва ўсіх яе аспектах.

У склад выставы ўваходзіць 15 залаў, дзе крок за крокам прасочваецца шлях з'яўлення пісьменства і друку Беларусі. Акрамя рукапісных і друкаваных фаліянтаў, сярод якіх сустракаюцца сапраўдныя рарытэты, музей знаёміць з газетамі, часопісамі, календарамі, буклетамі, разнастайнымі прыладамі для пісьма і друку. У некаторых памяшканнях можна ўбачыць працэс нараджэння кнігі на ўласныя вочы: арыентуючыся на старажытныя гравюры і дакладныя апісанні, мастакі Сяргей Дзмітрыеў і Ігар Куржалаў узнавілі для наведвальнікаў скрыпторый — майстэрню па перапісванні рэлігійнай літаратуры пры манастырах — і друкарню XVII—XVIII стагоддзяў, у якой можна назіраць за працай наборшчыка і друкара.

Цікава, што Музей беларускага кнігадрукавання пачаў сваю работу падчас яшчэ аднаго значнага юбілею:



*Рэканструкцыя друкарні XVII–XVIII стагоддзяў.*



*«Евангелле вучыцельнае», Вільня, 1595 год.*

500 гадоў з дня нараджэння выдаўца ўсходнеславянскай Бібліі Францыска Скарыны, пра жыццё якога тут распавядае асобная зала. Тады, у 1990 годзе, экспанаты трапілі ў будынак з Дзяржаўнай бібліятэкі СССР імя У. І. Леніна ў Маскве і Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. І. Леніна ў Мінску (зараз Нацыянальная бібліятэка Беларусі). Пасля ўтварэння музея літаратура трапляе на экспазіцыі рознымі шляхамі. Нешта (напрыклад, вядомае «Евангелле вучыцельнае» 1595 года, выдадзенае ў друкарні Мамонічаў у Вільні) супрацоўнікі музея набываюць. Продаж адбываецца як падчас аўкцыёнаў, так і непасрэдна «з рук» тых людзей, што нейкім чынам займелі рарытэтныя выданні. Так, «Мінею агульную» (Масква, 1628) знайшлі побач, у Наваполацку: былая гаспадыня атрымала яе ў спадчыну ад продкаў-ставераў. А «Рымскі імшал», надрукаваны ў Полацку ў 1826 годзе каталіцкі служэбнік, набылі на аўкцыёне ў Заходняй Еўропе з фінансавай дапамогай мецэната.

Нешта пераходзіць ва ўласнасць Музея беларускага кнігадрукавання і ў якасці падарунка. Настаяцель царквы стараавераў айцец Пётр падарыў «Псалтыр» XVII стагоддзя, а праз вядомага літаратуразнаўца і прафесара Адама Мальдзіса князь Анджэй Ціханавецкі перадаў музею польскамоўны варыянт Статута ВКЛ, надрукаваны ў 1693 годзе. Гэты пераклад трэцяга і апошняга Статута Вялікага Княства Літоўскага, прынятага ў 1588 годзе на старабеларускай мове, чакае гасцей Полацка ў сценах былой Брацкай школы Свята-Богаяўленскага манастыра разам з іншымі цікавымі экспанатамі.

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**



## Культурны ракурс

**Гэты дом у 1914 годзе пабудаваў дзед Уладзіміра Караткевіча Васіль Грынкевіч. Маленькі Валодзя прыязджаў сюды на летнія канікулы да любімай бабулі Людмілы Барысевіч. У гэтай хаце ў пісьменніка быў асобны пакой, дзе ён стварыў такія творы, як «Ладдзя роспачы», «Сівая легенда», «Віно дажджоў», часткова «Каласы пад сярпом тваім» і «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». Караткевіч вельмі любіў прыязджаць сюды і бываў у Рагачове іншы раз па некалькі месяцаў на год. Падрабязней пра гэта на 6-7 старонках сённяшняга нумара «ЛіМа».**

**Васіль РАГОЖНІКАЎ**

*Каб узяць удзел у конкурсе, дасылайце свае фотаздымкі на электронны адрас* **lim_new@mail.ru** *з пазнакай* **«Культурны ракурс»** *— лепшыя будуць апублікаваныя на старонках газеты!*

*Галоўныя ўмовы творчага спаборніцтва: цікава і арыгінальна сфатаграфаваць помнік гісторыі і культуры Беларусі (магчыма, на тэрыторыі іншай краіны) ці сфатаграфавацца каля яго. Прымаюцца і работы, зробленыя ў жанры сэлфі.*

*Рэдакцыя чакае не толькі ўдалага фота, але і лаканічнага, пераканаўчага тлумачэння, чаму менавіта гэты помнік падаецца вам самым значным. А таксама канкрэтных звестак пра аўтара здымка (імя, прозвішча, месца працы альбо вучобы, кантактныя дадзеныя). Аўтар можа даслаць некалькі фота. Пры адборы работ будуць улічвацца не толькі мастацкія якасці здымка, але і яго канцэпцыя, пераканаўчасць тэксту-тлумачэння.*

*Чакаем вашых фота на працягу ўсяго 2016 года і разлічваем на нязменную цікавасць да беларускай культуры!*


Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»

Галоўны рэдактар
Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК





Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

Адрас для карэспандэнцыі:
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.main.lim.by

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51



Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
Г. Я. Палякова

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк
1.09.2016 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1657.

Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 3371

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12





ISSN 0024-4686